## МАТЭРЫЯЛЫ ДЛЯ ДЫЯЛЕКТНАГА СЛОЎНІКА ГОМЕЛЬШЧЫНЫ *

### Л

ЛАБАДА′ *ж.* лебяда. Столькі травы, асобенна лабады́, бульбы не відаць (Пракопаўка, Добр.+Камаровічы, Петр.; Піркі, Браг.; Пярэдзелка, Лоеўск.).

ЛАБА′ЗА *ж.* дом *(вялікі)*. Во лаба́зу сабе настроіў (Гармавічы, Жлоб.).

ЛАБА′К *м.* вясло *(пярэдняе)*. Суседзі лаба́к прымацоўвалі наперадзе ў чоўні (Кароткавічы, Жлоб.+Баравікі, Светл.).

ЛАБА′ТЫ *прым.* 1. бязрогі. Лаба́та Саўчына карова вечна ў шкодзі, найдзе ж яе, хаця ты вазьмі да ў еку пустыню гані (Аравічы, Хойн.); У лаба́тай каровы лоб высокі і крэпкі, і малака яна мае многа (Б.-Крушынаўка, Раг.+Сівенка, Ветк.; Халочча, Чач.); 2. лабасты. А ён такі лаба́ты, як бацька (Піркі, Браг.+Марозавічы, Б.-Каш.).

ЛАБІДУ′ДА *м., зневаж.* абібок, няўклюда. Во вымахаў лабіду́да (Баравікі, Светл.). *Параўн.* лабяк II, лоб *у 2 знач.*

ЛАБО′К *м., арх.* зашчытак. Лабо́к — гэта пад хрантонам унізу стрэшка называецца (Піркі, Браг.+Крынкі, Рэч.).

ЛАБЯ′К I *м., арх.* франтон. Наперадзе ці ззаду лабя́к робіцца з шылёўкі (Баравікі, Светл.+Майскае, Жлоб.).

ЛАБЯ′К II *м., тое, што* лабіду́да. Лабя́к быў спакойны, ні раз нікога не зачапаў (Краўцоўка, Гом.). *Параўн.* лоб *у 2 знач.*

* Матэрыялы для слоўніка падрыхтавалі: Г. А. Даўгяла (літару Л), З. А. Рудакоўская, Т. С. Янкова (М), Л. І. Злобін, Н. С. Сердзюкова (Н).

ЛА'ВА I *ж.* лаўка. На ла́ву міску пастаў, я сычас вады гарачай наллю (Кароткавічы, Жлоб.); Жаніха і нявесту пасадзілі ў куце на ла́ве (Дзяржынск, Лельч.+ +Замосце, Калінк.).

ЛА'ВА II *ж.* ніва. Ла́ву жытам засеялі (Неглюбка, Ветк.).

ЛА'ВА III *ж.* бок *(вуліцы).* Ідзі на гэтую ла́ву, а то там пыльна (Славань, Светл.+Баравікі, Светл.).

ЛА'ВА IV *ж.* кар'ер. Мы тры ла́вы торху выразалі (Зялёныя Лукі, Гом.).

ЛАВА'ЦЬ *зак.* лавіць. А навошта ж куру лава́ць, ці гэта забава? (Холмеч, Рэч.+Баравікі, Светл.; Мардзвін, Петр.).

ЛА'ВАЧКА I *ж.* 1. лаўка *(у лазні).* Убяры абутак з ла́вачцы, тут жа людзі сядзяць (Марозавічы, Б.-Каш.); Пастаў таз на ла́вачку і мыйся тады (Кароткавічы, Жлоб.); А ла́вачкі ў кожнай лазні былі наўпроці палка (Касцюкоўка, Гом.+Забалацце, Раг.; Чырвоная Буда, Добр.); 2. выемка *(на рабры печы).* А ты ногі на ла́вачку пастаў (Заспа, Рэч.).

ЛА'ВАЧКА II *ж.* шайка *(банда).* Іх там цэлая ла́вачка была (Гноеў, Хойн.).

ЛАВЕР'Я'Н *м., бат.* валяр'ян. Лавер'я́н — ета ад сэрца (Холмеч. Рэч.).

ЛАВЕ'Ц *м.* ражон. Я люблю сала з лаўца́ (Ч.-Паляна, Б.-Каш.).

ЛАВУ'ШКА *ж.* вулей *(для лоўлі пчалінага рою).* Паставім вулей у лесе на дрэва, штоб славіць рой, ну а тады і гаворыш, што паставіў лаву́шку (Хізы, Ветк.).

ЛАГА'НКА *ж.* ражка. Лага́нку ету цягні ў сенцы (Быч, Карм.).

ЛАГВІ'ШЧА *н.* бярлог, логава. У лагві́шча воўкі цягаюць поўсьць, галлё, сухую траву, яны іх робяць, дзе людзі не ходзяць (Хізы, Ветк.). *Параўн.* лагво́, ло́гвіска, ло́гвішча.

ЛАГВО' *н., тое, што* лагві́шча. Залетась лесьнікі натрапілі на воўчае лагво́ (Дзвіжкі, Ельск.); А ваўкі ж, лісіцы дак у лагве́ жывуць (Запясочча, Жытк.; Крыўск, Б.-Каш.; Ручаёўка, Лоеўск.). *Параўн.* лагві́шча, ло́гвіска, ло́гвішча.

ЛАГЕ'РНЯ *ж.* снасць *(рыбалоўная).* Хіба я знаю, дзе вон, мо пашоў рыбу лаге́рней лавіць (Міклашэвічы, Лельч.).

ЛА'ДАЧКІ *толькі мн.* зборкі. А ла́дачкі на спонніцы так і стояць (Міклашэвічы, Лельч.).

ЛА'ДКА *ж., кулін.* аладка. З'еў ла́дку і больш не хочыць (Неглюбка, Ветк.); Якія смачныя ла́дкі з мёдам! (Насовічы, Добр.); Нада будзя калі ла́дак са сьмітанай здзелаць (Залессе, Чач.); Памачай ла́дкі ў вяршок, пацёпай, няхай стаяць, мо хто з'есць (Навінкі, Калінк.+ +Бабовічы, Гом.; Багданавічы, Карм.); // *кулін.* пернік. Во якіх укусных ла́дак прывезьлі ў лаўку з Гомелю (Асінаўка, Чач.+Слабада, Ветк.).

ЛА'ДНАГА *прысл.* даволі *(такі)*. А ты ла́днага грыбоў назбірала (В.-Стралкі, Раг.+Быч, Карм.; Грушаўка, Гом.; Мормаль, Жлоб.; Тульгавічы, Хойн.).

ЛАДНО' *н.* падол. Сядай ка мне на ладно́! (Навасёлкі, Петр.).

ЛА'ДНЫ *прым.* 1. даволі *(такі)* вялікі. Шчэ ла́дны кусок застаўся мне скапаць бульбы (Хальч, Гом.+Кіцін, Жлоб.; Крыўск, Б.-Каш.); 2. дарослы. Дык ужо ж ла́дныя дзевачкі ў Ганны (Баравікі, Светл.+Дзвіжкі, Ельск.).

ЛАДО'НЯ *ж.* далонь. Ладо́ня шырокая ў цібе (Марозавічы, Б.-Каш.); Паглядзі на маю ладо́ню, угадай маю судзьбу (Палессе, Чач.+Баравікі, Светл.; Забалацце, Раг.; Неглюбка, Ветк.).

ЛАДЫ'ГА *м.* хлопец *(вялікі, дарослы)*. Ой, лады́га, і ты шчэ жалішся (Баравікі, Светл.).

ЛАДЫ'ЖКА *ж.* гладыш. Як у лады́жку наліеш малако, дык яно там болей халоднае, чым у банцы (Марозавічы, Б.-Каш.).

ЛА'ДЗІБІНЫ *толькі мн.* частаванне *(мёдам, калі яго выкочваюць)* Прышла я на ла́дзібіны, ох, і пад'ела мёду (Неглюбка, Ветк.).

ЛА'ДЗІЦЬ *незак.* палоць. І ў саду том ла́дзяць гарод (Піркі, Браг.).

ЛАЖО'К *м.* паз. Зрабі лажо́к у бярвенні, каб яно добра лягло (Майскае, Жлоб.). *Параўн.* лапа II, лёжка II.

ЛАЖЧЫ'НА *ж.* лагчына. Калі лета мокрае, у гэтай лажчы́не ўсё вымакае (Бабовічы, Гом.).

ЛАЗАВІ'К *м., міф.* лясун. У тым балоце лазаві́к водзіцца (Бабовічы, Гом.+Каранёўка, Гом.). *Параўн.* лесаві́к, лесавы́ II.

ЛАЗА'К *м.* верхалаз. О, лаза́к, палез ужо і не ўпадзе ніколі. (Дзям'янкі, Добр.).

ЛА'ЗІНКА *ж.* загнёт. У ла́зінке пасуду дзержым (Марозавічы, Б.-Каш.).

ЛА'ЗІЦЦА *незак.* мыцца *(у лазні)*. Колькі гэта можна, толькі ла́зіцца, з самага ранку пайшоў і няма (Крупка, Маз.+Буйнавічы, Зладзін, Маз.).

ЛА'ЗНІК *м., міф.* дамавік. Людзі гавораць, што як паселіцца ла́знік у бані і будзе любіць гэта месца, дык і лазня будзе цёплая, а як не, дык і лазня будзе выдувацца (Касцюкоўка, Гом.).

ЛАЗО'БКА *ж.* кадзь *(для мёду)*. Лазо́бка длінненькая, да нешырокая, ну, а ў каго багата мёду, дык багонкі ё (Хізы, Ветк.). *Параўн.* лазо́ўка II.

ЛАЗО'ЎКА I *ж.* гатунак *(бульбы)*. У нашых мястох высяваюць лазо́ўку (Стаўбун, Ветк.).

ЛАЗО'ЎКА II *ж., тое, што* лазо́бка. Падай мне тую лазо́ўку, я мёду наллю (Насовічы, Добр.).

ЛАЗО'ЎКА III *ж.* памяшканне *(глінабітнае)*. У нашай вёсцы ўжо німа́ лазо́вак (Высокае, Раг.).

ЛАЗУРКАВА'ЦЬ *незак.* падсіньваць *(бялізну)*. Мама мяне лазуркава́ць вучыла (Прудок, Калінк.).

ЛА'ЗЫ *толькі мн.* лесвіца. Здзелаў мне ла́зы па пчол лазіць (Сямёнаўка, Рэч.). *Параўн.* ле́са, ле́ска II.

ЛАЙНІ'НА *ж.* ануча. Кудысь лайні́ну закінула, дак і ні помню (Целяшы, Гом.).

ЛАЙНО' *зборн.* 1. пялёнкі. Трэба на рэчку іціць і ета дзецкае лайно́ памуць (Кавака, Браг.); Багата ло́йнаў мыць (Быч, Карм.; Бабовічы, Гом.); // бялізна. Дай мне гэтае лайно́ (Бабовічы, Гом.+Забалоцце, Раг.); 2. радно. Вазьму лайно́ і схажу па дровы (Хвойнае, Хойн.).

ЛАКАТНІ'К *м.* гаршчок *(вялікі)*. Ну і лакатні́к варыш, вядра на паўтара (Тульгавічы, Хойн.); І нашто варыць у гэтым лакатні́ку боршч, ты ж ведаеш, што яго няма каму есці (Хвойнае, Хойн.).

ЛАКІ'ЗА *м., зневаж.* гультай. Ох, кума, і лакі́за ж папаўся табе! (Горваль, Рэч.). *Параўн.* латру́га, ле́галь, легкабы́т, ле́таль, лізбе́нь, ло́дар, лотр, лу́чнік, лыса́к, ля́бех, ля́мец.

ЛАКШЫ'НА *ж.* локшына. Неяк Анісся задумала лакшы́ны зварыць. А калі дабралася да яе, здзівілася, адны коркі (Амелькаўшчына, Хойн.).

ЛАМА'КА *ж.* ламачына. Ён зачапіўся за лама́ку і ўпаў (Углы, Ельск.).

ЛАМЕ'Ц *м.* чалавек *(які трэ лён на церніцы)*. Накінь

на плечы таму ламцу́ кухвайку, штоб не прастудзіўся (Астрагляды, Браг.). Ламцы́ быстра цёрлі лён (Чарнейкі, Рэч.).

ЛАМО'К *м.* лом. Дай ламо́к падняць пол (Неглюбка, Ветк.).

ЛАМПА'Д *м.* лампада. Заўтра празнік, трэба лампа́д нанач запаліць (Бабовічы, Гом.).

ЛА'НКА *ж.* дзялянка *(зямлі),* участак. Ты чула, мая галубка, што ў калгасе бульбу падзялілі на ла́нкі, мне сотак сорак пяць выкапаць трэба (Антонаў, Ельск.+ +Баравікі, Светл.).

ЛА'ННЫ *прым.* вялікі. Ла́нны клубок нітак быў, і дзе ён дзеўся? (Палянкі, Добр.).

ЛАНО' I *н.* калені. Калісь гаварылі: «Узяць дзіця на лоно́»,— а цяперака не гавораць (Холмеч, Рэч.+Бабові́чы, Гом.; Узнаж, Светл.).

ЛАНО' II *н.* спадніца. Німа кішэні, дык сып у лано́ (Тульгавічы, Хойн.).

ЛАНО' III *н.* абярэмак. Прынясі лано́ дроў (Узнаж, Светл.).

ЛА'ПА I *ж.* 1. лапа *(птушыная).* Верабей ла́пу зламаў (Неглюбка, Ветк.); Перагрэблі ўвесь ячмень сваімі ла́памі, не знаю, што ўжо і дзелаць (Холмеч, Рэч.); 2. лапа *(для выцягвання цвікоў).* Ла́па хоць і была старэнькая, а згадзілася (Халочча, Чач.); З дапамогай ла́пы выцягнулі вялікі цвік (Чырвоная Буда, Добр.); А ты паспрабуй выцягнуць ла́пай, можа што і палучыцца (Кароткавічы, Жлоб.+Засінцы, Ельск.); 3. лапа *(для панажоў у кроснах).* Ла́па ляжала паводдаль на кроснах (В.-Стралкі, Раг.); Дапамажы ўкласць панажы ў ла́пу (Кірава, Жлоб.+Неглюбка, Ветк.).

ЛА'ПА II *ж.* паз *(у бервяне).* Ла́па рубіцца на вугал, ла́пы з усіх бакоў у нас ёсць (Хізы, Ветк.+Халочча, Чач.). *Парайн.* лёжка II.

ЛАПАНО'СЫ *прым.* вастраносы *(пра лапці).* Гэтыя лапано́сыя лапці, акрамя пушчы, на сена, нікуды не надзенеш (Кароткавічы, Жлоб.).

ЛАПА'ТАЧКА *ж.* струк *(гароху).* Лапа́тачка — струк гароху, калі ў ім толькі завязваюцца зярняты (Насовічы, Добр.); Струк гароху складаецца з двух лапа́тачак (Залессе, Чач.).

ЛАПАТЛІ'ВЫ *прым.* балбатлівы. От лапатлі́вы, ну, чыста пулямёт (Кароткавічы, Жлоб.).

ЛАПАТУ'ХА I *ж.* месца *(карбатае на астрыі касы)*. Лапату́ха бывае ў няўмелага касца (Марозавічы, Б-Каш.); Каса нядрэнная, але ёсць ужо лапату́хі на лязе (Асінаўка, Светл.); Лапату́х такіх на касе надзелаў, што аж гадка глядзець (Холмеч, Рэч.+Быч, Карм.; Гармавічы, Жлоб.; Калінін, Хойн.).

ЛАПАТУ'ХА II *ж., зневаж.* жанчына *(гаваркая)*. Не баба, а лапату́ха, будзе лапатаць, лапатаць без упынку (Хальч, Гом.); Скажы той лапату́хі, каб сціхла, галава баліць ад балбатні (Зарэчча, Жлоб.+Млынок, Ельск.; Шырокі, Б.-Каш.). *Параўн.* лапатэ́ра.

ЛАПАТУ'ШКА *ж., перан.* трактар. Хлопцы пабеглы за лопату́шкай (Грушаўка, Нар.).

ЛАПАТЭ'РА *ж., зневаж., тое, што* лапату́ха II. Ета лапатэ́ра мне надаела (Харомцы, Акц.).

ЛА'ПАЦЬ *незак., груб.* хапаць *(рукамі)*. Як адзену, дак ла́паюць у цэркві, дзе ты купіла (Быч, Карм.).

ЛАПЕ'ЗА *агульн.* непаседа. Во, лапе́за, дзе ты бегала? (Палессе, Чач.).

ЛАПЕ'КА *ж.* латка. Нада ўзяць лапе́ку і заляпіць плацце (Паганцы, Светл.+Баравікі, Светл.; Кароткавічы, Жлоб.; Марозавічы, Б.-Каш.; Р. Марышонава, Гом.). *Параўн.* лапе́ха.

ЛАПЕ'ХА *ж., тое, што* лапе́ка. Дзірку лапе́хай заставіў (Баравікі, Светл.).

ЛА'ПІНКА *ж.* градка. Сённі я прапалола толькі невялікую ла́пінку (Грычынавічы, Жытк.).

ЛА'ПІЦЬ *незак.* латаць. У кухвайцы дзве дзіркі на рукавах, трэба іх ла́піць (Ліпляны, Лельч.); Калісь вопратку ла́піш, ла́піш, а цяпер людзі не ходзяць у латках (Раманавічы, Гом.); Во ж ла́плю штаны (Кароткавічы, Жлоб.). *Параўн.* ла́таць.

ЛАПКА'Н *м.* пастка. Хоча б паставіў які-нэбудзь лапка́ны, а то заець усе яблокі пообгрызае (Грушаўка, Нар.).

ЛАПТУ'Х *м.* мяшок. Муку яксьці давалі па цэламу лапту́ху (Азершчына, Рэч.).

ЛАПУ'ЦІШЧА *аг., зневаж.* няўклюда. А куды ж ты, дзевачка, глядзела. За якога ж ты лапу́цішчу ўляцела (Касцюкоўка, Гом.).

ЛА'САЎКА *ж.* ласунак. Усяго багата: Пятроўка — галадоўка, спасаўка — ла́саўка (Баравікі, Светл.).

ЛАСЁ *н. заал.* ласяня. Малое ласё даволі спрытнае (Карчовае. Хойн.). *Параўн.* ласянёнак, ласяня́тка, лысіня́тка.

ЛАСІ́ЦА *ж., заал.* ласіха. Сённі мы ў лесі такую красівую ласіцу бачылі (Навінкі, Калінк.+Холмеч, Рэч.). *Параўн.* ло́ша.

ЛА́СІЧКА *ж., заал., памянш. да* ласка. Бачыла ўчора ла́січку (Неглюбка, Ветк.).

ЛАСКАВЕ́Й *прысл.* зручней. Сядзь ласкаве́й, а то скінессся і касцей не сабярэш (Касцюкоўка, Гом.).

ЛАСКАВІ́К *м.* клінок *(для прыгатавання сыру).* У нас ласкаві́к невялікі, а адціскаем сыр камяням (Церахоўка, Добр.); Ласкаві́к шыюць з марлі (Уць, Добр.). *Параўн.* ласкаві́кень, ласкаві́тнік, ласкаві́цель.

ЛАСКАВІ́КЕНЬ *м., тое, што* ласкаві́к. Для адцэжвання творагу называюць ці мяшочак, ці ласкаві́кень, як хто хоча (Хізы, Ветк.). *Параўн.* ласкаві́тнік, ласкаві́цель.

ЛАСКАВІ́ТНІК *м., тое, што* ласкаві́к. У ласкаві́тнік ллюць аттоплены твораг (Р.-Бурыцкая, Лоеўск.). *Параўн.* ласкаві́кень, ласкаві́цель.

ЛАСКАВІ́ЦЕЛЬ *м., тое, што* ласкавік. Паднясі бліжэй да мяне ласкаві́цель (Неглюбка, Ветк.). *Параўн.* ласкаві́кень, ласкаві́тнік.

ЛА́СКЕР *зборн.* плоткі. Усё ла́скер ідзе (Каранёўка, Гом.).

ЛА́СТАЎКА I *ж., заал.* птушка. Ла́стаўка робіць сабе гняздо з гразі і вядзецца пад шыляваннем (Холмеч, Рэч.); Мабуць, заўтра будзе пагана пагода: ла́стаўкі нізка лятаюць, мошак ловяць (Ручаёўка, Лоеўск.+Баравікі, Светл.; Карчовае, Хойн.; Ліпляны, Лельч.; Мільгавічы, Жытк.).

ЛА́СТАЎКА II *ж.* устаўка *(у рукаву адзення).* Ла́стаўка такая, як платочык, і яна вот прышываецца ў рукаў (Раманавічы, Гом.); Мацірыял такі вузкі, што нада ла́стаўкі ў баках устаўляць (Р. Барталамееўка, Чач.+Кавака, Браг., Чырвоная Буда, Добр.); // устаўка *(у штанах)*; Ла́стаўкі рабілі раней у саматканых штанах (Кароткавічы, Жлоб.).

ЛАСУ́Н *м.* ласы *(да ласункаў).* Дома ўжо ўсе ведаюць малога ласуна́ (Церахоўка, Добр.); Ласуно́ў такіх многа на ету справу (Забалацце, Раг.). *Параўн.* леле́зік.

ЛАСУ́НЧЫК *памянш. да* ласу́н. Мамін ласу́нчык

жыве на адных канфетах (Халочча, Чач.). *Параўн.* ласцённік.

ЛАСТУО'ВІННІ *толькі мн.* вяснушкі. У маёй доньки, як в тэбе, ластýвінні на носі (Грушаўка, Нар.).

ЛАСЦЁННІК *м., тое, што* ласýнчык. Ласцённік, а не сын у мяне расцець (Стаўбун, Ветк.).

ЛАСЯНЁНАК *м., заал., тое, што* ласё. Ласянёнак адблудзіўся ад маткі (Бабовічы, Гом.). *Параўн.* ласянятка, лысінятка.

ЛАСЯНЯ'ТКА *м., заал., тое, што* ласё. Лосіха лосянятка водзіць (Засінцы, Ельск.). *Параўн.* ласянёнак, лысінятка.

ЛАТАКІ' *толькі мн.* пот. А ён так бег, што аж латакí цяклі па мордзе (Камаровічы, Петр.+Антонаўка, Добр.).

ЛА'ТА'ЦЬ *незак., тое, што* лáпіць. Лáтаць — гэта самая для мяне брудная работа (Бабунічы, Петр.); Лáтаем унукам усё (Кароткавічы, Жлоб.); Я з бабулькай учора латáлі (Баравікі, Светл.+Багданавічы, Карм.; Будкі, Нар.; Замосце, Калінк.).

ЛАТАЧО'К *м., памянш. да* латáк *(млынавы).* Латачóк падстаўляюць, каб мука не сыпалась (Баравікі, Светл.).

ЛАТВЕ'Й *прысл.* лепш, лепей. Цяпер мы ў калхозі жывом латвéй, як былі аднасобна (Палессе, Чач.). *Параўн.* лаўчэ́й, лацвéй.

ЛАТВО' *н.* лятoк *(у вуллі).* Праз латвó вылятаюць пчолы з вулляў (Неглюбка, Ветк.). *Параўн.* лётва, лётка, лятвó.

ЛА'ТКА I *ж.* 1. лапік. Німа як больш латаць: і так лáтка на лáтцы (Халочча, Чач.); Трэба знайсці добру лáтку ды палатаць куфайку (Будкі, Нар.); Аўчыну ачысьцяць ад шэрсьці і етай лáткай латаюць (Чырвоная Буда, Добр.); Трэба лáткі новыя прыклеіць на перады чабот (Р.-Камнева, Лоеўск.); 2. мухалоўка. Бі муху лáткай (Баравікі, Светл.); 3. прагаліна. Калі збожжа чамусь не ўзышло на полі, голыя лагіны называюць лáткамі (Бабовічы, Гом.).

ЛА'ТКА II *ж.* міска *(гліняная).* З'еў лáтку супа (Неглюбка, Ветк.); У нас міска гліняная завецца лáткай (Асінаўка, Чач.+Неглюбка, Ветк.). *Параўн.* лахáня, лóханька.

ЛА′ТКІ *толькі мн.* фіранкі. У суботу павешу новы ла́ткі на вокнах, гарна будэ (Грушаўка, Нар.).

ЛАТРУ′ГА *аг., зневаж., тое, што* лакіза. Ой, латру́га, ты латру́га, што ж мне рабіць з табой? (Багданавічы, Карм.+Грушаўка, Добр.). *Парайн.* ле́галь, легкабы́т, ле́жань, лізбень, ло́дар, ло́тр, лу́чнік, лыса́к, ля́бех, ля́мец III.

ЛАТУ́Н I *м.* рыззё. Скінь ты гэты лату́н (Уб.-Рудня, Лельч.+Багуцічы, Ельск.).

ЛАТУ′Н II *м.* чалавек (*непаседлівы*). Ён такі лату́н, круцёлка, як вуж на верацяне круціцца (Аравічы, Хойн.).

ЛАЎЖО′ *н.* лоўж. І адкуль тут лаўжо́ з'явілася? (Шалухоўка, Ветк.). *Парайн.* ло́бжа, ло́мжа.

ЛА′ЎКА I *ж.* услон. Трэба зрабіць нову ла́ўку (Грушаўка, Нар.).

ЛА′ЎКА II *ж.* магазін. Хлеб ета ў ла́ўку раніцай завозяць (Хізы, Ветк.).

ЛАЎЧЭ′Й *прысл., тое, што* латве́й. Лаўчэ́й ба было, каб я яго саўсім болей не ўбачыла (Стаўбун, Ветк.). *Парайн.* лацве́й.

ЛАФЕ′ТКА *ж., буд.* лата. О, ты маладзец, роўна прыбіў лафе́ткі на крышы (Стаўбун, Ветк.).

ЛАХАДЫ′М *м., зневаж.* гуляка. Калі хто любіў па гасцях хадзіць, выпіваць, таго называлі ў нас лахады́мам (Касцюкоўка, Гом.).

ЛАХА′НДРЫКІ *кулін., толькі мн.* ласункі. Во нарабіла розных лаха́ндрыкаў (Заходы, Рэч.). *Парайн.* ла́харды.

ЛАХА′НЯ *ж., тое, што* ла́тка II. Учынілі паску ў лаха́ні, бальшыя булі такіе (Холмеч, Рэч.). *Парайн.* ло́ханька.

ЛА′ХАРДЫ *кулін., толькі мн., тое, што* лаха́ндрыкі. Ты ўсе ла́харды паясі (Паганцы, Светл.).

ЛА′ХАРЫЦА *ж., зневаж.* непаседа. У нас была ў вёсцы баба, якая што і знала, як лахаць па дварах, яе ў нас называлі ла́харыца (Касцюкоўка, Гом.).

ЛА′ХАЦЬ *незак.* 1. шукаць. Не ла́хай, усё роўна нічога не знойдзеш (Крыўск, Б.-Каш.); 2. бегаць. Дзе ён ла́хаў цэлы дзень? (Грушаўка, Добр.).

ЛАХМАНЫ′ *толькі мн.* абноскі, рызманы. Лахманы́ валяліся ў кутку ў сенцах (Асінаўка, Чач.); Лахманы́ навешае на сябе і ідзець нібы старац (Нісімкавічы, Чач.+Кавака, Браг.; Насовічы, Добр.).

ЛАХМО'ТКА *ж.* абносак, рызман. На ярмалку кожны хоча купіць якую-небудзь лахмо́тку (Палессе, Чач.).

ЛАХУ'ДРА *ж., зневаж.* жанчына *(неахайная).* Вось лаху́дра, ніколі добра не апранецца (Зарэчча, Жлоб.); Хіба мая лаху́дра дагледзіць хату ці дагледзіць грады? (Прудок, Калінк.); Ходзе лаху́драй па белу свету (Карма, Добр.+Пясчанікі, Жытк.; Вышалаў, Петр.; Крыўск., Б.-Каш.).

ЛАХУ'ДРЫ I *прым., зневаж.* неахайны. Які ты прышоў у школу лаху́дры (Карчовае, Хойн.).

ЛАХУ'ДРЫ II *толькі мн.* валасы. Як памёр Анюцін Сціпан, дык яна доўга бегала з распушчанымі лаху́драмі (Шырокі, Б.-Каш.).

ЛАЦВЕ'Й *прысл., тое, што* латвей. У цябе гэта зрабіць лацвей. (Баравікі, Светл.). *Параўн.* лаўчэй.

ЛАЧАЧУ'ХА *ж., зневаж.* жанчына *(мажная).* Баба ў яго лачачу́ха такая, зямля пад ёй дрыжыць (Стаўбун, Ветк.).

ЛАША' *н., заал.* жарабя. Лаша́ па вясне ўзродзіцца, а восенню адсаджаюць ад маткі (Углы, Браг.+Аравічы, Хойн.); Лаша́ і запрагаць ужо можна з другімі коньмі (Навінкі, Калінк.); Цяпер у нас у калхозі с пяць лаша́т маленькіх (Будкі, Нар.). *Параўн.* лашаня́, лаша́тка, лашо́нак.

ЛАШАНЯ' *н., заал., тое, што* лаша́. У нас у калхозі е лашаня́, за кабілой бегае (Засінцы, Ельск.); Як бы ета лашаня́ спутаць, а то збежыць куды (Каравацічы, Рэч.+ +Махновічы, Маз.). *Параўн.* лаша́тка, лашо́нак.

ЛАША'ТКА *н., заал., тое, што* лаша́. Глянь, вунь якое лаша́тка бегае (Піркі, Браг.). *Параўн.* лашаня́ лашо́нак.

ЛАШО'НАК *м., заал., тое, што* лаша́. Ад етай кабылы слаўны лашо́нак быў (Бабовічы, Гом.+Неглюбка, Ветк.; Марозавічы, Б.-Каш.); Лашо́нка прывяла кабыла (Забалоцце, Раг.+Залессе, Чач); Што ты мне ету кабылу з лашо́нкам даеш? (Халочча, Чач.+Багданавічы, Карм.; Сівенка, Ветк.). *Параўн.* лашаня́, лаша́тка.

ЛАШУПА'ЙКА *ж.* лушпіна. Лашупа́йкі не кідай куды зра, а аддай курам (Калінічы, Нар.); Бачыш, карова карзіну лашупа́ек з'ела (Піркі, Браг.).

ЛАШЫ'ЦА *ж. заал.* кабыла. Ой, якая худая лашы́ца (Забалацце, Раг.+Засінцы, Ельск.).

ЛЕ *прыназ.* 1. для. Я снеданне ле вас наварыла (Ліп-

ляны, Лельч.); 2. каля, ля. Я ле сваіх дзетак топаю і топаю (Калацін, Б.-Каш.).

ЛЕ́ГАЛЬ *м., тое, што* лакіза. І навошта даручаць такую адказную справу гэтаму ле́галю (Харомцы, Акц.). *Парайн.* латру́га, легкабы́т, ле́жань, лізбе́нь, ло́дар, лотр, лу́чнік, лыса́к, ля́бех, ля́мец.

ЛЕГКАБЫ́Т *м., тое, што* лакі́за. А той легкабы́т толькі ляжыць на печы (Дубраўка, Добр.). *Парайн.* латру́га, ле́галь, ле́жань, лізбе́нь, ло́дар, лотр, лу́чнік, лыса́к, ля́бех, ля́мец.

ЛЕГКАВІ́К *м.* аўтамабіль *(легкавы)*. У нашай вёсцы багата легкавіко́ў (Забалаццe, Раг.). *Парайн.* легкаві́чка, легкаву́шка.

ЛЕГКАВІ́ЧКА *ж., тое, што* легкаві́к. Мы з лесу пад'ехалі на легкаві́чцы (Графец, Раг.). *Парайн.* легкаву́шка.

ЛЕГКАВУ́ШКА *ж., тое, што* легкаві́к. Ён на легкаву́шкі прыязджаў (Баравікі, Светл.). *Парайн.* легкаві́чка.

ЛЕ́ДНІК *м.* склеп. Усё, што на стале, штоб не спорцілася, занясслі ў ле́днік (Халочча, Чач.+Стаўбун, Ветк.).

ЛЕ́ДЗЕНЬ *м.* кавалак *(лёду)*. Ле́дзень быў на дне цэбра (Палессе, Чач.); На рэчцы ўжэ столькі ледзяно́ў сабралася (Пучын. Раг.). *Парайн.* лядзя́нка, лядзя́шка...

ЛЕ́ЖАНЫ *прым.* ляжалы. Узімку сыну насыпала ле́жаных ігруш (Неглюбка, Ветк.+Холмеч, Рэч.). *Парайн.* ле́жкі, лёжкі.

ЛЕ́ЖАНЬ I *м., зневаж., тое, што* лакі́за. Ле́жань ты гэтакі, касіць ужо пара (Баравікі, Светл.); О ле́жань, нічога не хоча рабіць (Грушаўка, Нар.). *Парайн.* латру́га, ле́галь, легкабы́т, лізбе́нь, ло́дар, лотр, лу́чнік, лыса́к, ля́бех, ля́мец III.

ЛЕ́ЖАНЬ II *м., заал.* лялек. Ле́жань такі шэры, жыве на пяску, там і яечкі свае кладзе (Ручаёўка, Лоеўск.+Навінкі, Калінк.).

ЛЕ́ЖКА I *ж.* лежня. Сабака знайшоў свежую ле́жку зайца і пайшоў па следу (Кароткавічы, Жлоб.+Літвінавічы, Карм.; Піркі, Браг.).

ЛЕ́ЖКА II паз *(у бервяне)*. Без ле́жкі бервяно не будзе добра трымацца (Чырвоная Буда, Добр.). *Парайн.* лёжка.

ЛЕ́ЖКІ *прым., тое, што* ле́жаны. Ле́жкія вельмі яб-

лыкі, але смаку ў іх няма. (Капараўка, Рэч.+Забалацце Раг.). *Параўн.* лёжкі.

ЛЕ́ЗВІГ *м.* лязо. Такі лёзвіг востры, пальцы папарэзаў (Піркі, Браг.). *Параўн.* лёза.

ЛЕ́ЗІВА *н.* лесвіца *(з вяроўкі)*. Нада, шоб лёзіва з добрай вероўкі було (Холмеч, Рэч.). *Параўн.* лёзьва.

ЛЕ́ЗЬВА *н., тое, што* лёзіва. Сперва трэба лезьці на дзераво к вуллю на острове, а там на лёзьві прыстрайваецца седзенне, і назад бортнік спускаецца (Заходы, Лельч.+Антонаў, Ельск.).

ЛЕЙ *м.* алей. Лей дзелаюць і з падсонцаў, і з лёну, і з канапель (Неглюбка, Ветк.); Ідзі ў лаўку і купі пляшку ле́ю (Асінаўка, Чач.).

ЛЕ́КТРА *ж.* электрычнасць. Раней была кірасінка, а цяпер лектра ўсюды паявілась (Салтанаўка, Б.-Каш.).

ЛЕЛЕ́ЗІК *м., тое, што* ласу́н. От лелёзік, не есць чаго трэба (Піркі, Браг.).

ЛЕМЯГІ́ *толькі мн.* прасценак *(у зрубе паміж вокнамі)*. Для хаты ета будуць тоўстыя лемягі́ (Карма, Добр.).

ЛЕ́СА *ж., тое, што* ла́зы. Каля дуба паставілі лёсу (Астрагляды, Браг.+Аравічы, Хойн.). *Параўн.* ле́ска II.

ЛЕСАВІ́К *м., міф., тое, што* лазаві́к. Як лесаві́к які нападзе, дак папаводзіць па лесу (Баравікі, Светл.+ +Дзем'янкі, Добр.; Ліпнякі, Лоеўск.; Ломыш, Хойн.); Бабка вельмі баялася лесавіка́ (Азяраны, Жытк.). *Параўн.* лесавы́ II.

ЛЕСАВЫ́ I *прым.* лясны. Лесавы́я яблыкі, як прымёрзнуць, вельмі смачныя (Дабрынь, Ельск.+Запясочча, Жытк.; Лядцы, Светл.; Насовічы, Добр.; Падворак, Лельч.; Пярэдзелкі, Лоеўск.; Ручаёўка, Лоеўск.; Шырокі, Б.-Каш.).

ЛЕСАВЫ́ II *м., тое, што* лазаві́к. Ноччу ў лесе хадзіць нельзя: у гэты час лесавы́ ходзіць (Беразнякі, Петр.). *Параўн.* лесаві́к.

ЛЕСАПЕ́ТА *ж.* веласіпед. Унучка, сядзь на лісапе́ту да каперацыі праедзь (Холмеч, Рэч.).

ЛЕ́СКА I *ж., рыб.* лёска. На кожную рыбу патрэбна асобая ле́ска: на малую — тонкая, на крупную — таўсцейшая (Кароткавічы, Жлоб.+Марозавічы, Б.-Каш., Старажоўцы, Жытк.).

ЛЕ́СКА II *ж., тое, што* ла́зы. Ото на крышу, да трубы, ле́скай трэба лезці (Піркі, Браг.). *Параўн.* ле́са.

ЛЕ'СКА III *ж.* мат *(саламяны)*. Етай зімой вокны лескамі ні закрывалі (Апанасаўка, Гом.+Дзям'янкі, Добр.).

ЛЕ'СКА IV *ж.* агарожа *(з тонкіх палак)*. Вісяць трапкі на лесцы (Стары Хутар, Светл.).

ЛЕ'СКАЎКА I *ж.* дзічка *(плод)*. Сын прынёс лескавак цэлы клунак (Жгунь, Добр.+Апанасаўка, Гом.). *Парайн.* ляскоўка.

ЛЕ'СКАЎКА II *заал.* лешч. Хіба ж так лескаўку з вады цягаюць? (Грушаўка, Нар.).

ЛЕ'ТАСЬ *прысл.* у мінулым годзе. Летась такая бульба дабрэнная ўрадзілася (Кароткавічы, Жлоб.+ Васілева, Гом.; Івакі, Добр.; Забалоцце, Рэч.; Холмеч, Рэч.).

ЛЕ'ТНІК I *м.* 1. пінжак *(летні)*. Апранай летнік, дык будзе трохі зацішней (Буйнавічы, Маз.); Сення ў нашу лаўку прывезлі ўсялякіх летнікаў (Тульгавічы, Хойн. +Жгунь, Добр.; Капань, Рэч.; Крупейкі, Лоеўск.; Салтанаўка, Б.-Каш.); 2. спадніца *(саматканая)*. Цяпер ужэ такія летнікі з моды вуйшлі (Углы, Нар.).

ЛЕ'ТНІК II *м.* дарога *(летняя)*. На луг паедзем па летніку (Бабовічы, Гом.); Летнікам усё лета хадзілі (Хізы, Ветк.).

ЛЕ'ТАШАК *м., заал.* жывёла *(мінулагодняя)*. Я даўно казала сыну здаць леташка ў калгас (Бабовічы, Гом.+Залессе, Чач.). *Парайн.* леташка.

ЛЕ'ТАШКА *ж., заал., тое, што* леташак. Цёлку-леташку сёння прадала (Хальч, Чач.); Сеголетка як паразімуе, дак леташкай завуць (Холмеч, Рэч.).

ЛЕ'ЦЕЧКА *н., памянш. да* лета. Лецечка работала дома: ні разу не выйшла на вечарынку (Запясочча, Жытк.).

ЛЕ'Я *ж., толькі адз.* дождж *(праліўны)*. Ох, і лея была сёння (Піркі, Браг.).

ЛЁЖКА *ж., тое, што* лёжка II. Без лёжкі не паложаш браўно. Глядзі, каб у лёжку не папала трэсак (Забалоцце, Раг.).

ЛЁЖКІ *прым., тое, што* лёжаны. Маркоўка, буракі, бульба — лёжкая гародніна (Даманавічы, Калінк.+Залессе, Чач.; Сямёнаўка, Рэч.). *Парайн.* лежкі.

ЛЁЗА *н., тое, што* лёзвіг. У маёй брытвы лёза выкрышылась (Заспа, Рэч.); Лёза сякеры ступілася (В. Нямкі, Ветк.); У яго ёсць нож з вельмі доўгім лёзам (Баравікі, Светл.+Лукі, Жлоб.).

ЛЁЛЯ *ж.* дзіцячае адзенне. Лёля — гэта доўгая сарочка дзіцёнка (Нісімкавічы, Чач.); Трэба донечцы лёлю перадзець (Кавака, Браг.); Нашто столь лёляк малому нашываць? (Камунар, Б.-Каш.+Быч, Карм.; Рафалаў, Браг.; Шарын, Ельск.).

ЛЁМ *м., бат.* ільма. Лём мяккі, як лаза (Гармавічы, Жлоб.); Стары чалавек лём не знае: выдзяляць яго сталі нідаўна (Марозавічы, Б.-Каш.+Быч, Карм.; Дзям'янкі, Добр.; Пярэдзелка, Лоеўск.).

ЛЁПНУЦЦА *зак.* упасці. Не бегай ты, як шалёны, а то лёпнісся ў калугу (Быч, Карм.).

ЛЁТВА *ж., тое, што* латво́. Лётву я роблю толькі знізу вулля (Заходы, Лельч.). *Параўн.* лётка, лятво́.

ЛЁТКА *ж., тое, што* латво́. Глянь, пчала ў лётку палезла (Кароткавічы, Жлоб.). Праз гэтыя лёткі пчолы ўлазяць у вуллей (Дзям'янкі, Добр.). *Параўн.* лятво́.

ЛЁХ *м.* склеп. Лёх — гэта пограб для гародніны (Запясочнае, Маз.); Трэба занесьці жару ў лёх, бо бульба замерзне (Дзяржынск, Лельч.); Набяры капусты ў лёсі (Макарычы, Петр.).

ЛЁХНУЦЬ *зак.* аббегаць. За час хаціця ўсе хаты лёхнуць (Баравікі, Светл.).

ЛІГКАВУ'ШКА *ж., тое, што* легкаві́к. Лігкаву́шка як застрала ў калузі, чуць выцягнулі (Быч, Карм.).

ЛІГО'ТА ж. ільгота. Мая дачка парабіла два гады, а цяпер будзе вучыцца: ужо ёй ліго́ты будуць (Перароў, Жытк.).

ЛІ *прыназ.* над, з. Толькі пасміяўся ён лі яе. А Маруся лі казака смяецца (Рафалаў, Браг.).

ЛІДЗЬВІ'НАЎКА *ж.* танец. Раней лідзьві́наўку танцавалі. Гэта красівы танец (Заходы, Рэч.).

ЛІ'ЖАЎКА *ж.* хустка *(суконная)*. Чорная лі́жаўка такая зручная! Яна і цёплая, і мяккая (Казацкія Балсуны, Ветк.).

ЛІЗБЕ'НЬ *м., тое, што* лакі́за. Даўся нейкі лізбе́нь, ні туды яго не паслаць, ні сюды (Цегельня, Раг.). *Параўн.* латру́га, ле́галь, легкабы́т, ле́жань, ло́дар, лотр, лу́чнік, лыса́к, ля́бех, ля́мец III.

ЛІЛЕ'ЙНЫ *бат., прым. да* лілея. Ліле́йны цветок прыгожы (Марозавічы, Б.-Каш.).

ЛІМЕ'НЕВЫ *прым.* алюмініевы. Купіла ліме́невы чагунок (Хвойнае, Хойн.). *Параўн.* ляме́невы.

ЛІМО'НКА *ж.* гатунак *(груш)*. Лімо́нка па знешня-

му выгляду падобна на лімон (Пярэдзелка, Лоеўск.); Е ў міне лімонкі, ды шчэ маладыя (Піркі, Браг.).

ЛІН *м., заал.* лінь. Лін — самая жырная рыба і добра ловіцца на чарвяка (Багданавічы, Карм.); Злавіў ліна, ляжыць, як цяля, на беразе возера (Запясочча, Жытк.); Ліны ў гразі, нагамі босымі наступалі (Бабовічы, Гом.+Неглюбка, Ветк.; Старажоўцы, Жытк.).

ЛІНО'ЧАК *м., заал. памянш. да* лін. Рыба не лавілася, але паймалі аднаго ліночка (Запясочча, Жытк.).

ЛІ'ПАЎКА *ж.* бочка *(ліпавая)*. Ліпаўкі выдзелвалі з ліпы, у якой серцавіна выгнівала (Любань, Б.-Каш.). *Параўн.* ліпоўка, лубка *ў 2 знач.*, лубок *у 2 знач.*

ЛІ'ПКА *ж.* герань. Дужа прыгожыя ліпкі ў цябе (Ветка, Гом.).

ЛІ'ПНІК *м.* ліпняк. Учора была граза, дык у ліпніку паламала багата ліп (Марозавічы, Б.-Каш.).

ЛІПО'ВЫ *прым.* ліпавы. Ліповым мёдам лечыцца можна (Холмеч, Рэч.).

ЛІПО'ЎКА *ж., тое, што* ліпаўка. Поўная ліпоўка мёду (Неглюбка, Ветк.); Каля вулля стаяла ліпоўка, у яе злілі мёд (Астрагляды, Браг.+Гарадзец, Раг.; Насовічы, Добр.). *Параўн.* лубка *ў 2 знач.*, лубок *у 2 знач.*

ЛІ'РНІЦКІ *прым., гіст.* жабрацкі. Сляпыя старцы хадзілі з лірай, пелі лірніцкія песні (Баравікі, Светл.).

ЛІСА'ВЫ *прым.* ліслівы. Наш сусед нехарошы чалавек, лісавы (Аравічы, Хойн.).

ЛІСАПЕ'Д (лісапет) *м.* веласіпед. Ты паладзіў мой лісапед? (Норкаўшчына, Карм.+Пясочнікі, Жытк.); На лісапетах пакацілі некуды (Прудок, Калінк). *Параўн.* лісапета.

ЛІСАПЕ'ТА *ж., тое, што* лісапед (лісапет). Добра жывуць, калі сыну лісапету купілі (Хвойнае, Хойн.); Колькі ў яго ўжэ гэтых лісапет было! (Марозавічы, Б.-Каш.+Макарычы, Петр.; Стаўбун, Ветк.; Тульгавічы, Хойн.).

ЛІСЁНКА *ж.* торба *(палатняная)*. Вазьмі ж лісёнку, я ж табе там яечак палажыла (Сяўкі, Лоеўск.).

ЛІСІ'ТЧЫН *прым.* лісіны. У лісітчынай нары я бачыў лісянят (Хізы, Ветк.). *Параўн.* лісічын.

ЛІСІ'ЧЫН *прым., тое, што* лісітчын. Мы лісічыну нару ў лесе бачылі (Навінкі, Калінк.).

ЛІСІ'ЦА І *ж.* 1. *заал.* ліса. Лісіца стала на дарозі і брахала (Марозавічы, Б.-Каш.+Насовічы, Добр.); Лі-

сіцу я не ахоціў (Засінцы, Ельск.); 2. *перан.* ліслівец. Ну і лісíца — усё выманіць (Ч.-Паляна, Б.-Каш.+Ветка, Гом.).

ЛІСІ′ЦА II *ж.* прыстасаванне *(накшталт ціскоў)*. Лісíца і ціскі ў нас адно і то жа, у іх зажымаюць што-небудзь (Халочча, Чач.); З дапамогай лісíцы цясалі жэрдкі (Чырвоная Буда, Добр.).

ЛІСІ′ЦЫ *толькі мн., бат.* лісічкі. Раніцой дзеці хадзілі па лісíцы (Баравое, Лельч.). *Параўн.* ліскі, лісянкі, лысмáчкі.

ЛІСКАТУ′ХА *ж.* званок. Барбаціць, як ржавая лiскатýха (Палессе, Чач.).

ЛІ′СКІ *бат., толькі мн., тое, што* лісíцы. Ліскі — то жоўценькія грыбы, кучкамі растуць (Баравікі, Светл.). *Параўн.* лісянкі, лысмáчкі.

ЛІСКО′ЎКА *ж., тое, што* лéскаўка I. Нісмачная ліскóўка, калі ніспелая (Марозавічы, Б.-Каш.); Гэтае яблыка падобна да ліскóўкі (Хальч, Ветк.). *Параўн.* ляскóўка.

ЛІСЦЕ′РКА *ж.* люстэрка. У нас пабілася лісцéрка (Славань, Светл.).

ЛІСЦЁЎНІК *м., зборн.* лес *(ліставы)*. Лісцёўнік далёка ад нас (Багданавічы, Карм.).

ЛІСЦЯВЫ′ *прым.* лес *(ліставы)*. Лісцявы лес вялікі вырас (Неглюбка, Ветк.).

ЛІСЯ′НКІ *толькі мн., тое, што* лісíцы. Трэба схадзіць калі па лісянкі да насмажыць (Дзям'янкі, Добр.). *Параўн.* ліскі, лысмáчкі.

ЛІСЯНЁНАК *м., заал.* лісяня. Маленькага лісянёнка прынеслі з лесу (Бабовічы, Гом.). *Параўн.* лісянятка.

ЛІСЯНЯ′ТКА *н., заал. тое, што* лісянёнак. Лісянятки былі пахожы на матку (Насовічы, Добр.).

ЛІ′ТРА *ж.* літр. У етую бутылку цэлая літра лезе (Лукі, Жлоб.); Дай каню два літры аўса (Піркі, Браг. +Любань, Б.-Каш.).

ЛІ′ФІК (ліхвік) *м., устар.* адзенне *(жаночае без рукавоў)*. Паспрабуй ціпер маладых застаў ліфіка на сарочку надзець (Г.-Барталамееўка, Чач.); Ліхвік насілі палатняны ці з байкі, пашыю і нашу. Усё ўрэмя насілі: і замужам, і дзеўкай, ён цёплы, да як жа (Бабовічы, Гом.+Забалацце, Раг.; Марымонава, Гом.; Рафалаў, Браг.).

ЛІХАЛЕ′ЦЦЕ *н.* 1. бяда. Ідзе якое ліхалéцце не бу-

дзе, а ўсё на маю галаву (Салтанаўка, Б.-Каш.); Хадзіла ліхалéцце па чаротам, па балотам, нябожчыкаў шукала (Баравікі, Светк.); 2. *перан.* неслух. Во ў мяне ліхалéцце расце (Шылавічы, Б.-Каш.).

ЛІХІ′ *прым.* 1. злы, нядобры. Вельмі ліхí бугай, не йдзі ты, бо заб'е (Пясчанікі, Жытк.); Ліхí чалавек так упячэцца, што ўбіў бы (Неглюбка, Ветк.); 2 *перан.* дрэнны, стары. Світка ў цябе ліхáя (Махновічы, Маз.).

ЛІЧКАВА′ТЫ *прым.* прыгожы. Ох, і лічкавáты ў мене сын! (Піркі, Браг.).

ЛІ′ШТА *ж.* ліштва. Падлажы ліўшту, бо сукенка доўга (Махновічы, Маз.).

ЛОБ *м.* 1. *анат.* лоб. У яго лоб вялікі, ды мазкоў мала (Чачэрск, Гом.); Яны стукнуліся прама ў лоб (Тураў, Гом.+Чацвярня, Жлоб.); 2. *зневаж., тое, што* лабідýда. Такія лбы здаровыя (Камунар, Б.-Каш.). *Параўн.* лабя́к II.

ЛО′БЖА *ж., тое, што* лаўжó. Дзеўкі мае, бывае, складаюць у лесе етыя лóбжы (Хізы, Ветк.). *Параўн.* лóмжа.

ЛО′БІК *м.* вушка *(кошыка)*. У кошыку два лóбікі (Баравікі, Светл.).

ЛО′ГВІСКА *н., тое, што* лагвó. У лóгвіску аказалася ажно цэлых пяцёра малых ваўчанят (Залессе, Акц.). *Параўн.* лагвíшча, лóгвішча.

ЛО′ГВІШЧА *н., тое, што* лагвó. У лóгвішчы гэтым і жыў вывадак (Марозавічы, Б.-Каш.+Халочча, Чач.; Багданавічы, Карм.). *Параўн.* лагвíшча, лóгвіска.

ЛО′ДАР *м., зневаж., тое, што* лакіза. Людзі шапкі на галаве не хватаюць, а лóдар на печы ляжыць (Халочча, Чач.+Бабовічы, Гом.). *Параўн.* латрýга, лéгаль, легкабы́т, лéжань, лізбéнь, лотр, лýчнік, лысáк, ля́бех, ля́мец.

ЛО′ДАЧКІ *толькі мн.* туфлі *(жаночыя)*. Бацька, купі мне лóдачкі (Хвойнае, Хойн.).

ЛО′ЖАЧКА *ж.* прыстасаванне *(для снавання кроснаў)*. Лóжачкі спускаюць кросны (Неглюбка, Ветк.).

ЛО′ЖАШНІК *м.* прыстасаванне *(для захоўвання лыжак)*. Лóжашнік павесіў, а ложкі яшчэ німа ніводнай (Казацкія Балсуны, Ветк.).

ЛО′КША *ж.* соус *(з пшанічнай мукі)*. Сёння я буду рабіць лóкшу (Піркі, Браг.); // суп *(малочны з крухмалу)*. Ешце, дзеўкі, лóкшу (Піркі, Браг.); Суп еты такі ўкусны, крухмал з малаком, лóкшай называецца (Аравічы, Хойн.).

ЛО'МЕНЬ *м.* пастка. Паставіў ло́мень (Неглюбка, Ветк.).

ЛО'МЖА *ж., тое, што* лаўжо́. Ляжыць, кажа, цэлая ло́мжа (Неглюбка, Ветк.). *Параўн.* ло́бжа.

ЛО'НКА *ж.* ямка. На гуркі трэба шырокія ло́нкі рабіць (Харомцы, Акц.).

ЛО'ПАЦЦА *незак., груб.* крычаць. Можа, ужо час ты ло́паісся (Вімін, Раг.); Во ло́паецца на ўсё горла (Кароткавічы, Жлоб.).

ЛОТ *м., гіст.* мера вагі. Зараз у магазіне весяць усё на кілаграмы, а раней ло́ты булі (Аравічы, Хойн.).

ЛОТР *м., зневаж., тое, што* лакіза. Пакроў спрашвае ў латро́ў: «Што дзелалі лета?» (Касцюкоўка, Гом.). *Параўн.* латру́га, ле́галь, легкабы́т, ле́жань, лізбе́нь, ло́дар, лу́чнік, лыса́к, ля́бец, ля́мец III.

ЛО'ХАНЬКА *ж., тое, што* ла́тка II. Налій вады ў ло́ханьку, дый пастаў у печ (Руднае, Хойн.). *Параўн.* лаха́ня.

ЛО'ША *ж., тое, што* ласіца. А бувае, што і ло́ша забягіць сюды (Аравічы, Хойн.).

ЛУ'БАЧКА *ж., памянш. да* лу́бка *ў 3 знач.* Ета така кругленька дзежачка без абручоў, так і гаворацць: «лу́бачка» (Ручаёўка, Лоеўск.).

ЛУБІ'НА *ж., зневаж.* конь *(стары).* Лубі́на старая такая, што ўжо з лет вон (Хізы, Ветк.).

ЛУ'БІНІШЧА *н.* поле *(для лубіну).* Лу́бінішча ўзараем, а тады будзем сеяць жыта (Бывалькі, Рэч.); На лу́бінішчы потым вельмі добрая зямля (Баравікі, Светл.). *Параўн.* лубя́нішча, люпінішча.

ЛУ'БКА *ж.* 1. лубянка. У мяне сёлета саўсім мала ячменю: тры лу́бкі ўсего пасеяла (Кароткавічы, Жлоб.); Там вон крупы ў лу́бцы, дык ты вазьмі сабе (Баравікі, Светл.); 2. *тое, што* ліпаўка. Вялікая была лу́бка, з ліпы прама выдоўбвалі, дзенцо заставалася, і мёд налівалі (Холмеч, Рэч.); Я сабіраю мёд у лу́бку (Баравікі, Светл.); Лу́бкі ў нас дзелаюць з альхі (Марозавічы, Б.-Каш.); Такіх бочак няма цяперака, а тады называлі лу́бкамі (Баравікі, Светл.). *Параўн.* ліпо́ўка, лубо́к *у 2 знач.;* 3. вулей у лесе. Вулей, які рабілі з адрэзка дрэва, выбіўшы сарцавіну, называлі «лу́бка» (Грушаўка, Добр.); Дай мне лу́бкі, рой уцякае, німа куды злавіць (Сямёнаўка, Рэч.); 4. лубок. Яму налажылі лу́бкі (Неглюбка, Ветк.).

ЛУБО'К *м.* 1. шына. Лубóк у нас із ліпы дзелаюць, калі палом рукі, то лубкí накладаюць (Хізы, Ветк.); 2. *тое, што* ліпаўка. Лубкі для мёду дзелаюць большай часцю з ліпы (Карма, Добр.). *Параўн.* ліпóўка, лýбка *ў 2 знач.;* 3. вокладка. Я ўзяла сённі ў бібліятэцы кнігу без лубкóў (Хвойнае, Хойн.).

ЛУБЯ'НАЧКА *ж., памянш. да* лубя́нка. Казалі, у лесе ягад німа, а мы прынеслі поўныя лубя́начкі (Марозавічы, Б.-Каш.).

ЛУ'БЯ'НІШЧА *н., тое, што* лýбінішча. На лýбянішчы жыта добрае расце (Неглюбка, Ветк.); А на лубя́нішчу басеком ужэ не пройдзем, так колка (Холмеч, Рэч.). *Параўн.* люпінішча.

ЛУГО'ЎКА *ж.* вада *(шчолачная).* Вада з попелам для адбельвання палатна — ета лугóўка (Дзям'янкі, Добр.); Лугóўку выліла, лішняя аказалася (Багданавічы, Карм.).

ЛУ'ЖЫЦЬ *незак., тое, што* луза́ць *у 1 знач.* Стружкі квасолі ці бобу лýжаць і вараць суп (Піркі, Браг.).

ЛУЗАНЕ'Ц *м.* лузан. Лузанéц — ета дужа спелы арэх. Возьміш, сціснеш яго, ён і лузаіцца (Хізы, Ветк.). *Параўн.* лушча́к.

ЛУЗАНУ'ЦЬ *зак., перан.* секануць. Ён як лузанýў мяне пугай па спіне (Кіцін, Жлоб.).

ЛУЗА'НЧЫК *м., памянш. да* лузанéц. З лесу столькі луза́нчыкаў прынеслі (Неглюбка, Ветк.).

ЛУЗА'ЦЬ *незак.* 1. лушчыць. Падай квасолю, луза́ць буду (Неглюбка, Ветк.); 2. грызці. О, кажа, маладзіца: сядзе на прызбе і арэхі луза́е (Холмеч, Рэч.); 3. *перан.* біць. Вельмі раздураны сын буў: бацька яго страшыў, есці не даваў, луза́ў — што шкуру спушчаў (Прудок, Калінк.).

ЛУ'ЗКА *ж., памянш. да* лаза. З лазы лапці плетуць, а лýзка — зусім маленькая лаза (Грушаўка, Нар.).

ЛУЗКА' *ж.* 1. луска. Лузка́ добра чысціцца ў карася (Багданавічы, Карм.); Цепер такіх карпаў разводзяць, што і лузкí ў іх пашці нема (Холмеч, Рэч.); 2. адходы *(пры ачыстцы зерня, збожжавых культур).* Лузкí пасля грэчкі многа астаецца (Холмеч, Рэч.). *Параўн.* лупа́ I; 3. перхаць. У тваёй каровы многа лузкí (Неглюбка, Ветк.).

ЛУНА'ВЫ *прым.* блізарукі. Лунáвы бачыць толькі перад сабою і к вачам прытульвае блізка (Піркі, Браг.).

ЛУ'НУЦЬ *зак.* прапасці, знікнуць. І куды яна дзелася, як у пропасць лу́нула (Антонаў, Ельск.); Як у ваду лу́нуў (Новая Гута, Гом.).

ЛУПА' І *ж., тое, што* лузка́ *ў 2 знач.* Лупу́ аддавалі худобі (Аравічы, Хойн.).

ЛУПА' II *ж.* яешня. Лупа́ на скавародзі трашчыць (Апанасаўка, Гом.); Усе лупу́ любюць, а луччы на маслі (Меркулавічы, Чач.).

ЛУПАВА'ТЫ *прым.* вірлавокі. У нас во памёр тэй год лупава́ты адзін (Аравічы, Хойн.). *Параўн.* лупа́ты.

ЛУПА'І *толькі мн.* лушпайкі. Аддае лупа́і суседу (Гарадзец, Рэч.). *Параўн.* лупа́йкі, лупша́йкі.

ЛУПА'ЙКІ *толькі мн., тое, што* лупа́і. Перамый лупа́йкі ад бульбы ды звары парасятам (Калінін, Хойн.); Я кажу пра лупа́йкі цыбулі (Аравічы, Хойн.). *Параўн.* лупша́йкі.

ЛУПА'ТЫ *прым., тое, што* лупава́ты. Чалавек лупа́ты, бы чорт які (Бабовічы, Гом.); Чаго ты на мене гледзіш, як тая сава лупа́тая (Перароў, Жытк.).

ЛУПАЦІ'ЦЬ *незак.* бегчы. А ён лупаці́ць на ўсе ногі (Піркі, Браг.).

ЛУ'ПАЦЬ *незак.* маргаць. Другі ж раз кажуць, што ты лу́паіш вачамі (Асінаўка, Чач.); От лу́пае, як малпа (Піркі, Браг.).

ЛУПІ'ЦЬ *незак.* 1. скрэбці. Як старую бульбу, дык лу́пім, а маладую скоблілі (Марозавічы, Б.-Каш.); 2. касіць. Здаровыя хлопцы, косы бяруць ды лу́пяць (Баравікі, Светл.).

ЛУ'ПКА *ж.* лупцоўка. Ідзі, а то дам лу́пкі (Пракопаўка, Добр.). *Параўн.* лупца́нка.

ЛУПЦА'НКА *ж., тое, што* лу́пка. Як дам табе лупца́нкі (Жгунь, Добр.).

ЛУПША'ЙКІ *толькі мн., тое, што* лупа́і. Лупша́йкі з картошкі корові оддадзім (Углы, Нар.). *Параўн.* лупа́йкі.

ЛУСКАТНЯ' *ж.* траскатня. Чую, лускатня́ ў хаці такая! (Аравічы, Хойн.).

ЛУ'ТКА *ж.* вушак. Спачатку кладуць падаконнікі, потым лу́ткі (Раманавічы, Гом.); У лу́тках крэпіцца рама (Забалацце, Раг.). Бакавыя часткі ў праёме дзьвярэй у нас завуць «лу́ткі», «вушак» ні гаворуць, а «шула» ідзець толькі ў вароты бальшэя, што на вуліцу адчыняюць (Косаль, Карм.). *Параўн.* лушня́к.

ЛУЦІ'ЦА *ж., толькі адз.* сасна *(на лучыну)*. Найсьці трэба луціцу добрую, хата ж шчэ няшчакатураная (Р.-Бурыцкая, Лоеўск.).

ЛУЧНІ'К І *м.* камін. Лучнік з меху, да абруч такі, тады з залеза кружочкі, клалі лучыну ды вешалі (Піркі, Браг); Лучыну тую ў лучнік утыкалі (Бабовічы, Гом.+Холмеч, Рэч.); Запалі лучнік, а то цёмна (Камаровічы, Петр.).

ЛУ'ЧНІК ІІ *м., тое, што* лакіза. Ну і кусок лу́чніка, каб так ленавацца (Макарычы, Петр.). *Параўн.* латру́га, ле́галь, легкабы́т, ле́жань, лізбе́нь, ло́дар, лотр, лыса́к, ля́бех, ля́мец.

ЛУЧЧЭ'ЙШЫ *пар. ст. да* лепшы. Тут над усімі дамамі наш дом луччэ́йшы (Н.-Свет, Б.-Каш.).

ЛУШНЯ'К *м., тое, што* лу́тка. Лушнякі падгнілі трохі, дык няма чым замяніць (Кароткавічы, Жлоб.).

ЛУШЧА'К *м., тое, што* лузанёц. Трэба, каб спелы быў, дык лушча́к (Холмеч, Рэч.).

ЛЫ'ГА *ж.* лытка. Выставіла свае лы́гі (Навасёлкі, Петр.). *Параўн.* лы́дка.

ЛЫ'ДКА *ж., тое, што лыга.* У яе тоўстыя лы́дкі ног (Піркі, Браг.).

ЛЫ'НДА *ж.* страва *(з бульбы і ільнянога семя)*. Смачная лы́нда, з'еш трохі (Камаровічы, Петрыкаўскі).

ЛЫ'НДАЦЬ *незак.* лодырнічаць, гультайнічаць. Прыйшоў з работы і пайшоў лы́ндаць (Багданавічы, Карм.); І што гэта ён лы́ндае без дзела па двары? (Макарычы, Петр.); І дзе вы лы́ндалі так позна? (Грушаўка, Нар.).

ЛЫПО'ЎКА *ж.* ссыпка. Высыплем жыто ў лыпо́ўку (Дзяржынск, Нар.).

ЛЫСА'К *м., зневаж., тое, што* лакіза. Дык добры ж лыса́к вымахаў (Баравікі, Светл.). *Параўн.* латру́га, ле́галь, легкабы́т, ле́жань, лізбе́нь, ло́дар, лотр, лу́чнік, ля́бех, ля́мец.

ЛЫСІНЯ'ТКА *н., заал., тое, што* ласё. Выскачыла лысіня́тка (Літвінавічы, Карм.). *Параўн.* ласянёнак, ласяня́тка.

ЛЫ'СІЦЦА *незак.* лашчыцца. Во як каціха лы́сіцца, лы́сіцца (Баравікі, Светл.).

ЛЫ'СКА *ж., заал.* лысу́ха. Кубло лыскі плавае на камышы па вадзе (Баравікі, Светл.). *Параўн.* лысо́ха.

ЛЫ́СКАЦЬ *незак.* смяяцца. Чаго ты ўвесь час лы́скаеш? (Амельно, Раг.).

ЛЫСМА́ЧКІ *толькі мн., тое, што* лісіцы. Грыбоў добрых нэма, толькі одныя лысма́чкі (Грушаўка, Нар.). *Параўн.* ліскі, ліся́нкі.

ЛЫСО́ХА *ж., тое, што* лы́ска. Тры вуткі забілі за лысо́ху (Каранёўка, Гом.).

ЛЫХА́ТКА *ж.* мачалка. Як будэш істы на рэчку, дык возьмі лыха́тку, добра поміеш спіну (Грушаўка, Нар.).

ЛЬЛЯНЫ́ *прым.* ільняны. У мене е льляно́е семя (Холмеч, Рэч.); Хто льляны́я называў, хто суровыя. Ніта́к напралі, але не адбялілі — гэта суровыя, а ссучаць у дзьве, пабеляць — гэта льляны́я ніткі (Хізы, Ветк.).

ЛЬЛЯНІ́ШЧА *н.* поле *(на якім рос лён).* Выбралі лён і кароў пагналі на льлянішча (Холмеч, Рэч. +Дзям'янкі, Добр.). *Параўн.* льнішча, льнянішча, ляно́вішча.

ЛЬНІ́ШЧА *н., тое, што* льлянішча. Льнішча лучэй на нізкім месцы (Хізы, Ветк.); А далей пойдзе поле, дзе рос лён, ці льнішча (Багданавічы, Карм.+Забалоцце, Рэч.). *Параўн.* льнішча, ляно́вішча.

ЛЬНЯНІ́ШЧА *н., тое, што* льлянішча. Шчэ трэба на льнянішча з'езьдзіць ды забраць астальныя снапы (Бацунь, Б.-Каш.); На льнянішчы сеялі жыта (Дземяхі, Рэч.). *Параўн.* ляно́вішча.

ЛЭ́МНУЦЬ *зак., груб.* ударыць. Вось падыйдзі толькі, зараз лэ́мну (Хальч, Гом.).

ЛЮБІ́СНІК *м., бат.* любіста. Любіснік — е такое зелле (Піркі, Браг.). *Параўн.* любісцік.

ЛЮБІ́СЦІК *м., тое, што* любіснік. Любісцік кустом такім расце і вельмі добра пахне (Баравікі, Светл.); Я не бачыла такіх прыгожых маленькіх кветачак, як любісці (Пагост, Жытк.).

ЛЮБО́ШЧЫ *толькі мн.* любоў. Хай не адгаворваецца Насцячка, бо пра яе любо́шчы з Міхасём даўно ўсе ведаюць (Буйнавічы, Маз.).

ЛЮДСКІ́ *прым.* меладычны *(пра музыку).* Во гэта людска́я музыка (Марозавічы, Б.-Каш.).

ЛЮПІ́НІШЧА *н., тое, што* лу́бінішча.— Дзе каровы пасціліся? — А там, дзе люпін быў, на люпінішчы (Хізы, Ветк.). *Параўн.* лубя́нішча.

ЛЮ́ХТА *ж.* 1. адтуліна *(у падмурку).* Нечым забіты

люхты, і паветра не пранікне (Хізы, Ветк.); 2. юшка *(у печцы)*. Лезь, закрый люхту (Асінаўка, Чач.). *Параўн.* люшка.

ЛЮ'ШКА *ж., тое, што* люхта *ў 2 знач.* Закрый коміна люшкою, бо гроза (Грушаўка, Нар.).

ЛЮ'ШНІ *толькі мн.* калёсы *(для бярвення)*. Люшні — ета калёсы, што возяць лес. Восі раздзвігаюцца, і везуць вялікае дрэва (Ручаёўка, Лоеўск.).

ЛЯ *прын., тое, што* ле *ў 1 знач.* Госцікі мае міленькія, уставайце, ужо сьнеданне гатовае, я ето ля вас наварыла (Антонаў, Ельск.).

ЛЯ'БЕХ *м., тое, што* лакіза. Такі лябех урадзіўся, так і нікае ад работы (Стасеўка, Рэч.). *Параўн.* латруга, легаль, легкабыт, лежань, лізбень, лодар, лотр, лучнік, лысак, лямец III.

ЛЯБЕХАВА'ТЫ *прым.* непаваротлівы. Я думаў, што вы лябехаватыя, аж вы так прудка скачаце (Дубраўка, Добр.).

ЛЯВО'К *м.* вылівак. Кура сённі вукінула лявок (Грабаў, Петр.); Мая рабая курочка нешто пачала ляўкі ліць (Ляскавічы, Петр.).

ЛЯГА'Р *м.* рычаг. Лягарам калоду лягчэй пакласці ў штабель (Баравікі, Светл.); Вунь іх там многа легароў (Хізы, Ветк.). *Параўн.* ляда III.

ЛЯ'ДА I *ж.* высека. А леснікі ж у нас с праку веку раскарчуюць сабе ляда і сеюць у лесе (Холмеч, Рэч.); Пасля таго, як выцірабюць лес, выпалюць, тады на гэтых лядах сеюць (Ліцвінавічы, Чач.); Засеяны ўчастак лесу пасля вырубкі — ляда у нас называюць, а незасеяны — выруб (Забалацце, Раг.); Я на лядзі проса пасеяў (Забалацце, Раг.).

ЛЯ'ДА II *ж.* уваход *(у пограб)*. Зрабі ляда ў пограб (Засінцы, Ельск.).

ЛЯ'ДА III *ж., тое, што* лягар. Воз падгоніш, прыставіш ляду, і тады лёгка падымаць палена (Халочча, Чач.+Канатоп, Нар.).

ЛЯДА'ЧЫ *прым.* кволы, лянівы. Ох, і лядачы, нічога не хоча дзелаць (Холмеч, Рэч.); Каторая слабая пчаліная сям'я, дык лядачая сям'я, яна толькі сама сібе корме (Хізы, Ветк.).

ЛЯДЗЯ'НКА *ж., тое, што* лёдзень. Ідзеш, а пад нагамі ледзянка (Насовічы, Добр.). *Параўн.* лядзяшка.

ЛЯДЗЯ'ШКА *ж., тое, што* лёдзень. Прынесла вады з ледзя́шкамі. (Холмеч, Рэч.). *Параўн.* лядзя́нка.

ЛЯЖА'К I *м.* ляжанка. Кот усю зіму спаў на ляжаку́ (Астрагляды, Браг.+Дабрынь, Ельск.).

ЛЯЖА'К II *м.* 1. вулей *(калодны)*. Ету калоду кладуць бокам — ляжа́к (Баравікі, Светл.+Кароткавічы, Жлоб.); 2. выраб *(плецены для збожжа)*. Зярно ссыпаюць у ляжакі́ з акенцамі (Баравікі, Светл.).

ЛЯЖА'НКА *ж.* 1. *тое, што* ляжа́к I. Вельмі прыемна ляжаць у мароз на ляжа́нцы (Любань, Б.-Каш.); 2. логава. Калі зімой ідзеш на ахоту, дык пападаецца ляжа́нка зайца (Хізы, Ветк.); 3. планка *(верхняя у драбінах воза)*. Як сеў на ляжа́нку, дык яна аж прагнулась (Холмеч, Рэч.).

ЛЯЖА'ЦЬ *незак.* хварэць. Вельмі ляжа́ў крэпка (Прудок, Калінк.).

ЛЯЖНЁЎКА *ж.* кладка. Машына не магла праехаці, паклалі ляжнёўку (Грушаўка, Нар.).

ЛЯКО'БА *н.* лякарства. А што гэта за лякóба, што ўсім з адной пляшкі даюць? (Пясчанікі, Жытк.).

ЛЯ'ЛЬЧУГ *м., заал.* ялец. Такіх ляльчугóў я паймаў крыгай (Ломыш, Хойн.).

ЛЯ'МЕЦ I *м.* матэрыял *(з шэрсці ў хамуце)*. Парваўся ля́мец, звязаць трэба (Баравікі, Светл.); На каня нацягнулі ля́мец (Капань, Рэч.+Неглюбка, Ветк.).

ЛЯ'МЕЦ II *м., мед.* каўтун. Косы ў ля́мец збіліся (Бабовічы, Гом.).

ЛЯ'МЕЦ III *м., зневаж., тое, што* лакіза. Ну і ля́мец твой хлопец, і нічога не хоча рабіць (Хальч, Гом.). *Параўн.* латру́га, ле́галь, легкабы́т, ле́жань, лізбе́нь, лóдар, лотр, лу́чнік, лыса́к, ля́бех.

ЛЯМЕ'ШКА *ж.* зацірка *(з мукі)*. Мукі жытныя спалюць, вару закіпяцяць, дай мяшаюць, а тады ходзь алею ўвал'юць, ходзь сала — гэта ляме́шка (Барталамееўка, Ветк.); У пост варылі ляме́шку (Капань, Рэч.).

ЛЯНО'ВІШЧА *н., тое, што* льлянішча. Лянóвішча сёлета была за бацькаўскім гародам (Ст. Буда, Б.-Каш.). *Параўн.* льнішча.

ЛЯНЦЕ'Й *м.* танец *(танцуюць ланцужком)*. Раней скакалы танец ленце́й, а тэпер леньку (Грушаўка, Нар.).

ЛЯ'ПАЦЬ *незак.* 1. стукаць. Нехта ў шыбу ляпае (Лукі, Жлоб.); 2. *перан.* гаварыць *(бестактоўна)*. Нешта ён ляпаў, ляпаў, ды быстра асёкся (Амельна, Раг.);

3. *перан.* есці. Калісь дзеці так ужо ля́палі, што папала (Піркі, Браг.).

ЛЯПЕ́Ш *м., зневаж.* чалавек *(нязграбны).* Не жаніх, а лепе́ш нейкі (Прудок, Калінк.).

ЛЯПЕ́ШНІК *м., зборн.* алешнік. Ляпе́шнік рос на краю балота, якраз дзе пачыналася поле (Касцюкоўка, Гом.).

ЛЯПЁХА *ж., зневаж.* жанчына *(нязграбная).* Яна сама на ляпёху паходжа, а на тоўстую Мар'ю ўз'елася (Піркі, Браг.).

ЛЯПО́ЦЯ *аг.* шапялявы. Прыйшоў да нас ляпо́ця (Дубовы Лог, Добр.).

ЛЯСКАТА́ЦЬ *незак.* балбатаць. Чого-та там ляско́чыш, як хто табе душыць (Грушаўка, Нар.).

ЛЯСКО́ВАЧКА *ж.* гаршчочак. Калі німа ў чым зварыць, вазьмі маю ляско́вачку (Яланы, Светл.).

ЛЯСКО́ЎКА *ж., тое, што* ле́скаўка I. Поўную карзіну ляско́вак натрусіў, зімой яны будуць смашныя (Палессе, Чач.). *Параўн.* ліско́ўка.

ЛЯ́СНУЦЦА *зак.* упасці. Ён так з драбін ля́снуўся (Баравікі, Светл.).

ЛЯ́СНУЦЬ *зак., перан.* выпіць. Сімён, пойдам ля́снім па чарцы (Астрав, Раг.).

ЛЯСО́ЎКА *ж.* мыш *(лясная).* Лясо́ўка селіцца ў лесе (Літвінавічы, Карм.).

ЛЯ́СТКІ *толькі мн.* балясы *(у драбінах).* Трэба было ля́сткі мяняць (Холмеч, Рэч.).

ЛЯТВО́ *н.* 1. *тое, што* латво́. Закрый скоранька лятво́ (Неглюбка, Ветк.); 2. *толькі адз.* работа пчол па збору мёду. Лятво́ ў пчол харошым днём увесь дзень ідзе (Холмеч, Рэч.). *Параўн.* лётва, лётка.

ЛЯТУ́Н *м.* лётчык. У арміі лятуно́м сын служа (Салтанаўка, Б.-Каш.).

ЛЯХ *м.* спалох. Лях напаў на дзіцё (Аравічы, Хойн.).

ЛЯ́ХА *ж.* палоска. Пасеялі ля́ху бульбы (Майскае, Жлоб.).

ЛЯХАВА́ЛА *н.* агрэх *(пры сяўбе).* Пустое ляхава́ла было ў жыці (Неглюбка, Ветк.).

ЛЯХТУ́Н *м.* канавал. Сямён, схадзі-ка пазаві ляхтуна́, хай кабана сляхчае (Неглюбка, Ветк.).

ЛЯЦЁН *м.* сенцы. Без лецёна хата нічога не варта (Бярэзкі, Жытк.).

МА'БУДЗЬ (мабуць) *мад.* мабыць. Ма́будзь, яна яшчэ ні вярнулася (Камаровічы, Петр.); Ма́буць, не хочаш, каб я з вамі шоў (Баравое, Лельч.). *Парайн.* ма́іць, ма́йбуць.

МАГАЗЕ'Я *ж.* 1. магазін. Што новае прывезлі ў магазе́ю? (Салтанаўка, Б.-Каш.); 2. свіран. Пайду ў магазе́ю адалжу зярна (Копань, Рэч.). *Парайн.* мага́зін.

МАГА'ЗІН *м., тое, што* магазе́я *ў 1 знач.* Колісь называлі лаўка, а цяпер мага́зін (Баравікі, Светл.); Схадзі ў мага́зін і купі сахару (Багданавічы, Карм.+Бабовічы, Гом.; Марозавічы, Б.-Каш.).

МАГАЗІ'Н I *м.* частка вулля. Магазі́н ува ўрэмя ўзятка становяць, гатовыя атстроеныя рамкі (Баравікі, Светл.); Трэба праверыць магазі́н, ці ёсць мёд (Марозавічы, Б.-Каш.); Во магазі́н у вуллі, я вам пакажу, падажджыце (Піркі, Браг.+Быч, Карм.; Карма, Добр.).

МАГАЗІ'Н II *м.* рэзервуар *(лямпы).* Магазі́н у лампі пашці што пусты (Рудня, Чач.); Кірасін наліваецца ў магазі́н (Піркі, Браг.). *Парайн.* маказы́н.

МАГАЗІ'НШЧЫК *м.* прадавец. Шурку нашаму кнігі магазі́ншчык прывёз (Ч.-Паляна, Б.-Каш.); Магазі́ншчык абедаць пайшоў, чакай вось (Зарэчча, Жлоб.+Н.-Гута, Гом.; Запясочча, Жытк.).

МАГАЗІ'НШЧЫЦА *ж.* прадаўшчыца. Магазі́ншчыца, падай міне чулкі ў жылку (Хальч, Гом.); Магазі́ншчыцы сёння няма — хворая (Кароткавічы, Жлоб. + Хізы, Ветк.).

МАГЕ'РА *ж.* гарэлка. Нажлукціўся магéры, дык нясе бы з бочкі (Зарэчча, Жлоб.).

МАГЕ'РКА *ж., устар.* шапка *(футравая, высокая).* Старыя насілі магéркі (Копань, Рэч.).

МАГІ'ЛЬНІК *м.* могілкі. Магі́льнік убіралі заўсёды, каб чыста было, а на раданіцу вянкі клалі (Касцюкоўка, Гом.).

МАГУ'ШЧЫ *прым.* гучны. У нас званы былі магу́шчыя, як зазвоняць — на ўсю акругу (Быч, Карм.).

МАДЖЭ'ГА (маджэ́ка) *ж.,* 1. *кул.* суп *(запраўлены льняной макухай).* Сённі Вулляна наварыла смачнай маджэ́гі (Боркі, Петр.); Маня, зацяры маджэ́ку (П.-Буда, Добр.). *Парайн.* мазу́ха; 2. вінегрэт. На стале

стаяла маджэ́га (Камаровічы, Петр.); Я сёння рабіла маджэ́гу (Перароў, Жытк.).

МАДЗЕ'ЦЬ *незак.* жыць. Дык вот і цяпер чалавек яшчэ мадзее́ (Баравікі, Светл.);—Як жывём? — Мадзе́ем як-небудзь (Быч, Карм.).

МАДЗЯ'РКАЦЬ *незак.* лаяць. І пакармілі, і напаілі, а ты шчэ мадзя́ркаеш (Грушаўка, Нар.).

МАЁРКІ *толькі мн., бат.* цыніі. Зноў яна гэтымі маёркамі засадзіла граду (Хізы, Ветк.).

МА'ЖА *ж.* скрыня *(для перавозкі сыпкіх рэчаў).* Іван, сёння будзеш вазіць палову, ды толькі вазьмі ма́жу (Вуглы, Нар.).

МАЖА'РЫ *толькі мн.* мажара. Насела на мажа́ры людзей, што конь з места не сойдзе (Асінаўка, Чач.); У гэтых мажа́рах на край свету можна йіхаць (Алба, Жлоб.+Быч, Карм.; Неглюбка, Ветк.).

МАЖЧА'Р (мажчы́р) *м.* мажджэр. У мажча́ру й каляндры стаўкці можна (Іванаўка, Хойн.); Мажчы́ры жалезныя калісь у нас былі (Холмеч, Рэч.).

МА'ЗАЦЬ *незак.* 1. намазваць. Ма́заць скібку хлеба ёсць жа чым (Бабовічы, Гом.); 2. чысціць. Храмалін цяпер, ім і ма́жуць сапагі (Баравікі, Светл.); Маж чобаты крэмам, не будуць цекці (Заспа, Рэч.); 3. бяліць. Яшчэ дзе свята, а яна ўжо ма́жа хату (Перароў, Жытк.+Грушаўка, Нар.; Замошша, Лельч.).

МАЗГАВА'ЦЬ *незак.* думаць. Было раней мазгава́ць што куды (Залессе, Чач.); Мазгу́ем, мазгу́ем, а нічога не прыдумалі (Вітлін, Раг.).

МАЗГАВЫ' *прым.* разумны. Мазгавы́, то гэта калі «вумны» гаворадь (Піркі, Браг.).

МАЗГАЎНЯ' *ж., груб.* галава. Мазгаўня́ баліць (Хвойнае, Хойн.).

МАЗЕ'ПА *аг., зневаж.* плакса. Анька така мазе́па, плачэ й плачэ (Вуглы, Нар.).

МА'ЗКА *ж.* подмазка. Захоўваем ма́зку ў печачкі, туды мы ўсе кладзем (М. Аўцюкі, Калінк.).

МАЗКІ' *толькі мн.* мозг. Іду так, што мазкі́ выскакваюць (Піркі, Браг.); Ці ў цябе мазкі́ ўжо павысыхалі? (Марозавічы, Б.-Каш.); Не крычы, а то ўжэ ў мазка́х стукае (Камунар, Б-Каш.+Багданавічы, Карм.; Баравікі, Светл.; Забалацце, Раг.; Залессе, Чач.; Чацвярня, Жлоб.).

МАЗУ'ЛЬ *м.* мазоль. Такі мазуль нацерла на назе (Кабанаўка, Жлоб.). *Параўн.* мулёнік, муляк.

МАЗУ'ТА *ж.* мазут. Ці дзёгаць ці мазута — усё роўна чорнае (Хізы, Ветк.).

МАЗУ'ХА *ж., тое, што* маджэга *ў 1 знач.* От я б пад'ела цяпер мазухі з пячонкамі (Харомцы, Акц.).

МАЗЫ'РКА *ж.* бочка. Раней у мазыркі дабро хавалі, зерне, жыта (Піркі, Браг.).

МА'ІЦЬ *мад., тое, што* мабудзь. Маіць, ён пашоў гуляць (Асінаўка, Чач.). *Параўн.* майбуць.

МАЙ *м., зборн.* зелень. Май на троіцу ставяць (Пярэдзелка, Лоеўск.); Май толькі паскідала (Неглюбка, Ветк.+Асінаўка, Чач.; Дзям'янкі, Добр.).

МА'ЙБУЦЬ *мад., тое, што* мабудзь. Яго дачку, майбуць, знялі (Грушаўка, Нар.). *Параўн.* маіць.

МАЙДА'Н *м.* паша. Каровы сёння ўвесь дзень на майдане пасцяцца (Стаўбун, Ветк.).

МАЙНА' *ж.* луг *(затоплены вадой)*. Рыба ўся ў майне, хіба зараз ты яе зловіш (Мілашэвічы, Лельч.).

МАЙСТРЫ'ЦЬ *незак.* майстраваць. Цэлы дзень майстрыў варотцы (Кабанаўка, Жлоб.).

МА'КАВІК *м., кул.* пірог *(з макам)*. Пякла макавік сегодні, смашны (Цешкаў, Нар.). *Параўн.* макаўнік.

МА'КАВІНА *ж.* галоўка *(маку)*. Сарві макавіну і выкалаці мак (Гармавічы, Жлоб.+Барталамееўка, Ветк.; Забалацце, Раг.). *Параўн.* макаўка I *у 1 знач.,* макаўніца.

МА'КАВІНКА *ж.* зерне *(маку)*. Маленькая ж як макавінка (Забалацце, Раг.). *Параўн.* мачынка.

МАКАВІ'ННЕ *н.* сцябло *(маку)*. Попалі, Хведе, то макавінне, каб то зра не волялося де попало (Ст. Высокае, Ельск.); Хадзі цішэй, не ламі макавіння (Капараўка, Рэч.); Макаўкі трэба падрываць, а макавінне аддаць карові (Даманавічы, Калінк.+Барталамееўка, Ветк.; Забалацце, Раг.; Залессе, Чач.). *Параўн.* макаўнік, маковішча, макоўнік.

МАКАЗЫ'Н *м., тое, што* магазін II. Марыно, налі ў маказын карасіны (Камаровічы, Петр.); Увесь карасін згарэў у маказыне (Паганцы, Светл.+Заходы, Рэч.; Кароткавічы, Жлоб.).

МАКАРО'Н *м.* макарона. Макарон у нас і завецца так (Асінаўка, Чач.); У лаўку прывезлі во цяпер усякага макарону (Навінкі, Калінк.); // страва *(з макароны)*.

Супы і макаро́ны, харчы вядомы (Вуглы, Нар.); Бежы хуценька атстаў макаро́ны, бо ўсё малако вубежыць (Заходы, Лельч.+Галоўчыцы, Нар.; Забалацце, Раг.; Залессе, Чач.; Іванаўка, Хойн.; М. Аўцюкі, Калінк.; Насовічы, Добр.; Неглюбка, Ветк.; Ляскавічы, Петр.; Любань, Б.-Каш.). *Парайн.* макаро́ны.

МАКАРО'НЫ *тое, што* макаро́н. Макаро́ны купіла, глядзі, усе буквы е (Іванаўка, Хойн.).

МАКАТО'ЎША *ж., груб.* галава. Што ты пішаш, макато́ўша дурная (Белы Пераезд, Петр.). *Парайн.* макатры́га.

МАКАТРА' *м.* макацёр. Ето велікая чарап'яная міска для мёду макатро́й звалася (Маркавічы, Гом.). *Парайн.* ма́каўніца II, макі́тра, мако́тра.

МАКАТРЫ'ГА *м., перан., тое, што* макато́ўша. Нацёг шапку на макатры́гу (Баравікі, Светл.).

МА'КАЎКА I *ж.* 1. *тое, што* ма́кавіна. Ма́каўкі сёлета дробненькія ў мяне (Баравікі, Светл.); Не рвіце ма́каўкі, зілёныя яшчэ (Марозавічы, Б.-Каш.); Зрэж ма́каўкі, ваны паспелі і мак сыплецца (Сямёнаўка, Рэч.). *Парайн.* ма́каўніца; 2. верх *(галавы).* Хлопчык ударыўся ма́каўкай (Баравікі, Светл.). + (Даманавічы, Калінк.; Забалацце, Раг.; Н.-Дурова, Акц.; Халочча, Чач.). *Парайн.* маку́шка.

МА'КАЎКА II *ж., бат.* гарлачык. Колькі ма́кавак у завадзі (Марозавічы, Б.-Каш.+Грушаўка, Нар.; Піркі, Браг.).

МА'КАЎНІК *м.* 1. *тое, што* макаві́нне. Вырві ма́каўнік, ён мяшае наградзе (Грамавічы, Жлоб.). *Парайн.* мако́вішча, мако́ўнік; 2. *тое, што* ма́кавік. Ма́каўнікі ўдаліся вельмі смачныя (Целяшы, Гом.). *Парайн.* мако́вік.

МА'КАЎНІЦА I *ж., тое, што* ма́кавіна. Мак цвіце, потым завязваецца ў ма́каўніцы (Піркі, Браг.). *Парайн.* ма́каўка I *у 1 знач.*

МА'КАЎНІЦА II *ж., тое, што* макатра́. У Ганінай ма́каўніцы добра трэцца мак (Уваравічы, Б.-Каш.). *Парайн.* макі́тра, мако́тра.

МАКАЦЁРАЧКІ *толькі мн.* спарыш. Пасуда такая была — макацёрачкі — гліняныя гаршчочкі, злучаныя ручкай (Холмеч, Рэч.).

МАКАЦЁРЧЫК *м* гаршчок з вушкамі. Ідзі-тка, дзетка, прынясі макацёрчык (Неглюбка, Ветк.); Мака-

цёрчык разбіла, жалка (Багданавічы, Карм.). *Парайн.* макóтрык *у 2 знач.*

МАКВА′ *ж.* дождж. Сёння на дварэ такая маквá, што за парог не выйсці (Багуцічы, Ельск.).

МАКІ′ТРА *ж., тое, што* макатрá. Поўнаю макітру смятаны з'еў (Асінаўка, Чач.). *Парайн.* мáкаўніца II, макóтра.

МАКІ′ТРЫК *м., памянш. да* макітра. У макітрыку вазьмі смітану, забелі боршч (Асінаўка, Чач.).

МАКЛЯ′К *м., устар.* чалавек *(нязграбны).* Ён такі макля́к, ні тое ні сёе (Холмеч, Рэч.).

МАКО′ВІК *м., тое, што* мáкавік. Вельмі люблю макóвікі, толькі доўга з імі вазіцца (Калінічы, Нар.). *Парайн.* мáкаўнік *у 2 знач.*

МАКО′ВІШЧА *н., тое, што* макавíнне. Высокае макóвішча, а макаўкі маленькія (Баравікі, Светл.). *Парайн.* мáкаўнік, макóўнік.

МАКО′ТРА *ж., тое, што* макатрá. Ну й гарныя макóтры (Дзяржынск, Нар.); Матка напякла варэнікаў цэлую макóтру, а яны ж смачныя (Антонаў, Ельск.); Сваёй макóтры няма, дык і не саб'еш масла (Церахоўка, Добр.+Запясочнае, Лельч.; Заходы, Рэч.). *Парайн.* мáкаўніца II, макітра.

МАКО′ТРЫК *м.* 1. *памянш. да* макóтра. Калісь мы мак, семено ў макóтрыку церлі (Холмеч, Рэч.+Грушаўка, Нар.; Р.-Бурыцкая, Лоеўск.); 2. *тое, што* макацёрчык. Макóтрык з двумя вушкамі, масла туды складалі (Ст. Краснае, Рэч.); Поўны макóтрык насыпала круп і аддала Вользе (Заспа, Рэч.+Любань, Б.-Каш.); 3. гаршчок. Ну і жару дала, зусім макóтрык даканала (Амелькаўшчына, Хойн.+Вуглы, Нар.; Заспа, Рэч.; Р.-Бурыцкая, Лоеўск.). *Парайн.* махóтка.

МАКО′ЎНІК *м., тое, што* макавíнне. Плахі макóўнік, пасох увесь (Бабовічы, Гом.). *Парайн.* мáкаўнік, макóвішча.

МАКРАДЗЁ *н.* макрата. Сёння такое макрадзё, што не праехаць. (Янова, Ветк.). *Парайн.* макрáдзь, макрóта.

МАКРА′ДЗЬ *ж., тое, што* макрадзё. А як на вуліцы будзе такая макрáдзь, як у етыя дні, дак нікуды ні выйдзіш (Плессе, Чач.). *Парайн.* макрóта.

МАКРАСТУ′ПЫ *толькі мн., устар.* галёшы. Глядзі, Вольгачка, макрасту́пы адзень, бо ногі замочыш (Саўгасная, Б.-Каш.).

МАКРО'ТА *ж., тое, што* макрадзё. Макро́та — выйсці нельга (Дзякавічы, Жытк.). *Парайн.* макра́дзь.

МАКРУ'ХА *ж., бат.* грыб *(падобны да рыжыка).* У нас макру́хаў не бяруць, яны трохі ядавітыя (Дамана-вічы, Калінк.). *Парайн.* малача́й II, малача́нка.

МАКРЫ'ЦА I *ж., заал.* 1. макрыца, станожка. Макры́ца ўранні, хоць удзень мокрая (Неглюбка, Ветк.); 2. *перан.* чалавек *(вымаклы).* Схадзіла ў балота, а цяпер як макры́ца стала (Мормаль, Жлоб.).

МАКРЫ'ЦА II. *ж., бат.* макрыца, зоркаўка. Макры́ца расце, дзе нізка, распаўзаецца (Баравікі, Светл.); Расце па балоці, па бульбі, у сырым месці. Ета паўзучая трава, макры́цай кармілі свіней (Забалацце, Раг.+ +Бабовічы, Гом.; Багданавічы, Карм.; Марозавічы, Б.-Каш.; Падворак, Лельч.; Пучын, Браг.; Холмеч, Рэч.). *Парайн.* макрэ́ц II.

МАКРЭ'Ц I *м., вет.* макрэц. Горачка мне з каровай: зноў у яе макрэ́ц (Неглюбка, Ветк.); Макрэ́ц бывае у коней паміж капытоў (Піркі, Браг.); Макрэ́цам балела жывёла, калі паша дрэнная была (Цярэшкавічы, Гом.+ +Бабовічы, Гом.; Баравікі, Светл.; Дзям'янкі, Добр.; Забалацце, Раг.; Холмеч, Рэч.).

МАКРЭ'Ц II *м., бат., тое, што* макры́ца II. Лён палола ды цэлы мяшок макрацу́ прынесла (Дабрынь, Ельск.); Палола бульбу і макрацу́ нарвала (Запясочча, Жытк.).

МАКУ'ШКА *ж.* 1. верхавіна. У маку́шку ўдарыла маланка, і дрэва загарэлася (Астрагляды, Браг.); На маку́шках дрэў часта пасяляюцца буса́кі (Кароткавічы, Жлоб.); 2. *тое, што* макатры́га. Маку́шка — ета места ззаду галавы, з якога косы расходзяцца ва ўсе бакі (Асінаўка, Чач.); Кажуць, як на маку́шцы два віхры, то дзве жонкі будзе (Рафалаў, Браг.); // віхор. У майго Сашкі дзве маку́шкі (Чацвярня, Жлоб.+Броніца, Б.-Каш.; Ваевода, Гом.). *Парайн.* ма́каўка I *у 2 знач.;* 3. частка цыбулі *(ніжняя).* Поцеплее, то буду зрезать моку́шкі от цібулі (Ст. Высокае, Ельск.).

МАЛАДЗЕ'НЕЦ *м.* дзіця. Каб маладзе́нец большы рос (М. Аўцюкі, Калінк.).

МАЛАДЗЕ'НЫ *толькі мн., устар.* хрэсьбіны. Усе госці прыйшлі на маладзе́ны (Зенькавіна, Карм.); Маладзе́ны — ета такі празнік, калі баба, якая бабіць, нясець кашу, пірагі сваім унукам (Касцюкоўка, Гом.).

МАЛАДЗІ'ЦА *ж.* 1. жанчына (*маладая, замужняя*). Мая нявестка добрая маладзіца (Копань, Рэч.); Дык яна ж маладзіца ўжэ (Гарывада, Рэч.); З цеста паляніца, з дзевачкі маладзіца (Грамавічы, Жлоб.); 2. жонка. Мая маладзіца як паехала да Ніны, дак ужэ другая нядзеля ідзе (Кавака, Браг.); Першая маладзіца яго луччая была, чым другая (Тульгавічы, Хойн.+Бабовічы, Гом.; Баравікі, Светл.; Беразнякі, Петр.; Ліпнякі, Лоеўск.; Неглюбка, Ветк.; Халочча, Чач.).

МАЛАДЗІ'ЧКА *ж., памянш. да* маладзіца. Да маладзічка така зрабілася, як шчучка (Аравічы, Хойн.); А тая маладзічка, кажуць, нічога так: і гаваркая, дай рабацяшчая (Каменка, Маз.).

МАЛАДНЯ'ЧА *н., зборн.* маладняк (*маладыя дрэвы*). Расце, расце маладняча, праз год лісцем зашуміць (Марозавічы, Б.-Каш.).

МАЛАДУ'ХА *ж.* маладая. Сама маладу́ха адбівала паклоны (Холмеч, Рэч.); Прыбіраюць маладу́ху, а іна ўсё плача і плача (Шылавічы, Чач.). *Параўн.* мало́дка.

МАЛАДЧА'Й *м., бат.* малачай. Маладча́й жоўтым цветам цвіцець, яго свінням рвуць (Марозавічы, Б.-Каш.). *Параўн.* маладча́к, малайча́к, малака́н, малача́й I, малача́к, малачня́к.

МАЛАДЧА'К *м., бат., тое, што* маладча́й. Маладча́к даюць каровам, его многа даваць нільзя: малако будзя горкая (Бабовічы, Гом.); Свінням і крапіву, і лабаду, і маладча́к рвуць (Холмеч, Рэч.+Саўгасная, Б.-Каш.). *Параўн.* малайча́к, малака́н, малача́й I, малача́к, малачня́к.

МАЛАЗО'РНЫ *прым.* падслепаваты. Гэты сын мой змалку малазо́рны (Шырокі, Б.-Каш.).

МАЛА'Й *м., кул.* дранікі. Покі свежыя, і малаі смачныя (Заспа, Рэч.); Дак пеклі малаі да дух бавілі (Прыстанскае, Браг.).

МАЛА'ЙНЯ *ж.* маланка. Бліскае мала́йня, грыміць гром (Палессе, Чач.). *Параўн.* маланн́я.

МАЛАЙЧА'К *м., бат., тое, што* маладча́й. Там было многа малайчаку́ (Дзянісавічы, Калінк.). *Параўн.* маладча́к, малака́н, малача́й I, малача́к, малачня́к.

МАЛАКАЕ'Д *м., зневаж.* малакавоз. Малакаёд паехаў (Славань, Светл.).

МАЛАКА'Н *м., бат., тое, што* маладча́й. У міне на

плане малакáну німа (Марозавічы, Б.-Каш.). *Парайн.* маладчáк, малайчáк, малачáй I, малачáк, малачнЯк.

МАЛАКО′ *н.* корм *(для пчол)*. Малакó сабіраюць для маткі (Багданавічы, Карм.).

МАЛАННЯ′ *ж., тое, што* малáйня. Зачыні вокны, а то вон якая маланнЯ б'ець (Быч, Карм.).

МАЛАТА′РКА *ж.* малатарня. Сянні брыгадзір паслаў на малатáрку баб дваццаць (Быч, Карм.); Ой, ціпер і не убачыш нідзе малатáркі (Піркі, Браг.+Ліцвінавічы, Чач.; Насовічы, Добр.; Стаўбун, Ветк.; Чкалава, Гом.).

МАЛАТЧА′К *м.* малако *(у рыб)*. Сялёдка бувае з ікрой і з малатчакóм (Хізы, Ветк.). *Парайн.* малачáй II, малачáк II.

МАЛАЦЕ′ННІК *м.* малацьбіт. Хадзем, малацéннік, абедаць (Бывалькі, Лоеўск); Малацéннікі дáўней былі, а цяпер цапамі не малоцяць (Піркі, Браг.). *Парайн.* малацьбíк, маладзьбíк, малóтнік.

МАЛАЦЬБІ′К (маладзьбíк) *тое, што* малацéннік. У малацьбікá рукі баляць (Чкалава, Гом.); Збіраюцца тры-чатыры малацьбікí і петаюць з-за вуха цапамі (Баравікі, Светл.); Німа ўжэ нашага маладзьбікá. Не, мы ні нанімалі маладзьбікóў (Хізы, Ветк.). *Парайн.* малóтнік.

МАЛАЧА′Й I *м., бат., тое, што* маладчáй. Як атрэжаш малачáй, дык белае такое выступае, як малако (Беразнякі, Петр.); Попар свої болячкі ў молочáю, як рукой зніме (Ст. Высокае, Ельск.+Багданавічы, Карм.; Баравое, Лельч.; Грамавічы, Жлоб.; Забалацце, Раг.; Забалоцце, Б.-Каш.; Р. Бурыцкая, Лоеўск., Хізы, Ветк.). *Парайн.* маладчáк, малайчáк, малакáн, малачáк, малачнЯк.

МАЛАЧА′Й II *м., тое, што* макруха. Сянні набрала аднаго малачáю, ня было другіх грыбоў (Быч, Карм.); А малачаí ў нас шчытаюць дрэннымі грыбамі (Баравое, Лельч.). *Парайн.* малачáнка.

МАЛАЧА′Й (малаччáй) III *тое, што* малатчáк. Гэта самец: бачыш, у яго малаччáй (Кароткавічы, Жлоб.); У гэтай рыбы багата малачáю (Неглюбка, Ветк.+Багданавічы, Карм.; Марозавічы, Б.-Каш.). *Парайн.* малачáк.

МАЛАЧА′К I *м.; бат., тое, што* маладчáй. У малачакá са сцебля цячэ белае, ліпкае малако (Грамавічы,

Жлоб.). *Параўн.* маладча́к, малайча́к, малача́й I, мала-ка́н, малачня́к.

МАЛАЧА'К II *м., тое, што* малатча́к. Ікра толькі ў самак, а малача́к у самцоў (Ручаёўка, Лоеўск.). *Параўн.* малача́й III.

МАЛАЧА'НКА *ж., тое, што* макру́ха. Малача́нкі — ета грыбы светла-карычнявыя, пахожыя на сыраежкі і валнушкі (Каравацічы, Рэч.). *Параўн.* малача́й II.

МАЛАЧНЯ'К *м., тое, што* маладча́й. Там, на загарод-дзі і расце малачня́к, кветачкі жоўтыя (Піркі, Браг.); Малачня́к такі расце, жоўтым цветам цвіце (Ручаёўка, Лоеўск.); Молочня́к, ён такі, як вурвеш, дак молоко бе-жыць, я во нарвала молочняка́ свінням (Аравічы, Хойн.). *Параўн.* маладча́к, малайча́к, малача́й I, малака́н, ма-лача́к.

МАЛГОЖА'ТКА *ж.* груша *(дрэва).* А мая малгожа́т-ка засыхаць пачала; // плод *(грушы).* Малгожа́тка, хун-тоўка — самыя салодкія грушы (Грушаўка, Нар.).

МАЛІ'К *м.* ашыяк *(свіны).* Вера, укінь у суп кусок маліка́ (Залессе, Чач.).

МА'ЛІК *м.* заяц *(малады).* Ма́лік прайшоў, бачыш его сляды (Каранёўка, Гом.).

МАЛІ'НАЎКА I *ж.* птушка. Малі́наўка таму так за-вецца, што ў яе пузцо, як маліна (Баравікі, Светл.); Калі пройдзеш міма кустарніка, тады можа і ўчуеш малі́наў-ку (Піркі, Браг.+Аравічы, Хойн. В.-Поле, Петр.; Насо-вічы, Добр.; Ямпаль, Рэч.).

МАЛІ'НАЎКА II *ж.* яблыня. Вон расце малінаўка, бачыш, сколькі яблак на ёй (Марозавічы, Б.-Каш.); // плод *(яблыні).* Малі́наўку як раскусіш, дык як малі-на красная (Грамавічы, Жлоб.).

МАЛІ'НАЎКА III *ж.* хустка *(малінавая).* Маліна-вая хустка, або малі́наўка, у нас называецца (Гарыва-да, Рэч.); Ты мне дасі сваю малі́наўку адзець у госці (Даманавічы, Калінк.+Багданавічы, Карм.; Клясаў, Петр.). *Параўн.* мата́нка.

МАЛІНО'ЎКА *ж.* гатунак *(бульбы).* Зараз няма ў мяне бульбы-маліно́ўкі (Чкалава, Гом.).

МАЛІНЭ'С *м.* маянэз. Каб дзе к празніку малінэ́су купіць (Залессе, Чач.).

МАЛІРО'ЎКА *ж.* каструля *(эмаліраваная).* Маліро́ў-кі прышлі на змену макатрам (Р.-Бурыцкая, Лоеўск.).

МАЛІ'ЦЬ *незак.* маліцца. Дык поп вучыў богу маліць (Піркі, Браг.).

МА'ЛКА *ж.* дзяўчына *(малая).* З ёю ніхто хадзіць не хоча, з такою ма́лкаю (Каменка, Маз.).

МАЛОДЗЕ'ЖА *ж., зборн.* моладзь. Цяперашняя малодзёжы я не знаю (Аравічы, Хойн.).

МАЛО'ДКА *ж., тое, што* маладу́ха. Мало́дка і малады сядзяць як галубы (Неглюбка, Ветк.).

МАЛОКА'ШЫ *прым., зневаж.* жаўтароты. Бач ты на яго, які кавалер, ад зямлі не адрос, шчэ малока́шы (Грушаўка, Нар.).

МАЛО'ТНІК *м., тое, што* малаце́ннік. Бывала, хлеба многа, дак мало́тнікаў двох наймяш й памалоцяш быстра (Быч, Карм.). *Парайн.* маладзьбі́к, малацьбі́к.

МАЛО'ЧНЯ *ж.* маслазавод. Малако завозяць на мало́чню (Аравічы, Хойн.).

МАНДРО'ВАЧКА *ж.* павестка. Ой, Ваня, Ваня, мандро́вачка пахня (Хутар, Светл.).

МАНІ'СТЫ *толькі мн.* каралі. Мані́сты во етыя мне стары мой прывёз (Р.-Бурыцкая, Лоеўск.); Яна ўсе время носіць мані́сты (Карма, Добр.).

МА'НКА *ж.* каша *(манная).* Ма́нку і дзецям варылі, і сам з'ясі (М. Аўцюкі, Калінк); Мая й да сіх пор ма́нку, як малая, з сахарам есць (Рудня, Жлоб.).

МАНТА'ЧКА *ж.* мянташка. Манта́чкай касу войстраць (Грушаўка, Нар.+Піркі, Браг.). *Парайн.* манці́ла, мяльта́шка.

МАНТА'ЧЫЦЬ *незак.* мянціць. Кажы ёму, шоб шол монта́чыт косу (Грушаўка, Нар.). *Парайн.* мянтава́ць, мянта́шыць.

МАНТУ'ЛІК *м.* сырнік. Манту́лікі послі, ціпер боршч подай (Р.-Бурыцкая, Лоеўск.).

МАНЦІ'ЛА *ж., тое, што* манта́чка. У мене саўсім сцерлася манці́ла, нема чым косу патачыць (М. Аўцюкі, Калінк.). *Парайн.* мяльта́шка.

МАНЦЫКЛЕ'ТА *ж.* матацыкл. Манцыкле́та зараз жа падкатуе (Асінаўка, Чач.); У лаўку прывезлі манцыкле́ты, іж (Р.-Шлягіна, Ветк.). *Парайн.* матацы́кла, матацыкле́та, мацыкле́т, мацыкле́та.

МАПЕ'ДА *ж.* мапед. Мы дак свайму мапе́ду купілі, у школу будзе ездзіць (Ямпаль, Рэч.).

МАРА' *ж.* чорт. Ну чаго ты до мэнэ кажды раз чапляесы, ек та мара́ з лозы (Грушаўка, Нар.).

МАРКА́ЛЬ *м.* маркач. Марка́ль здаровы, рогі во-о, ён пакрывае авечку (Аравічы, Хойн.); Ну й марка́ль, сваіх варот не пазнае (Ямпаль, Рэч.).

МАРМАШЭ́ЛЬКА *ж., кул.* вермішэль. Люблю мармашэ́льку, з малаком добра (Грушаўка, Нар.).

МАРО́З *м.* кветкі *(бабіна лета)*. Скоро будут заморозкі, от побачытэ, будэ цвісты моро́з (Грушаўка, Нар.).

МАРЭ́ГАЦЬ *незак.* пэцкаць. А ета штось усе марэ́гае, бумагу зводзіць (Аравічы, Хойн.).

МАСЁ́Л *м.* косць. Мяса з'еў, а мне масёл аставіў (Барталамееўка, Ветк.); Масло́ў багата, а мяса німа (Хізы, Ветк.+Чарняцін, Б.-Каш.). *Параўн.* масо́л, масо́лак.

МАСКО́ЎКА *ж.* жонка *(салдата)*. Вось і яшчэ адна маско́ўка ў нас, муж пайшоў у армію (Навасёлкі, Петр.); Маско́ўкай у нас называюць жонку, калі яе муж у армію пашоў (Аравічы, Хойн.).

МАСЛЕ́НІК *м., бат.* масляк. Масле́нікі варацъ, закатаныя вельмі смачныя (Ручаёўка, Лоеўск.); Рыжкоў і масле́нікаў назбіраў (Піркі, Браг.+Холмеч, Рэч.; М. Аўцюкі, Калінк.). *Параўн.* маслю́к.

МАСЛЮ́К *м., тое, што* масле́нік. Маслюкі́ слізкія такія, высказнуў з рук (Пярэдзелка, Лоеўск.); Послі дажджу маслюко́ў багата (Пабеда, Ветк).

МАСЛЯ́НІ́ЦА *ж.* масленіца. Аддала суседцы масля́ніцу, німа куды масла палажыць (Бабовічы, Гом.); Масляні́цу з маслам прынясі к чаю (Любань, Б.-Каш.+Баравікі, Светл.; Навінкі, Калінк.). *Параўн.* масля́нка *ў 3 знач.*

МА́СЛЯНІЦА *ж.* маслёнка. Любіш, як кот ма́сляніцу (Вуглы, Нар.). *Параўн.* масля́нка *ў 1 знач.*

МА́СЛЯ́НКА *ж.* 1. *тое, што* ма́сляніца. Сыроватка з кіслага малака, а з масла — масля́нка (Марозавічы, Б.-Каш.); Біла, біла — масла нема, а толькі адна ма́слянка (Ляскавічы, Петр.+Амелькаўшчына, Хойн.; Галоўчыцы, Нар.; Забалацце, Раг.; Залессе, Чач.; Запясочнае, Лельч.; Заспа, Рэч.; М. Аўцюкі, Калінк.; Мормаль, Жлоб.; Піркі, Браг.; Целяшы, Гом.). *Параўн.* масля́тка; 2. маслабойка. Пастаў ма́слянку ў халодную ваду, смятана застыне, біцца лепш будзе (К.-Балсуны, Ветк.+ +Піркі, Браг.). *Параўн.* масні́чка; 3. *тое, што* масля́ніца. У нас масля́нкі німа, масла ў банкі дзержым (Багданавічы, Карм.+Церахоўка, Добр.).

МАСЛЯ′ТКА *ж., тое, што* масля́нка *ў 1 знач.* Масля́тку выліваем свінням (Баравікі, Светл.).

МАСНІ′ЦА *ж.* маснічына. У Просінай хаце добрыя масніцы, доўга ляжаць будуць (Піркі, Браг.); Масніцы вузкія, адна ў адну (Багданавічы, Карм.+Буйнавічы, Лельч.; Гардуны, Добр.; Забалацце, Раг.; Кароткавічы, Жлоб.; Маркавічы, Гом.; Прудок, Калінк.; Перароў, Жытк.; Рудня, Чач., Р.-Шлягіна, Ветк.; Узнаж, Светл.; Холмеч, Рэч.).

МАСНІ′ЧКА *ж., тое, што* масля́нка *ў 2 знач.* У масні́чкі толькі сыроватка, масла дастала (Горваль, Рэч.).

МАСО′Л *м., тое, што* масёл. 1. Адны маслы́ асталіся пасля хваробы (Жгунь, Добр.); 2. рука. Прымі маслы́, а то адаб'еш (Пясчанікі, Жытк.). *Параўн.* масо́лак.

МАСО′ЛАК *м., тое, што* масол *у 1 знач.* Папалілі, адны масо́лкі асталіся (В.-Нямкі, Ветк.).

МАСЦІ′ЦЬ *незак.* 1. насцілаць *(падлогу).* Масцілі падлогу тры дні (Халочча, Чач.+Кароткавічы, Жлоб.; Суткоў, Лоеўск.); //насцілаць *(дарогу).* Даўно уже паганая дарога, а ее не мо́сцяць (Ручаёўка, Лоеўск.); Казалі масці́ць скора дарогу будуць да Буды (Марозавічы, Б.-Каш.+Дуброва, Петр.; Забалацце, Раг.; Завайць, Нар.; Кароткавічы, Жлоб.; М. Аўцюкі, Калінк.; Насовічы, Добр.; Піркі, Браг.; Хізы, Ветк.); 2. віць *(гняздо).* Пцічка кубло мо́сціць (Холмеч, Рэч.).

МАСЦЯРО′К *м.* кельма. Масцяро́к вон тэй вазьмі, ён лаўчэй (Быч, Карм.+Аравічы, Хойн.).

МАТАІ′ЛА *н.* матавіла. Матаі́ла і для нітак, звіваюць ім (Каравацічы, Рэч.). *Параўн.* мату́шка.

МАТА′НКА *ж., тое, што* малінаўка III. Нада купіць сабе новую мата́нку, етая саўсім парвалася (Асінаўка, Чач.).

МАТАЦЫ′КЛА *ж., тое, што* манцыкле́та. Матацы́кла твая аглушыла ўсіх (М. Аўцюкі, Калінк.). *Параўн.* матацыкле́та, мацыкле́т, мацыкле́та.

МАТАЦЫКЛЕ′ТА *ж., тое, што* манцыкле́та. Матацыкле́ту купіць ня фокус цяпер (Нісімкавічы, Чач.). *Параўн.* матацы́кла, мацыкле́т, мацыкле́та.

МА′ТАЧНІК I *м., спец.* матачнік *(для пчалы-маткі).* Ма́тачнік быў ужо заняты маткаю (Пабеда, Ветк.); Када пчолы закладаюць чарвячок, закрываюць ма́тачнік на шаснаццаць дней, а потым выходзіць матка (Марозавічы, Б.-Каш.); Коб маткі не ўцеклі, трэба іх пасадзіць

балацце, Раг.; Майскае, Жлоб.; Піркі, Браг.). *Параўн.* матaшніца.

МА'ТАЧНІК II *м., бат.* чабор. Ма́тачнік па полю расце, пчол закрываюць ім (Холмеч, Рэч.); Трава завецца ма́точнік, надзяваецца на шасты, дае запах маткі, вот пчолы і садзяцца (Карма, Добр.+Неглюбка, Ветк.).

МА'ТАШНІЦА *ж., тое, што* ма́тачнік I. Калі матка нігодная, то яе ставяць у ма́ташніцу, штоб ні ўцякла (Хізы, Ветк.+Дзям'янкі, Добр.).

МА'ТКА I *ж.* 1. маці. Ма́тка есць ма́тка сваім дзецям, і луча роднай німа (Забалацце, Раг.+Багданавічы, Карм.; Баравікі, Светл.; Ваевода, Гом.; Кароткавічы, Жлоб.; Марозавічы, Б.-Каш.; Неглюбка, Ветк.; Піркі, Браг.; Чырвоная Буда, Добр.); 2. ма́тка *(пчол).* Ма́тка ў вуллі хазяйка (Марозавічы, Б.-Каш.+Багданавічы, Карм.; Баравікі, Светл.; Забалацце, Раг.; Заходы, Лельч.; Кароткавічы, Жлоб.; Піркі, Браг.; Стаўбун, Ветк.; Сямёнаўка, Рэч.).

МА'ТКА II *ж.* сцябло *(ніжняй часткі хмелю).* З ма́ткі хмель расце. Зачэпіш ма́тку, прападзе ўвесь (Харомцы, Акц.).

МАТЛЁТ *м.* назва танца. Матлёт нада штоб панімаюшчы да вёрткі быў (Баравікі, Светл.).

МАТНЯ' *ж., рыб.* 1. куль. Рыба з матні́ рэдка якая выйдзе (Аравічы, Хойн.); 2. устаўка *(у штанах).* Гатовы пасці штаны, матня́ толькі яшчэ не ўстаўлена (Дзям'янкі, Добр.); 3. корань, стрыжань пня. Самае дурное було з матнёй, пакуль адолееш той пень (Кароткавічы, Жлоб.).

МАТО'К *м.* 1. маток *(нітак).* Наматуюць ніткі ў мато́к, потым яго красяць (Баравікі, Светл.); Сёлета ў Просі вышлі ўдалыя маткі́ (В.-Поле, Петр.+Грычынавічы, Жытк.; Завайць, Нар.; Марозавічы, Б.-Каш.; Неглюбка, Ветк.); 2. каноплі *(семяннікі).* Восенню рвуць маткі́, у матка́х семя (Баравікі, Светл.+Бывалькі, Лоеўск.; Пагоннае, Хойн.; Ст. Буда, Б.-Каш.).

МАТО'Н *м., абразл.* манюка. Вот нейкі мато́н гэты Сяргей, шагу не ступіць, каб не зманіць (Кароткавічы, Жлоб.).

МАТО'РКА *ж.* 1. лодка *(маторная).* Маторка толькі вясной, да й то мала, пасажыркай усё ездзім (Хізы, Ветк.+Чабатовічы, Б.-Каш.); 2. матаролер, мапед. Цэ-

лую ноч тарахцяць маторкамі тымі (Марозавічы, Б.-Каш.,+Піркі, Браг.).

МАТРАБ'Я'НКА *ж., толькі адз.* фарш *(мясны).* Матраб'янкай тоўстые каўбасы начынялі і капцілі (Холмеч, Рэч.).

МАТРАСІ'ЦЬ *незак.* церушыць *(пра дождж.).* Дождж з рання матрасіць. (Апанасаўка, Чач.). *Параўн.* матрашыць.

МАТРАШЫ'ЦЬ *незак.* 1. *тое, што* матрасіць. На дварэ трошкі матрашыць, мжунец капайя (Палессе, Чач.); 2. калаціць, трэсці *(пра хворага).* Мне так плоха, усю міне матрашыць як ліхарадка (Палессе, Чач.).

МАТУ'З *м.* 1. ніткі *(недатканыя).* Канцы асновы адразаюцца з ніткамі пасля датыкання кроснаў, ета матузы (Холмеч, Рэч.); Пераразаюць матузы, з іх дзелаюць трапкач (Хізы, Ветк.+Бабовічы, Гом.); 2. кавалак *(вяроўкі).* Найдзі мне матуз добры, а то ўсё гніль (Мормаль, Жлоб.). *Параўн.* матузіна; 3. завязка *(у фартуху, кашулі, штанах).* Матузы нада, штоб фартух дзяржаўся. Бывала, вышывалі палатняныя сарочкі ці капоты на грудзях і матузы дзелалі, штоб ужо красівей было (Хізы, Ветк.); Мацвей вечна з матузом хадзіў, а я скрозь дзеду кузікі прышывала (Р.-Бурыцкая, Лоеўск.+Быч, Карм.; Рафалаў Браг.; Р.-Барталамееўка, Чач.); 4. пояс. Ото матуз оторваўся, трэ ж яго зараз прышыты (Грушаўка, Нар.).

МАТУ'ЗІ'НА *ж.* 1. *тое, што* матуз *у 2 знач.* Падай, унучак, матузіну, канцы надвяжу (Каменка, Маз.); 2. сцябло *(агуркоў).* Такія вялікія матузіны ў агуркоў (Даманавічы, Калінк.).

МАТУ'ЗКА *ж., памянш. да* матуз *у 2 знач.* Завяжы матузкай цясней бульбу, прасыпаецца (Буйнавічы, Лельч.); На матузку, падвяжы яблыню (Чыстыя Лужы, Добр.).

МАТУЗО'К *м., памянш. да* матуз *у 2 знач.* Ніткі вазьмі, ссучы матузок, венікі звяжым (Дзям'янкі, Добр.); 2. *памянш. да* матуз *у 3 знач.* Матузком завязуюць каленцо ў косе (Аравічы, Хойн.+Запясочнае, Лельч.); Адзін матузок у кохце атарваўся (Кавака, Браг.); Прышый матузок мне ў штаны (Барталамееўка, Ветк.).

МАТУ'ЛІЦА *ж., лаянк.* маці. Матуліцай мацць называюць, калі злуюцца на яе (Баравікі, Светл.).

МАТУ'ШКА *ж., тое, што* матаíла. На матýшку зматваем з двух-трох верацён для прасушкі (Кароткавічы, Жлоб.).

МАТЫЛІ' *толькі мн., вет.* матыліца. Авечка кашляе — матылí. Нада рэзаць, бо здохне (Хізы, Ветк.); У авечак часта матылí, усё кашляюць (Неглюбка, Ветк.). *Параўн.* матыліца *ў 1 знач.*

МАТЫ'ЛІ'ЦА *ж.* 1. *тое, што* матылí. Матылі заходзяць у печань, і авечка падыхае ад матыліцы (Холмеч, Рэч.); Матыліцай пчолы балеюць (Марозавічы, Б.-Каш.); Матыліца ў нашай казы, перхае ўсё ўрэмя (Істобкі, Жлоб.+Бабовічы, Гом.); 2. чалавек *(рухавы, непаседлівы)*. Куды ты зноў паляцеў, матыліца? (Хвойнае, Хойн.); Чаго носіцца, як матыліца? (Махнавічы, Маз.); Екась матыліца, а не дзеўка ў вас (Ліхаўня, Нар.); 3. галавакружэнне. Як паднялася толькі, аж матыліца закружыла (Мормаль, Жлоб.).

МАТЫЛЬКІ' *толькі мн.* зацірка. Вельмі смачныя матылькі з малаком (Дворышча, Ельск.).

МАТЫ'ЧКА *ж.* матыка. Куды дзелася наша матычка, бульбу капаць трэба (Дзяржынск, Лельч.).

МАЎЧУ'ЛА *аг.* чалавек *(маўклівы)*. Во маўчýла, хоць бы табе слова (Забалацце, Раг.). *Параўн.* маўчýн.

МАЎЧУ'Н *м., тое, што* маўчýла. Маўчýн ён: усё маўчыць як пень (Баравікі, Светл.+Дзям'янкі, Добр.; Марозавічы, Б.-Каш.; Неглюбка, Ветк.).

МА'ХА *ж.* 1. крыло *(птушкі)*. Мáхі ў кнігаўкі прыгожыя (Лядцы, Светл.); 2. *перан.* крыло *(ветрака)*. Мáхі нашага ветрака за сем вёрст відна (Апанасаўка, Чач.).

МА'ХАНЬКІ *прым., памянш. да* малы. Ён жа ў нас ішчэ мáханькі (Пракопаўка, Добр.); Ты пагляндзі, які мáханькі кацёнак (Харашоўка, Добр.). *Параўн.* махóнькі.

МАХІ'НА *ж., перан.* чалавек *(вялікі)*. Ох ты ж і махіна вырасла (Неглюбка, Ветк.+Грушаўка, Добр.).

МАХІ'ННЫ *прым.* вялікі. А воз той прывезлі махíнны, чуць да вечара сена сцягнулі (Бабовічы, Гом.+Вуглы, Нар.); // здаровы, дужы. Здаровая, кажа, здаровая, яка, кажа, махíнна (Аравічы, Хойн.).

МАХНЫ'ТКА *ж.* галавешка. Ой, які дым, вынь быстрэй махнытку з печы (Асінаўка, Чач.); Счарнеў, як махнытка (Буда, Карм.+Касцюкоўка, Гом.; Слабодка, Ветк.; Узнаж, Рэч.).

МАХО'НЬКІ *прым., тое, што* ма́ханькі. Махо́нькі ў цябе хлопец (Салтанаўка, Б.-Каш.).

МАХО'РЧЫКІ *толькі мн., памянш. да* махры. Махо́рчыкі робяць проста: рэжуць ніткі роўна ў пучкі і звязваюць (Баравікі, Светл.).

МАХО'ТАЧКА *ж., памянш. да* махотка. Вазьмі ў печы махо́тачку. (В.-Нямкі, Ветк.); Паставіла суп малошны ў махо́таццы (Р.-Бурыцкая, Лоеўск.).

МАХО'ТКА *ж., тое, што* мако́трык *у 3 знач.* Махо́тка зручная для аднаго, гаршчок вялікі не ставіць у печ (К. Балсуны, Ветк.); У махо́тцы вару малому есці (Цярахоўка, Добр.+Салтанаўка, Б.-Каш.); //*тое, што* макацёр. Махо́тку смітанкі насабірала, ды ў бальніцу занісла (Меркулавічы, Чач.+Неглюбка, Ветк.).

МАХРО'ЎКА *ж.* хустка *(з махрамі)*. А прыгажэнная махро́ўка ў мене (М. Аўцюкі, Калінк.).

МАХРО'ЦЦЕ *зборн., тое, што* махры́ *ў 2 знач.* Махро́цце ў моркві, цыбулі бывае (Залессе, Чач.+Дзям'янкі, Добр.).

МАХРЫ' *толькі мн.* 1. *тое, што* мату́з *у 1 знач.* Часта махры́ на адной полкі ў просцілцы не абразаюць (Ліпляны, Лельч.); 2. лісце *(гародніны)*. Паставіла махры́ морквы, настойка для націрання (Ст. Высокае, Ельск.+Карма, Добр.) // карэньчыкі *(на коранеплодах)*. На куцахвостай моркві махро́ў мала (Сямёнаўка, Рэч.); Вырвеш цыбулі — махры́ вісяць, у адным карчу большыя, а другім меншыя (Хізы, Ветк.+Даманавічы, Калінк.). *Параўн.* махро́цце.

МАЦА'К *м.* яйка *(моцнае)*. Выбера дзед мой сабе маца́к ды і на вуліцу ідзе (Баравікі, Светл.); Я табе, сынок, наадбірала мацако́ў у біткі гуляць (Дуброва, Петр.+Кароткавічы, Жлоб.; Ломыш, Хойн.; М. Аўцюкі, Калінк.; Узнаж, Рэч.).

МА'ЦЕНЕ *ж.* падобны да маці. Ма́цене дай годзе, уся маці (Прудок, Калінк.).

МАЦЁРКА *ж.* семя *(канопляў)*. Як мацёрку раздавіць, пятно застанецца (Піркі, Браг.).

МА'ЦІЦА *ж.* бэлька. Хто такія тоўстыя ма́ціцы кладзе? (Рудня, Чач.).

МАЦЫКЛЕ'Т *м., тое, што* манцыкле́та. Ох і ездзіць Алёша на мацыкле́ці! (Дзяміды, Ельск.); То ўсе купляли ровера, а цепер перашлі на мацыкле́ты (Бярэзнікі, Жытк.+Антонаўка, Добр.; Астрагляды, Браг.; Камаро-

вічы, Петр.; Марозавічы, Б.-Каш.; Сяўкі, Лоеўск.; Хвойнае, Хойн.). *Параўн.* матацы́кла, матацыкле́та, мацыкле́та.

МАЦЫКЛЕ'ТА *ж., тое, што* манцыкле́та. З мацыкле́тай ужо голаў праеў, купі да купі (Горваль, Рэч.). *Параўн.* матацы́кла, матацыкле́та, мацыкле́т.

МАЦЯРЫ'НКА *ж., бат.* мацярдушка. Мацяры́нка падобна на чобрык, толькі высока расце (Ручаёўка, Лоеўск.); Мацяры́нкі паставіць у хату, і запах ад ее іде (Піркі, Браг.); Мацяры́нкаю запаруюць чай ад прастуды (Забалацце, Раг.+Аравічы, Хойн.; Баравікі, Светл.; Холмеч, Рэч.). *Параўн.* мацяры́ца.

МАЦЯРЫ'ЦА *ж., тое, што* мацяры́нка. Мацяры́ца — пахучая трава, цвіце такім уродзе белавата-сірэневым (Дзям'янкі, Добр.).

МАЧ *м.* вілы. Адзін раз добра, ек кожны дзень, то мач паўрывае рукі (Мілашэвічы, Лельч.); Сходзі да Пятра прынясі мач (Буйнавічы, Лельч.+Гноеў, Хойн.; Грабава Жытк.; Навасёлкі, Калінк.).

МАЧАВІ'ЛА *толькі адз.* 1. чарніцы *(тушаныя)*. Тушылі чарніцы, тады мачаві́ла гэтае мачалі блінамі (Аравічы, Хойн.); 2. павідла. У банках мачаві́ла прадаецца, і самі рабілі дзецям і сабе (Казялужжа, Хойн.).

МАЧА'ННЕ *н., кул.* 1. мачанка. На вячэру бульба, мача́нне (Церахоўка, Добр.); Нам мамка сягоння мача́нне смажыла (Зарэчча, Жлоб.+Сівенка, Ветк.); 2. тварог *(з малаком)*. Тварог расцёрты разводзяць малаком, а тады ў мача́нне мачаюць аладкі, бліны (Грушаўка, Нар.); 3. варэнне. Мача́ння больш варыць не буду (Хвойнае, Хойн.).

МАЧО'ЛЬНІК *м.* вехаць. Мам, дзе'то дзеўся наш мачо́льнік (Вуглы, Нар.); Мачо́льнікам стол выцірай, а ні рушніком (Гноеў, Хойн.+Патапы, Ельск.).

МАЧО'НКІ *толькі мн.* грыбы *(салёныя, марынаваныя)*. Мачо́нкамі і марынаваныя грыбы завуць (Бабовічы, Гом.); Пераборшчіла трохі з мачо́нкамі шось (Ст. Высокае, Ельск.).

МА'ЧУХА *ж.* мачыха. Ма́чуха это не родна матка (Аравічы, Хойн.); Ма́чуха ў мяне була зусім неплахая (Грабава, Жытк.).

МАЧЫ'НКА *ж., тое, што* ма́кавінка. Такое дробнае, як мачы́нкі (Сямёнаўка, Рэч.).

МАЧЫ'ЦЬ *незак.* саліць. А бочкі ж у нас, каб ма-

чыць гуркі, шчэ й ні апараныя (Ст. Рудня, Жлоб.); Рыжкі мо́чаць, але іх у нас мала (Баравікі, Светл.+ +Задуб'е, Раг.; Любань, Б.-Каш.; Прудок, Калінк.; Стаўбун, Ветк.; Холмеч, Рэч.).

МАШКАРЭ'ЧА *ж., зборн.* машкара. Машкарэ́ча аж роіцца: таўчэцца на дождж (М. Аўцюкі, Калінк.). *Парайн.* ма́шкеча.

МАШКЕ'ЧА *ж., зборн., тое, што* машкарэ́ча. Машке́ча тады, калі альха цвіце (Неглюбка, Ветк.).

МАШНА' *ж.* каліта. Машна́ — ета мяшочак са скуры, хавалі ўсё там (Неглюбка, Ветк.).

МАШЫ'НКА I *ж.* частка *(лямпы)*. На магазін надзяваюць машы́нку (Піркі, Браг.); Падкруці кнот у машы́нкі (Янова, Ветк.).

МЕДЗВЯДЗЁНАК *м.* медзведзяня. А два мідзвядзёнкі такія ж ужэ інцірэсныя (Патапаўка, Б.-Каш.). *Парайн.* мядзмедзянёнак.

МАШЫ'НКА II *ж.* кнопка. Машы́нкі ўшывалі ў святочную вопратку (Харомцы, Акц.).

МЕ'КАЦЬ *незак.* бляяць. Авечка ме́кае, гаспадыню заве (Ямпаль, Рэч.).

МЕЛКАСЛО'ІНА *ж.* від драўніны *(у залежнасці ад слоя)*. На етым участку папалася многа мелкасло́іны (Храпавічы, Браг.+Чырвоная Буда, Добр.). *Парайн.* мелкасло́йка.

МЕЛКАСЛО'ЙКА *ж., тое, што* мелкасло́іна. Павівасты слой — гэта не йдзе на абработку, отэта мелкасло́йка (Хізы, Ветк.).

МЕ'ЛЬНІЦА *ж.* 1. млын. У нас ме́льніца была па Вестыпаўцы (Хізы, Ветк.); 2. *перан.* фігура *(гапака)*. Круціцца нада багата — ета ме́льніца (Багданавічы, Карм.).

МЕ'ННЕ *н.* імя. Шо цэ за ме́нне такэ мене прыдумаў? (Грушаўка, Нар.).

МЕНЬ *м.* мянтуз. Мень, як налім, толькі без вусоў, у гэтым гаду няма мянёў (Хізы, Ветк.).

МЕ'РКА *ж.* лубянка. Вымікла ўсё чыста жыта, даже с палоскі ні сабралі і ме́ркі зярна (Ларышчава, Добр.); Намалацілі ме́рку жыта (М. Аўцюкі, Калінк.).

МЕ'СЯЧКА *ж., астр.* 1. *памянш. да* месяц. Сёння ў нас ужо ме́сячка ясна свеця, а ўчора ме́сячка ў хмару схавалась (Хізы, Ветк.); 2. гатунак *(бульбы)*. Ме́сячка яна такая доўганька, разварыста (Аравічы, Хойн.); Ця-

пер не сеюць ме́сячку, а раней багата було (Дуброва, Петр.); 3. радыска. Ме́сячка адзін месяц расце, а тады вышушкаецца (Баршчоўка, Рэч.).

МЕ'ТРА *ж.* метр. З разгону яшчэ сунулася з ме́тру (Баравікі, Светл.); Дзе ты ме́тру паклала, трэба вымераць бярвяно (М. Аўцюкі, Калінк.).

МЖАК *м.* імжа. Хіба гэта дож, гэта ж толькі мжак (Насовічы, Добр.). *Парайн.* мжун, мжэнь.

МЖУН *м., тое, што* мжак. Плахая пагода сёдні, ужо б луччы бальшы дождж, а то мжун (Палессе, Чач.). *Парайн.* мжэнь.

МЖЭНЬ *ж., тое, што* мжак. Толькі мжэнь такая, уродзі дож хоца іці (Хізы, Ветк.). *Парайн.* мжун.

МІЖЫ'ПЕРНІЦА *ж.* нарыў *(паміж пальцаў)*. Ох, і памучуся я з тою міжы́перніцаю (Баравікі, Светл.).

МІЖНЯ'К *м., заал.* птушка *(помесь цецерука з глушцом)*. Міжняка́ можна ўбачыць у кустах (Ліцвінавічы, Карм.).

МІЗО'ГРАДАК *м.* разора. Мізо́градкі бываюць паміж градкамі, а на палях разоры (Грамавічы, Жлоб.).

МІЛІСЦІ'Н *м.* від тканіны. Мілісці́н блішчоны, а рубчык радочкамі (Забалацце, Раг.).

МІ'ЛКА *ж.* любая. А дзе твая мілка, што ты адзін ідзеш? (Дуброва, Петр.).

МІМАХО'ДЗЬ *прысл.* мімаходам. Ты вечна мімахо́дзь толькі, не прыдзеш не пасядзіш (Ліцвінавічы, Карм.).

МІНУ'ХА *ж.* пропуск *(пры сяўбе, касьбе)*. Глядзі ж, да міну́х не надзелай (Бацунь, Б.-Каш.); То ж трэба так скасіці, што ўся пайка ў міну́хах (Заходы, Рэч.).

МІНЮ'ТА *ж.* мінута. Цераз міню́ту па цілівізеру будзе канцэрт (М. Аўцюкі, Калінк.).

МІР *м., устар.* грамада. На паску тут міру, міру было (Баравікі, Светл.).

МІ'СА *ж.* міска. На стале стаіць міса квасу (Сяўкі, Лоеўск.); Паглядзі, можа дзе ў сенцы місу вынеслі (Кавака, Браг.). *Парайн.* міска *ў 1 знач.*

МІ'СКА *ж.* 1. *тое, што* міса. Уся калісь пасуда з гліны була, і міска тожа (Маркавічы, Гом.); А ціперака німа ў нас гліняных місак (Хізы, Ветк.); Сёння прывезлі ў магазін багата місак (Мікулічы, Браг.); 2. пасуда. Пасля абеда я усе чыста міскі памыла і паставіла пад прыпек (Кавака, Браг.); 3. таз. У місцы мыем рукі і ліцо

(Забалацце, Раг.); Там жа я дзве міскі занесла ў баню, мыйцеся (Кавака, Браг.).

МІ'ТАЛЕМ *прысл.* мігам, хутка. Я доўга ў лаўцы не затрымаюся, я міталем — туды і назад (Стасеўка, Рэч.); Ён міталем памчаўся да дому (Грушаўка, Нар.).

МЛІНЕ'Ц *м.* блін. Млінéц дык млінéц! Надта смачны (Аравічы, Хойн.); На снеданне сёння будуць млінцы́ (Вуглы, Нар.); Зараз млінцóў напеком ды наедімся (Піркі. Браг.+Волахаўшчына, Барг.; Вербавічы, Грушаўка, Нар.).

МЛІ'НЧЫК *м., памянш. да* млінéц. Возмі млíнчыкі, посолодзі іх і пастаў у печ (Вуглы, Нар.).

МЛЫ'НКА *ж.* млён. Млы́нка рукамі атпаліруецца, дык такая слізенькая, як маслам намазаная (Р. Бурыцкая, Лоеўск.).

МНЯ'НКА *ж.* пюрэ. Мня́нку зробым з бульбы чы так ест будэм? (Грушаўка, Нар.). *Параўн.* м'я́нка.

МОЗКАЗЛІЯ'ННЕ *н., мед.* інсульт. Ад сонца зрабілася мозказлія́нне ў его (М. Аўцюкі, Калінк.).

МО'РМА *ж.* чалавек *(негаваркі)*. Адам такі без'языкі, мурчыць сам сабе — мóрма, дай толькі (Аравічы, Хойн.).

МОСТ *м.* падлога. Падмяці, мой дзіцёначак, мост, а то мне некалі (Барталамееўка, Ветк.+Асінаўка, Чач.; Жгунь, Добр.; М. Аўцюкі, Калінк.; Маркавічы, Гом.; Хальч, Ветк.).

МО'ТАК *м.* маток. Пакрасіла мóткі я свае (Будкі, Нар.); Наснавалі ворах мóткаў (М. Аўцюкі, Калінк.).

МО'ЎЧАНЬКА *прысл.* моўчкі. Прыехаў і нічога не сказаў, так мóўчанька і прасядзеў (Гадзілавічы, Раг.).

МО'ЧАЛКА *ж., кул.* падліўка. Дзеўкі, можа вам даць мóчалкі да картоплі? (Грушаўка, Нар.).

МСЛІ'ВЫ *прым.* помслівы. Ой, ё мслíвыя людзі: па 20—30 гадоў помніць і мсціць (Хізы, Ветк.).

МУЖЫ'К *м.* 1. мужчына. Нашы мужыкí паехалі ў заработкі (М. Аўцюкі, Калінк.); 2. муж. Добры ў яе мужы́к, грошай добра зарабляе, гарэлкі не п'е (Дуброва, Петр.+Хізы, Ветк.).

МУЗДЗЕ'ЧКА *ж.* вуздэчка. Муздзéчку у зубы даюць каню. Як павесці нада, дык за повад бяруць дый вядуць (Хізы, Ветк.).

МУЗЫ'КА *м.* музыкант. Во, яе бацька буў добры музы́ка (Баравікі, Светл.+Вуглы, Нар.).

МУЗЫ'КІ *толькі мн.* танцы. Падажчы мяне, я адзенуся і на музы́кі пойдам (Каменка, Маз.).

МУКАСЕ'Ў *м.* мукасей. Мукасе́ву трэба было заплаціць, каб ён прасееў муку; жэншчына рэдка была мукасе́вам (Баравікі, Светл.).

МУЛЕ'НІК *м., тое, што* мазу́ль. Панаціраў гэтымі чабатамі муле́нікі (Тураў, Жытк.). *Параўн.* муля́к.

МУЛЬТ *м., тэкст.* мультан. Мульт цяплей з усіх тканей (Раманавічы, Гом.); Кохты з му́льту носім і цяпер па восені (Р.-Бурыцкая, Лоеўск.+Забалацце, Раг.; Шылавічы, Чач.).

МУЛЬЧЫРО'ЎКА *ж.* падкормка *(дрэў).* Мне сённі нарад на мульчыро́ўку (Харомцы, Акц.).

МУЛЯ'К *м., тое, што* мазу́ль. Муля́к у яе быў на ўсю нагу (Уб. Рудня, Лельч). *Параўн.* муле́нік.

МУ'ЛЯР *м.* вугаль *(драўняны).* А мая сястра сядзела тады на му́ляры (Аравічы, Хойн.).

МУРАЖО'ЎКА *ж.* апенька *(лугавая).* Муражо́ўкі на муражку растуць, ета ядомыя грыбы (Хізы, Ветк.).

МУ'РАК *м.* выступ *(у коміне).* Пакладзі мыла на му́рак, каб не валялася (Сівенка, Ве́тк.); На му́рку ляжаць спічкі (Р.-Шлягіна, Ветк.).

МУРЗА'Ч *м. кул.* страва *(з мукі са смятанай).* Сёні ж абет будзе смачны. А знаеш што будзе? Мурзачы́ (Грабаў, Петр.).

МУРЗЕ'Й *м.* мурза. Етого мурзе́я я не пушчу на парог (Аравічы, Хойн.). *Параўн.* мурзу́ля.

МУРЗУ'ЛЯ *ж., тое, што* мурзей. То ўжэ такая мурзу́ля, шчо свет не бачыў (Леніна, Хойн.).

МУРЛА'Т *м., цясл.* вянок зруба *(апошні).* Мурла́т ложытта для ўстаноўкі страенія (Марозавічы, Б.-Каш.). *Параўн.* мурла́та.

МУРЛА'ТА *ж., тое, што* мурла́т. Ох, няма з чаго зрабіць мурла́ту (Хізы, Ветк.). Мурла́ты выходзяць за страху; і к ім прымацоўваюць кроквы (М. Аўцюкі, Калінк.); Цяпер етых мурла́таў ніхто не ставіць (Суткоў, Лоеўск.+ +Забалацце, Раг.; Крынкі, Рэч.; Маркавічы, Гом.).

МУ'СА *ж.* морда. Му́са лісы була ў нешта вымазаная (Дзяржынск, Лельч.).

МУ'СКУЛА *ж.* мускул. Му́скула крэпкая у яе (Баравікі, Светл.).

МУСЛІНО'ЎКА *ж.* хустка *(шарсцяная).* Дак я ж бачыла такія муслі́но́ўкі і ў лаўцы (Кавака, Браг.).

МУ'ТНЫ' *прым.* брудны. Не пі, сынок, ету воду, ена мутна́я (М. Аўцюкі, Калінк.); Вот ва́ды паналівала дажджом. Калюж сколька, да ўсі мутны́е некіе (Аравічы, Хойн.); 2. *перан.* сумны. Відно, му́тна міла мая ходзіць (Аравічы, Хойн.).

МУХАМО'РА *ж.* мухамор. Мухамо́ру ету, як і вужакі, у ежу не бером (М. Аўцюкі, Калінк.).

МУЧАНІ'ЧНІК *м.* талакнянка. Мучані́чнік расце па зямле, цвіце волікамі (Баравікі, Светл.); Я рвала мучані́шнік, ён ад жалудка памагае (Грамавічы, Жлоб.).

МУЧА'НКА *ж.* каўбаса *(крывяная)*. На, закушай нашае муча́нкі (Грабаў, Петр.).

МУЧНЫ' *прым.* крахмалісты. У кождуй дзярэўні пасвойму называюць бульбу, а ў нас сыпкая, мучна́я (Хізы, Ветк.).

МШЭ'ННІК *м.* імшанік. Сёлет я здзелаў для сваіх пчол мшэ́ннік, тыя гады яны так зімавалі (Марозавічы, Б.-Каш.).

МЫ'ДЛА *н.* мыла. Трэба купіць мы́дла, каб папраць плацце (Белы Пераезд, Петр.).

МЫДЛЕ'ЎКА *ж., буд.* прылада *(для вымярэння)*. У майго свата не було мыдлёўкі, дак я даў яму вымерваць (Бярэзнікі, Браг.). *Параўн.* мыдло́ўка.

МЫДЛО'ЎКА *ж., тое, што* мыдлёўка. Пры рабоце ўвесь час правяраў мыдло́ўкай (Забалацце, Раг.).

МЫ'ЛЬЦЫ' *толькі мн., кул.* бульбянікі. З бульбы тоўчаныя біз мукі, біз нічога злепаюць аладкі — мы́льцы і ядзяць (Барталамееўка, Ветк.); Сённі на абед рабілі мыльцы́, вельмі смачныя былі (Сівенка, Ветк.).

МЫНЬЦЫ' *толькі мн.* блінцы. А ў вас такія мыньцы́ не пякут (Грушаўка, Нар.).

МЫСЛІ'ВЫ *прым.* кемлівы. Вона в мэнэ така мысліва та тыха, то жывэ ў горадзі (Грушаўка, Нар.).

МЫСО'К *м.* насок. Адзін ужо здзелала, трэба ўжо другі запускаць мысо́к (Івакі, Добр.).

МЫ'ЦЕ'ЛЬНІК *м.* пасуднік. Трэба вымыць мост каля мыце́льніка (Запясочча, Лельч.); Чыстыя тарэлкі пастаў у мы́цельнік (Залессе, Чач.+Піркі, Браг.).

МЫ'ЧКА *ж.* 1. *бат.* сівец. Ця мы́чка ўжэ суха, трэба спаліць, нехай наростэ нова (Грушаўка, Нар.); Накасіў мой стары адной мы́чкі (Быч. Карм.+Асінаўка, Чач.); 2. скрутак ільну *(для пражы)*. А я табе мы́чкі скубла, сабяры, мамачка, кубла (Касцюкоўка, Гом.); Трэба на-

робіць мычок, заўтра будэм прасты (Грушаўка, Нар.+ +Неглюбка, Ветк.).

МЫША'К *м., бат.* гарошак *(мышыны)*. Гэта трава такая мыша́к, мышыны гарох. Раманаў дзед мышако́м етым атравіўся (Хізы, Ветк.).

МЫШАНЁНАК *м.* мышанё. Як на полі паўбіраюць усё, у крайніх хатах мышанёнкаў столькі! (Хізы, Ветк.+ +Бабовічы, Гом.; Марозавічы, Б.-Каш.).

МЯДЗВЕ'ДЗІК *м.* мядзвёдка. На складу мядзве́дзік пад'еў багата картопляў (Пучын, Браг.+Кароткавічы, Жлоб.). *Параўн.* мядзве́дзька, мядзьве́дка.

МЯДЗВЕ'ДЗЬКА *м., тое, што* мядзве́дзік. Мядзве́дзька столькі бульбы папароў (Патапаўка, Б.-Каш.); Мядзве́дзька шкодзіць у гародзе, пад'ядае ўсё (Бабовічы, Гом.+Хізы, Ветк.). *Параўн.* мядзьве́дка.

МЯДЗЬВЕ'ДКА *ж., тое, што* мядзве́дзік. Мядзьве́дка шкодная, усю цыбулю паесць (Багданавічы, Карм.+Халочча, Чач.; Холмеч, Рэч.). *Параўн.* мядзве́дзька.

МЯДЗВЁДКА *м., спец.* рубанак *(з двума ручкамі)*. Мужчыны ўзялі ў Рамана мядзвёдку, работа сразу пачала спорыцца (Хракавічы, Браг.).

МЯДЛІ'ЦА *ж.* мятліца. Мядлі́ца — дробненькая трава. Мядлі́цай зараслі памідоры (Забалацце, Раг.). *Параўн.* мя́тлік, мятлю́г.

МЯДЗМЕДЗЯНЁНАК *м., тое, што* мядзвядзёнак. Прыгожы мядзмедзянёнак (Неглюбка, Ветк.).

МЯДНЯ'К *м.* грыб *(падобны да апенькі)*. У мядняка́ адпадае кальцо з ножкі, а ў апенькі яно астаецца (Даманавічы, Калінк.).

МЯДО'ВІК *м.* пернік *(з мёдам)*. Мядо́вікі калісь так смашна еліся з малаком (Р.-Бурыцкая, Лоеўск.). *Параўн.* мядо́ўка.

МЯДО'ЎКА *ж., тое, што* мядо́вік. А як аткусіш мядо́ўкі трохі — што мёд: у роце растае (Саўгасная, Б.-Каш.); // напітак *(з мёдам)*. Будзя ўжо, кінь мне мядо́ўкі папіць (Меркулавічы, Чач.); 2. груша *(салодкая)*. Грушаўка-мядо́ўка салодка-салодкая, як мёд (Грамавічы, Жлоб.).

МЯДО'ЎНІЦА *ж., устар.* посуд *(для мёду)*. Старыя казалі калісь мядо́ўніца для мёду спецыяльна была (Піркі, Браг.).

МЯДЗЯ'НКА *ж.* каструля *(алюміневая)*. Мядзя́нка

прадралась, дык купіла ўжо паліраванаю каструлю (Вышыца, Б.-Каш.).

МЯЗГА′ *ж.* 1. мязга. Мязгу́ прывезлі свінням (Майскае, Жлоб.); 2. мяздра. Выбіряш гарбузік, дык мязга́ гэтая такая надаедлівая (Даманавічы, Калінк.); Каб выбраць семачкі, выбрала мязгу́ ў гарбузу (Залессе, Чач.). *Параўн.* мякіша́, мя́са.

МЯ′КІШ *м., перан.* кончык *(пальцаў).* Ой, разрэзала увесь мя́кіш да ногця (Неглюбка, Ветк.). *Параўн.* мя́кушак, мя́кушка, мяпу́шка.

МЯКІ′ША′ *ж., тое, што* мязга́ *ў 2 знач.* Багата мякі́шы ў маладых гарбузах. У мякішы́ знаходзяцца гарбузікі (Забалацце, Раг.). *Параўн.* мя́са.

МЯ′КІШЫ *толькі мн.* мускулы. Мя́кішы слабенькія, як у дзіцяці (Холмеч, Рэч.); Баляць на руке мя́кішы (Бабовічы, Гом.).

МЯКІ′ШКА *ж., анат.* мочка. У мякі́шкі сярожкі ўстаўляюць (Неглюбка, Ветк.).

МЯ′КУШАК *м., тое, што мя́кіш.* Мя́кушак вельмі пухлы на бальшым пальцу (Залессе, Чач.). *Параўн.* мя́кушка, мяпу́шка.

МЯ′КУШКА *ж., тое, што* мя́кіш. Бывая, што з-пад ногця мя́кушка нарывае (Хізы, Ветк.); Грабаю ету зямлю, аж мя́кушкі пачарнелі (Меркулавічы, Чач.). *Параўн.* мя́кушак, мяпу́шка.

МЯ′ЛА *н.* 1. мяліца. Мя́ла круціцца, лён мне (Неглюбка, Ветк.); 2. таўкач. Етае мя́ла ўжо мо трыццаць гадоў жыве (Кабанаўка, Жлоб.); Стоўкла картоплю, дак вунесь мя́ло ў сенцы (Вуглы, Нар.+Аравічы, Хойн.). *Параўн.* мя́лка, мя́льніца.

МЯ′ЛКА *ж., тое, што* мя́ла. Відна было, што мя́лка даўно стаіць без дзела (Ст. Буда, Б.-Каш.); А мя́лкі тады былі ў Панкрата да Хведара (Бабовічы, Гом.+Багданавічы, Карм.; Неглюбка, Ветк.). *Параўн.* мя́льніца.

МЯ′ЛЛЕ *н.* адыходы *(ад ільну пры апрацоўцы).* Выграбла мя́лля с-пад церніцы (Антонаўка, Гом.+Насовічы, Добр.; Стаўбун, Ветк.).

МЯ′ЛЬНІЦА *ж., тое, што* мя́ла. Цётка Ганна, я прынясу да вас канаплю ў вашу мя́льніцу, нагамі цяжка мяць (Антонаў, Ельск.); Якаў зробіў таку веліку мя́льніцу, што аж дзесяць жмень канапель лезе (Вуглы, Нар.). *Параўн.* мя́лка.

МЯЛЬТА'ШКА *ж., тое, што* мянта́чка. Вазьмі мяльта́шку і навастры маю касу (Запясочча, Жытк.). *Параўн.* манці́ла.

МЯ'ЛЬШЧЫК *м.* мужчына *(які трэ лён.)*. Яна як добры мя́льшчык ля лёну (Стаўбун, Ветк.).

МЯ'ЛЬШЧЫЦА *ж.* жанчына *(якая трэ лён)*. Мя́льшчыца лён мнець (Ліцвінавічы, Чач.+Багданавічы, Карм.).

М'Я'НКА *ж., тое, што* мня́нка. Налупітэ, деўкі, картоплі на вечерю м'я́нка будэ (Грушаўка, Нар.).

МЯНТАВА'ЦЬ *незак., тое, што* манта́чыць. Касу мянтава́ць (Калінін, Хойн.). *Параўн.* мянта́шыць.

МЯНТА'ШЫЦЬ *незак., тое, што* манта́чыць. Мента́шыць косу суседа просіла (М. Аўцюкі, Калінк.). *Параўн.* мянтава́ць.

МЯПУ'ШКА *ж., тое, што* мя́кіш. Мяпу́шкі адмарозіліcь (Камунар, Б.-Каш.). *Параўн.* мя́кушак, мя́кушка.

МЯРЭ'ЖЫЦЬ *незак.* вышываць *(мярэжкай)*. Накідкі можна мярэ́жыць (Забалацце, Раг.); У пакрывале багата нітак выцягваеш і мярэ́жыш (Кароткавічы, Жлоб.); Мярэ́жыць і машынай і рукамы ўзор які хочаш (Хізы, Ветк.+Івакі, Добр.; Халочча, Чач.).

МЯ'СА *н.* 1. мяса. Такое смачнае м'яса з індзюшкі (П.-Буда, Добр.); 2. *тое, што* мязга́ *ў 2 знач.* Гарбузовае мя́са параць для свіней (Багданавічы, Карм.+Забалацце, Раг.; Новая Дуброва, Акц.; Піркі, Браг.). *Параўн.* мякі́ша́.

МЯ'ТЛІК I *м, бат., тое, што* мядлі́ца. Мя́тлік дрэнна выцягваецца з зямлі (Марозавічы, Б.-Каш.+Пярэдзелка, Лоеўск.; Падворак, Лельч). *Параўн.* мятлю́г.

МЯ'ТЛІК II *м., устар.* палатно *(пры хрышчэнні)*. У мяне буў харошы мя́тлік (Баравое, Лельч.+Азяраны, Жытк., Гарывада, Рэч.).

МЯТЛІ'ЧКІ *толькі мн.* від вышыўкі. А варатнічок увесь мятлі́чкамі вышыла (Халочча, Чач.).

МЯТЛУ'ШКА *ж., заал.* мятлік. Мятлу́шка лётая кругом лампачкі (Патапаўка, Б.-Каш.); Мятлу́шкі ўсякія бываюць: і што над капустай лятаюць, і што вечарам на свет ляцяць (Халочча, Чач.).

МЯТЛЮ'Г *м., тое, што* мядлі́ца. Многа ў клевяры сёлята мятлюгу́, то для сена нядобра (Саўгасная, Б.Каш.); А дзе я тобе знайду таго мятлюгу́, як его нідзе

блізка нема (Падворак, Лельч.+Хізы, Ветк.; Пучын, Браг.; Халочча, Чач.). *Парайн.* мятлік.

МЯ'ЧЫЦЬ *незак.* 1. мяць. Як стану тое яблыка мя́чыць, дак так доўга, а так есці не магу (Аляксандраўка, Рэч.); 2. *перан.* есці. Што ты ўсё мя́чыш і мя́чыш бульбу адну (Ст. Сяло, Гом.).

МЯЧЭ'ЎНІК *м., бат.* рагоз. Рагозу мячэ́ўнікам завуць (Марозавічы, Б.-Каш.); Мячэ́ўніку сёлета ў мяне ні було, дак на аборцы пляла цыбулю (Быч, Карм.).

## Н

НААЗЕ'М *прысл.* на зіму. Нааром наазём, разволочам ды сеем (Аравічы, Хойн.).

НАБАСО'НАК *прысл.* набасанож. Набасо́нак абуў чобаты (Турок, Петр.). *Парайн.* набасо́нач.

НАБАСО'НАЧ *прысл., тое, што* набасо́нак. Абуў набасо́нач чобаты, то ногі памерзлі (Пясчанікі, Жытк.).

НАБГО'М *прысл.* нагбом. Напіся з вядра набго́м (Хізы, Ветк.).

НАБЕ'ДРЫКІ *толькі мн.* шляя. У Рыгоравай збруі заўсёды рваныя набе́дрыкі (Запясочча, Жытк.). *Парайн.* нары́тнікі, нарэ́тнікі.

НА'БЕРАЖНЯ *ж.* умацаванне *(папярочнае паміж капылоў у санях).* На́бережні паабрываліся (Холмеч, Рэч.). *Парайн.* на́маражня, на́маразня, на́мерзня, на́рвіна.

НАБЕ'РАК *м.* пасудзіна *(для збірання ягад).* А мой набе́рак скоро будзе поўны (Дзяржынск, Лельч.); Набрала ягад два набе́ркі (Махнавічы, Маз.). *Парайн.* набірак, набірач.

НАБЕ'РАЧАК *м., памянш. да* набе́рак. Набрала набе́рачак ягад і шчэ трохі (Баравікі, Светл.).

НАБІВА'ЦЬ *незак.* насякаць *(жорны).* Особого чоловека, які б набіва́ў жорваны, ні було, а хто меў іх, то і набіва́ў (Аравічы, Хойн.). *Парайн.* нака́вываць.

НА'БІ'ЛКІ *толькі мн.* набіліцы. А ў на́білкі ўжо бёрды ўстаўляюцца (Марозавічы, Б.-Каш.); На́білкі падвешаюць, штоб яны рухаліся, ткаць імі нада (Хізы, Ветк.); Хацела паставіць кросна, да не знайшла набі́лак (Будкі, Нар.). *Парайн.* насі́лы *ў 3 знач.*

НАБІ'РАК *м., тое, што* набе́рак. Набірак малін назь-

бірала (Прудок, Калінк.);Назьбірала пяць набіркаў маліны (Пясчанікі, Жытк.). *Параўн.* набірач.

НАБІРА'НКА *ж.* посцілка *(рознакаляровая).* Набíранка — то ткуць з сукна і малюнэ. Шчэ пасцілкі набíранкамі завуць (Марозавічы, Б.-Каш.).

НАБІ'РАЧ *м., тое, што* набе́рак. От я одын набірач ягад набрала (Грушаўка, Нар.). *Параўн.* набірак.

НАБЛЁХАЦЦА *зак., зневаж,* напіцца *(празмерна чаго-небудзь).* Наблёхаюцца вады, а тады крычаць, што жываты баляць (Бабчын, Хойн.).

НА'БО *прысл.* добра што. Цяпер будуць хадзіць ды браць сена, на́бо пазволіў (Пясчанікі, Жытк.).

НАБО'ЖНІК *м.* ручнік *(на абразы).* Іконы ў куце вісяць, а на іх набо́жнік (Гары-Вада, Рэч.); Куліна, дай мне ўзор твайго набо́жніка (Шылавічы, Чач.); А мне нашывала набо́жнік суседка мая (Быч, Карм.); Я сабе вышыла рознымі цвятамі набо́жнік у вялікай хаце (Кароткавічы, Жлоб.); Пра набо́жнік, дзеўкі, у бабкі спытайце (Марозавічы, Б.-Каш.); Набо́жнік у зорачкі вышыла (Нісімкавічы, Чач.); Нада к святу павесіць новы набо́жнік (Халочча, Чач.); Хіба ж цяпер тыя дочкі набо́жнікі бяруць, але ж няхай адзін будзя (Кавака, Браг.); У мяне і цяпер захаваліся гарныя набо́жнікі (Піркі, Браг.); І набо́жнікаў у яе багата (Пракопаўка, Добр.); Дак у нас етыя рушнікі ўшываныя, што на іконы вешаюць, набо́жнікамі завуць (Баравікі, Светл.). *Параўн.* накутнік.

НАБО'ЖНІЧАК *м., памянш. да* набо́жнік. Во якія набо́жнічкі я сабе вышыла (Жгунская Буда, Добр.).

НАБО'Й *м.* мазоль *(сухі).* Усе пальцы на нагах ў набо́ях (Холмеч, Рэч.).

НАБО'Р *м.* каме́нне *(у печцы лазні).* Як узлеялі вады на набо́р, дык ад духу хоць было ўцякай з бані (Лучын, Раг.).

НАБРАКАВА'ЦЦА *зак., зневаж.* наесціся *(празмерна).* Я так набракава́ўся, што чуць вылез з-за стала (Дубраўка, Добр.). *Параўн.* налуза́цца, налупі́цца, напу́гацца, напузы́рыцца, нарэ́зацца, насёрбацца.

НАБРА'ЦЦА *зак.* накупіць. Чаго ўжо ты набра́лася ў лаўцы, што чуць нясеш? (Радкоў, Акц.).

НАБРО'ДА *аг.* чужынец. Напрыходзіць сюда прыблуд разных. У нас іх называюць набро́дамі (Бабовічы Гом.). *Параўн.* на́валач, наёжджы.

НАБРЫ'МКАЦЦА *зак., зневаж.* напіцца *(спіртнога)*. Набры́мкаўся і прышоў (Быч, Карм.). *Парайн.*назбіра́цца *ў 1 знач.*, накулды́кацца, наку́міцца, наліза́цца, налуза́цца, нахляба́цца.

НАБУКРО'ІЦЬ *зак., зневаж.* падбухторыць. Набукро́ілі цесця, дык ён паўгода ўжо не заходзіць у хату (Падгаць, Акц.). *Парайн.* нападбухто́рыць.

НАБУХТЭ'РЫЦЬ *зак., груб.* наліць *(празмерна)*. Як набухтэ́рыў вады туда (Пракопаўка, Добр.). *Парайн.* набэ́хаць.

НАБУ'ЦЬ *зак.* абуць. Так і гаворым: набу́ць бацінкі, боты, сапагі (Хізы, Ветк.).

НАБУЯ'РЫЦЬ *зак.* зрабіць *(многа)*. Бач-ка, колькі набуя́рылі нашы жанчыны ў полі (Быч, Карм.). *Парайн.* наго́каць.

НАБЭ'ХАЦЬ *зак., груб., тое, што* набухтэ́рыць. Куды ты набэ́хала столькі малака? (Жгунская Буда, Добр.); Як набэ́хала вады (Ніўкі, Добр.).

НА'ВАЛАЧ *аг., тое, што* набро́да. На́валачы ў нашай дзярэўні багата (Баравікі, Светл.). *Парайн.* нае́жджы.

НА'ВАЛКА *ж.* наваловчка. То насыпка пад сподам, а верхняя на́валка (Дзям'янкі, Добр.); Набрала штапелю на на́валку (Багданавічы, Карм.); Надзень вышываную на́валку на падушку (Чырвоная Буда, Добр.); Гэта ў мяне святочныя на́валкі, а на кожны дзень я буднія надзяю (Кароткавічы, Жлоб.); Зараз ужэ на́валкі гатовыя ў гамазіне прадаюць. На́валкі з мацерыялу сам мала хто шые (Крынкі, Рэч.); Накупляла ўжо столькі на́валак сабе (Нісімкавічы, Чач.). *Парайн.* на́ўлачка.

НА'ВАРАТ *м.* каўнер. Зрабіла ў кашулі малы на́варат (Харомцы, Акц.).

НАВАРА'ЧАЦЦА *незак.* заходзіць *(час ад часу)*. Я пробала навара́чацца ў хату (Быч, Карм.).

НАВЕ'ЗАЦЬ *зак., груб.* нагатаваць *(няўмела)*. Наве́зала, што хіба толькі парасятам (Прудок, Калінк.).

НАВЕ'К *прысл.* заўсёды. Наве́к ты лезеш туда, дзе цебе не просець (Махнавічы, Маз.).

НАВІ'ЎКА I *ж., спец.* завіўка, прычоска. Я думала, мо якую наві́ўку здзелала (Піркі, Браг.).

НАВІ'ЎКА II *ж.* уток *(нітак у кроснах)*. Навіваем кросны і тком, а ніткі на кроснах — гэта ўжо наві́ўка (Марозавічы, Б.-Каш.).

НАВО'ЙКА *ж.* навой. Гэта навóйка пад пражу, гэта пад палатно (Бабовічы, Гом.); Трэба кросны паставіць, а навóйкі німа (Каравацічы, Рэч.); Палатно навіваецца на навóйку (Будкі, Нар.); Трэба падкруціць навóйку, штоб лепей было ткаць (Замосце, Калінк.); Ты прынясі нашу навóйку (Капань, Рэч.+Грушаўка, Нар.; Марозавічы, Б.-Каш.; Махнавічы, Маз.).

НАВО'ЙЧЫК *м., памянш. да* навóй. Навóйчык бывае вялікі і малы (Піркі, Браг.); На навóйчык накаталі палатно (Сівенка, Ветк.).

НАВУ'ЖВАЦЬ *незак.* рыхтаваць. Рамкі для мёду навýжваць нада (Холмеч, Рэч.).

НАВУ'ШНІЦА *ж.* шапка-вушанка. Навýшніцы дзецям шылі (Харомцы, Акц.).

НАВЯРЗЦІ' *зак., груб.* нагаварыць *(абы-чаго)*. Навярзé ён нямаведама чаго (В. Нямкі, Ветк.).

НАВЯРНУ'ЦЬ *зак.* надумацца *(сказаць)*. Сцёпа навéрне, да не скажа (Быч, Карм.).

НАВЯРТА'ЦЬ *зак.* пагражаць. Яму ж тожа навяртáюць (Палессе, Чач.).

НАВЯСНЕ' *прысл.* вясной. Навясьнé прадаў адно куранё (Вышалаў, Петр.); Летась навясьнé купіў (Прудок, Калінк.).

НАГАВІ'ЦЫ *толькі мн.* штаны. Надзень нагавíцы, вунь дзеўкі ў хату прышлі (Гармавічы, Жлоб.).

НАГАЙСА'ЦЦА *зак., груб.* насваволіцца. Ой, нагайсáлася наша Галя за цэлы дзень (Піркі, Браг.).

НА'ГАЛАВЕНЬ *м.* вушак *(над варотамі)*. І трэба ж, так сільна ўдарыў нáгалавень па ілбу, што аж іскры паляцелі (Хракавічы, Браг.). *Параўн.* надварóтня.

НАГАЛО'ВІЧ *м.* вушак *(над акном)*. Падаконнік часта меняюць, а нагалóвіч не (Холмеч, Рэч.). *Параўн.* надвóканне.

НАГАМАНІ'ЦЬ *зак.* нагаварыць *(многа)*. Нагаманíла, што ў вушах шуміць (Чырвоная Паляна, Б.-Каш.).

НАГАНЯ'ЦЬ *зак.* наразворваць. Ты наганя́й мне баразён, а я буду капаць (Дземяхі, Рэч.). *Параўн.* нападóрваць.

НАГАТАЎЛЯ'ЦЬ *незак.* рыхтаваць. Нагатаўля́юць сані ў дровы ехаць (Сямінаўка, Раг.).

НАГА'ЎКАЦЬ *зак., зневаж.* напаклёпнічаць. Цімох любіць нагáўкаць на суседзей (Чарняцін, Б.-Каш.); Нагáўкаць ён сумее, гэта ў яго ў модзе (Крыўск, Б.-Каш.).

НАГДАВІ'СЬ (нагдо́вісь, нагдо́вясь) *прысл.* нядаўна. Ён добры хазяін, сам сабе сена прывёз яшчэ нагдавісь (К. Балсуны, Ветк.); Нагдо́вісь я там была (Палессе, Чач.); Нагдо́вясь яго бачыла з дзеўкай (Апанасаўка, Гом.). *Параўн.* на́гдысь, надо́ечы, нікпачы́н.

НА'ГДЫСЬ *прысл., тое, што* нагдавісь (нагдо́вісь, *нагдо́вясь*). На́гдысь палола, а трава зноў вырасла (Ніўкі, Добр.); На́гдысь прыходзіў к нам чалавек (Ухоў, Ветк.). *Параўн.* надо́ечы, нікпачы́н.

НА'ГЛЫ *прым.* 1. нахабны. Вось які на́глы хлопец, як з дзедам гаворыць (Холмеч, Рэч); 2. *перан.* вялікі. Пабач, Рыгор, які на́глы гарбуз у нас вырас. Мо, й с паўпуда будзе (Дзвіжкі, Ельск.); Ой, які ты вырас на́глы, Янка! (Перароў, Жытк.); У нас гэты год вырасла на́глая бульба (Макарычы, Петр.).

НАГО'КАЦЬ *зак., тое, што* набуя́рыцъ. За тры дні я як наго́кала ў гародзі (Палессе, Чач.).

НАГРУ'ДНІК *м.* 1. *дзіц.* нагруднік. Знімай ужэ і нагру́днік разам сціраць (Кавака, Браг.); Цепер шапачак і нагру́днікаў па дзесяць у кажынага малога (Кірава, Браг.); 2. перад *(сукенкі)*. У мае сестры было такее гарнэе плацце, да нагру́днік караткаваты (Кірава, Браг.); Начала ўчора падол к нагру́дніку прышываць, да й ня кончыла (Чырвоная Буда, Добр.); 3. Целагрэйка. Сама нагру́днік сшыла (Нісімкавічы, Чач.).

НАГУ'ЛА *аг.* свавольніца. Такая ўжо стала нагу́ла. Як разгуляецца, дак на ўсё забываецца (Палессе, Чач.).

НАДАКУ'ШНЫ *прым.* надакучлівы. Ды сядзь ты, такі надаку́шны (Неглюбка, Ветк.).

НАДБІ'ЎКА *ж.* надточка. Во ета надбі́ўка і пойдзе сюды (Шылавічы, Чач.). *Параўн.* надты́чка, накла́д, на́пусак.

НАДБРУ'СНІЦА *ж.* бэлька. Надбру́сніца ўжэ ліжала на струбі (Р. Шлягіна, Ветк.).

НАДВАРО'ТНЯ *ж., тое, што* на́галавень. Зачапіў надваро́тню галавой, такі высокі (Днепрын, Рэч.).

НАДВО'КАННЕ *н., тое, што* нагало́віч. Благое ў мяне надво́канне (Загор'е, Б.-Каш.).

НАДДА'ЦЬ *зак.* паскорыць. Давайце наддадзі́м і дагонім пярэдніх (Багданавічы, Карм.).

НАДДА'ЧА *ж.* участак *(зямельны)*. Цяпер у нас німа надда́чы ў полі, у другіх ё (Ларышчава, Добр.).

НАДДЗЯРЖА'ЦЬ *незак.* падтрымліваць. Ты ж наддзяржáй ету ватку (Быч, Карм.).

НАДЗЕ'ЖКА *ж.* накідка. Мой дык надзéжку ўсягда бярэ з сабой у дарогу (Р.-Каменева, Лоеўск.). *Парайн.* нáкідка.

НАДЗЕ'ЖНІК *м.* накрыўка *(палатняная)*. Надзéжнік быў з сяродкавага палатна (Нісімкавічы, Чач.); Пашыла надзéжнік на дзяжу (Багданавічы, Карм.); Як накрыеш дзежку надзéжнікам, дык цеста скарэй падходзіць (Раманавічы, Гом.); Накрый ба, чалавек, дзяжу етым надзéжнікам (Кавака, Браг.); Надзéжнікам прыкрываюць дзяжу, як хлеб квасяць (Марозавічы, Б.-Каш.). *Парайн.* надзéжніца.

НАДЗЕ'ЖНІЦА *ж., тое, што* надзéжнік. Хлеб накрываюць надзéжніцай, хлеба не пякуць, таму няма надзéжніц (Забалацце, Раг.).

НАДЗЕ'ЛЬНЫ *прым., абрад.* вясельны. Як дорацьмаладым на вяселле, тады надзéльныя песні пяюць (Баравікі, Светл.).

НАДЗЯВА'НІКІ *толькі мн.* бульба *(адваранаяў лушпінах)*. Варылі надзявáнікі, усе елі з ахвотай (Ямпаль, Рэч.). *Парайн.* нéлупка.

НАДО'ЕЧЫ *прысл., тое, што* нагдавíсь *(нагдóвісь, нагдóвясь)*. Я там надóечы была (Быч, Карм.); Надóечы я сустрэлася з Іванам і не пазнала (Дзвіжкі, Ельск.); Надóечы была ў мяне Ганна (Крыўск, Б.-Каш.). *Парайн.* нáгдысь, нікпачы́н.

НАДО'ЯСЬ *прысл.* учора. Янка мой надóясь накасіў цэлы воз сена на кругловіне (Чырвоная Паляна, Б.-Каш.).

НА'ДСЫР *прым.* сыраваты. Як мяса нáдсыр, трохі недасмажана, то нічога не зашкодзіць (Прудок, Калінк.).

НАДТЫ'ЧКА *ж., тое, што* надбíўка. Хужай німа, як плацце кароткае ды надты́чку прышываць нада (Рудня Бурыцкая, Лоеўск.); Так ёмка прышыла надты́чку, як тут была (Шылавічы, Чач.). *Парайн.* наклáд, нáпусак.

НАДУБЕ'ЦЦА *зак., груб.* намерзнуцца. Надубéлася на дварэ карова (Вышалаў, Петр.). *Парайн.* накалéцца.

НАДУ'ЦЬ *зак.* абдурыць, падмануць. Ён цібе надýў, а што ты зробіш — з ім не згаворышся (Вітлін, Раг.).

НАДЫМА'НКІ *толькі мн.* каралі. На шыі ў мяне віселі прыгожыя надымáнкі (Капань, Рэч.).

НАДЫ'СЬ *прысл.* цяпер, зараз. Нады́сь пойдзем ці заўтра? (Хвойнае, Хойн.).

НАЕ'ДАК *м.* ежа *(сытная)*. Агуркі — ета не бальшы нае́дак (Стараград, Раг.); Ніякага нае́дку з етых кіяхоў німа (Мормаль, Жлоб.); Такі нае́дак памідоры, каб сала з'еў — сало ці мясо, то нае́дак (Пясчанікі, Жытк.).

НАЕ'ЖДЖЫ *м., тое, што* набро́да. Многія з нас тут нае́жджыя (Неглюбка, Ветк.). *Парайн.* на́валач.

НАЗА'ЎТРАГА *прысл.* назаўтра. Немцы нас папалілі, а наза́ўтрага нашы аслабанілі (Лукі, Жлоб.).

НАЗБІРА'ЦЦА *зак.* 1. *тое, што* набры́мкацца. Ходзяць, ходзяць, пакуль назбіра́юцца сівухі, што чуць другі дамоў прыпаўзе (Крыўск, Б.-Каш.); 2. наесціся. Лыска так назбіра́лася, што аж бакі трашчаць (Дзвіжкі, Ельск.).

НАЗЕМАТО'ЗА *ж., вет.* наземато́з. Пчолы балеяць наземато́зай, гнільцом (Карма, Добр.).

НА'ЗМА *ж.* нара *(лісіная)*. На́зма парожняя, ліса ўцякла (Карынёўка, Гом.).

НАЗНАРО'К *прысл.* знарок. Назнаро́к стаў дай дражніцца (Перароў, Жытк.); Назнаро́к сказаў (Вышалаў, Петр.).

НАЗО'РКУ *прысл.* на золку. Цёця Надзя ўстае назо́рку кожны дзень, бо карову трэба падаіць (Каротка-вічы, Жлоб.); Назо́рку выгнала карову (Марозавічы Б.-Каш.). *Парайн.* нара́нкі.

НАЗУ'БІ'ЦЦА *зак.* прарасці *(пра насенне)*. Цыбуля назу́білася на чацвёрты дзень (Гармавічы, Жлоб.); Толькі намачылі насенне, а яно назу́білась (Сямёнаўка, Рэч.); Маё насенне толькі яшчэ назубі́лася (Барталамееўка, Ветк.).

НАЗУ'БЛЕНЫ *дзеепрым.* прарослы *(пра насенне)*. Насенне ўжэ назу́бленае; няхай шчэ трохі паляжыць (Забалацце, Раг.). *Парайн.* накало́ўшыся, наклю́нуўшы.

НАЗЫВА'ТЫ *м.* запрашальнік *(на вяселле)*. Добрыя называ́тыя Іван і Люба (Баравое, Ельч.).

НАЗЫ'КАЦЬ *зак.* напазычаць. Зноў назы́каў грошай, а міне аддавай (Пракопаўка, Добр.).

НАЙГРА'НЫ *дзеепрым.* апладатвораны. Хаця б усе яйцы былі найгра́ны, бо і еты год зноў не будзе куранят (Завайць, Нар.).

НА'ЙДА *ж.* жанчына *(гаваркая)*. Ужо пабегла на́йда брахаць (Барталамееўка, Ветк.).

НАЙПЯРВЕ'ЙШЫ *прым.* найлепшы. Найпярвейшы хлопец у селе — Калістрат (Перароў, Жытк.).

НАЙСЦІ'СЯ *зак.* нарадзіцца. Унё, найшлóся ў мае суседкі дзіця, а ёй ужэ сорак (Баравое, Лельч.); У Івана дзіця ўжэ шостая найшлóся, што ён з імі будзя дзелаць (Ліпнякі, Лоеўск.); Найшлóся дзіця ў яе (Насовічы, Добр.); Ты паглядзі, зноў найшлóся ў яе дзіця! (Харошаўка, Добр.).

НАКА'ВЫВАЦЬ *незак., тое, што* набівáць. Бывала, накáвывалі камяні жорнаў стальною масаю, дык тады ўжэ работа ішла ў поўненькі ход (Стаўбун, Ветк.).

НАКАЛЕ'СНІК *м.* воз. Да весны трэбака шчэ накалéснік сена (Грычынавічы, Жытк.).

НАКАЛЕ'ЦЦА *зак., тое, што* надубéцца. Яна так накалéлася на марозі (Быч, Карм.).

НАКАЛО'ЎШЫСЯ *дзеепрым., тое, што* назýблены. Накалóўшаеся насенне вельмі баіцца холаду (Піркі, Браг.). *Парайн.* наклю́нуўшы.

НАКАТАГА'НІЦЬ *зак.* наварыць. Аж цэлы чуганчык бульбы накатагáнілі (Баравікі, Светл.).

НАКАЎТА'ЦЦА *зак.* наглытацца. Накаўтáлася цаліком не жованых ягад, аж жывот баліць (Крыўск, Б.-Каш.).

НАКАЎХА'ЦЬ *зак.* адлупцаваць. Не пайду к даццэ, бо мене там накаўхáюць (Вялікія Нямкі, Ветк.). *Парайн.* намя́каць, намя́кшыць, наўздавáць, наўскладáць.

НАКВЕ'КАЦЬ *зак., абразл.* намазаць. Наквéкаў абыяк, аж глядзець гадка (Быч, Карм.).

НАКІДА'ННІК *м.* кідальнік. А дзе ж ваш накідáннік. Адным воз цяжка накласці (Прудок, Калінк.+Вышалаў, Петр.).

НАКІ'ДАНЫ *прым.* заснаваны *(пра кросны)*. Накíданыя кросна стаялі сярод хаты (Ліпляны, Лельч.).

НАКІДА'ЦЬ *незак.* 1. снаваць *(кросны)*. Накідáць кросны — работа марудная (Вялікае Поле, Петр.); У бердо ж лягчэй накідáць, чым у ніты (Тонеж, Лельч.); Сённі я ўжэ ў ніты накідáла (Каравацічы, Рэч.); Сядай Ганно да накідáймо палатно ў ніт (Ліпляны, Лельч.+Неглюбка, Ветк.; Старажоўцы, Жытк.; Хізы, Ветк.); 2. накладаць. Накідáла цэлы дзень гной на вазы, дык рукі адвальваюцца (Багданавічы, Карм.+Баравікі, Светл.; Літвінавічы, Карм.; Марозавічы, Б.-Каш.; Пагоннае, Хойн.; Ручаёўка, Лоеўск.).

НА'КІДКА *ж., тое, што* надзёжка. Як куды ехаць, мой стары бярэ накідку (Бабовічы, Гом.).

НАКІДНЫ' *прым.* дабаўлены *(пра вочка пры вязанні)*. Накідныя вочкі вельмі хутка расплетаюцца (Ліпляны, Лельч.); А ешчэ рысунак ведаю з накідных вочак (Піркі, Браг.); Як вяжаш, то робіш накідныя вочкі (Каробкавічы, Жлоб.); Накіднымі вочкамі вязала ўсю кохту (Нісімкавічы, Чач.+Баравікі, Светл.; Вялікае Поле, Петр.; Ліпляны, Лельч.; Ручаёўка, Лоеўск.; Хізы, Ветк.).

НАКЛА'Д *м., тое, што* надбіўка. Які ў цябе гарны наклад (Баравікі, Светл.). *Параўн.* надтычка, напусак.

НАКЛЮ'НУЎШЫ *дзеепрым., тое, што* назублены. Насенне наклюнуўшае адразу высяваюць у зямлю (Забалацце, Раг.). *Параўн.* накалоўшыся.

НАКЛЮ'НУЦЦА *зак.* прарасці. А наша солада ўжэ наклюнулася (Даманавічы, Калінк.).

НАКРАПІ'ЦЬ *зак.* залатаць. Трэба накрапіць етую сукенку. Ля дому шчэ можна насіць (Бабунічы, Петр.); Сарочку накрапіла дай цэлу зіму насіла (Ручаёўка, Лоеўск.). *Параўн.* налапіць, налатаць.

НА'КРУТНЯ *ж.* закрутка. Без накрутні ў хазяйстві ні абыйдзішся, што-нібудзь скруціць сільна біз яе трудна (Майскае, Жлоб.).

НАКРЫВА'ЛЬНІК *м.* накідка *(на падушку)*. Дачцэ сваёй накрывальнік дала на падушкі (Грушаўка, Нар.). *Параўн.* накрыўка *ў 1 знач.*

НАКРЫВА'ЧКА *ж., тое, што* накрывальнік. Накінь накрывачку на падушку (Піркі, Браг.). *Параўн.* накрыўка *ў 1 знач.*

НАКРЫВА'ШКА *ж.* накрывала. Дачцэ ў прыданэ лэжыць дзве накрывашкі (Грушаўка, Нар.).

НА'КРЫЎКА *ж.* 1. *тое, што* накрывальнік. Пагаптавала накрыўкі на падушкі, да нэважныя вышлі (Грушаўка, Нар.); 2. накрыўка *(драўляная)*. Накрыўка на лаўцы, накрый дзяжу (Старая Рудня, Жлоб.). *Параўн.* накрывачка.

НАКУЛДЫ'КАЦЦА *зак., груб., тое, што* набрымкацца. Накулдыкалісь, хопя з нас (Вітлін, Раг.). *Параўн.* накуміцца, налізацца, налузацца, нахлябацца.

НАКУЛЯ'ЦЦА *зак.* стаміцца. Накулялася тут за дзень (Быч, Карм.).

НАКУ'МІЦЦА *зак., груб., тое, што* набрымкацца. Пашоў к куме. Накуміцца і прыдзя, як сноп (Ліпнякі,

Лоеўск.). *Параўн.* накульдыка́цца, наліза́цца, налуза́цца, нахляба́цца.

НАКУНДЗЮБА'ЧЫЦЦА *зак.* насупіцца. Чаго гэта ты так накундзюба́чылася? (Багуцічы, Ельск.).

НАКУ'ТНІК *м., тое, што* набо́жнік. Яна вышыла прыгожы вельмі наку́тнік (Стаўбун, Ветк.).

НАКУ'ХЛІЦЦА *зак.* нахмурыцца. Наку́хліўся, нічога не гавора (Стаўбун, Ветк.).

НАЛА'ПІЦЬ *зак., тое, што* накрапі́ць. Мех нала́піла (Вышалаў, Петр.+Прудок, Калінк). *Параўн.* нала́таць.

НАЛА'ТАНЫ *прым.* залатаны. У цябе ж відно нала́танэ место на кохці (Будкі, Нар.).

НАЛА'ТАЦЬ *зак., тое, што* накрапіць. Трэба каптан нала́таць (Харомцы, Акц.). *Параўн.* нала́піць.

НАЛАШЧЫ'ЦЬ *зак.* адбяліць. Сёння пражу трэба налашчы́ць, каб бялейшай ды мякчэйшай стала (Аравічы, Хойн.).

НА'ЛЕТКА *ж.* цяля *(аднагадовае).* На́летка з коровую оставілі зімоваць (Аравічы, Хойн.).

НАЛЕ'ЦЦЕ *н.* лета *(наступнае).* Пабачыла гэту сарочку і не магу растрацца з ёю; няхай будзе к нале́ццю (Хальч, Гом.).

НАЛІЗА'ЦЦА *зак., груб., тое, што* набры́мкацца. Што, зноў наліза́ўся, што свету не бачыш? (Кароткавічы, Жлоб.); Там што-та малады так наліза́ўся і пакаціўся (Баравікі, Светл.). *Параўн.* накулды́кацца, наку́міцца, налуза́цца, нахляба́цца.

НА ЛІ'СТ *прысл.* дакладна, праўдзіва. Стаяў дохтар у мене. Прыйдзе і ўсё на ліст раскажа (Палессе, Чач.).

НА'ЛІХА *прысл., груб.* навошта. На́ліха мне такая хеўра? (Сямінаўка, Раг.).

НАЛО'БІЧЫ *толькі мн., буд.* латы. Хутка яны гэту хату адгрохалі. Сённі ўжэ нало́бічы прыбіваюць (Маркавічы, Гом.).

НАЛО'БНІК *м., буд.* франтон. Нало́бнік пакрасіў і добра (Марозавічы, Б.-Каш.).

НАЛУЗА'ЦЦА *зак. груб.* 1. *тое, што* набракава́цца. Іван налуза́ўся і пабёг дзесь на вуліцу (Буйнавічы, Маз.); Я ўжо налуза́ўся галушак (Дубраўка, Добр.); Прышоў з работы, налуза́ўся і лёг отдыхаць (Запясочнае, Маз.); А я з працы добра налуза́лася пахлёбкі (Крупка, Маз.). *Параўн.* налупі́цца, напу́гацца, напузы́рыцца, нарэ́зацца, насёрбацца. 2. *тое, што* набры́мкацца.

Дзе ж ета ты сягоння зноў налузаўся? (Тульгавічы, Хойн.); Дзед мой так налузаўся, што чуць дамоў прыплёўся (Улукаўе, Гом.). *Парайн.* накулдыкацца, накуміцца, налізацца, нахлябацца.

НАЛУПІ'ЦЦА *зак.; зневаж., тое, што* набракавацца. Налупяцца, панапіваюцца і толькі спяць (Аравічы, Хойн.). *Парайн.* налузацца *ў 1 знач.*, напугацца, напузырыцца, нарэзацца, насёрбацца.

НАЛУПІ'ЦЬ *зак.* начысціць. Ты пагуляй, я сама налуплю бульбы (Быч, Карм.); Налупі вялікі чыгунок бульбы к вячэры (Любань, Б.-Каш.); Дзеўкі, налупіце бульбы ды пажарым (Баравікі, Светл.).

НАЛЫ'ГАЧ *м.* повад. І чого вона будэ стоят у хлэве, та корова, возьмі залыгай на налыгача і зоведы пастыс (Грушаўка, Нар.).

НАЛЮБКІ' *прысл.* па густу, на выбар. Мне гэта места налюбкі! (Паганцы, Светл.); Выбірай налюбкі сабе, хочыш етаю, а хочыш вон тэю (Быч., Карм.). *Парайн.* наўлюбкі.

НАЛЯПІ'ЦЦА *зак.* насяліцца *(густа)*. Столькі людзей наляпілася там пасля пажару (Быч, Карм.).

НАМАЗКЛІ'ВЫ *прым.* упарты. Суседка ў мяне намазклівая жанчына (Піркі, Браг.). *Парайн.* намазключы.

НАМАЗКЛЮ'ЧЫ *прым., тое, што* намазклівы. Я малая намазключая була (Каравацічы, Рэч.).

НАМА'К *м.* куль *(саломы)*. Проса жалі, дак бралі намак з саломы (Бабовічы, Гом.).

НА'МАРАЖНЯ (намаразня) *ж., тое, што* набераажня. Зімой я загатаўляю намаражні (Бабовічы, Гом.); Набі намаражні на капылы. Дзед ужо намаразні набівае (Быч, Карм.); Намаразні для таго, штоб капылі дзяржаліся умесца (Хізы, Ветк.). *Парайн.* намерзня, нарвіна.

НАМАТА'ЦЬ *зак., перан.* нахлусіць. Ат, наматаў абычаго (Стаўбун, Ветк.). *Парайн.* наніпраўдзіць.

НАМАТВАННЕ *н., толькі адз.* вышыванне *(гладдзю)*. Наматваннем можна вышыць красівыя накідкі, простыні, настольніцы, рушнікі (Ліпляны, Лельч.).

НАМЕ'ДНІСЬ *прысл.* сёння. Намеднісь я хадзіла ў лес (Капань, Рэч.).

НАМЕЛЬКАВА'ЦЦА *зак.* наканаваць. І як яму намелькуецца на вяку з раджэння, так і будзя (Быч, Карм.).

НА'МЕРЗНЯ *ж., тое, што* набераажня. Галоўкі на-

мерзнямі ж пераплетаюць (Марозавічы, Б.-Каш.). *Парайн.* на́маражня, на́маразня, на́рвіна.

НАМЕРО'ЎКА *ж., толькі адз.* клеймаванне *(лесу)*. Намеро́ўку праводзіць леснік (Халочча, Чач.).

НАМЕ'ТКА I *ж.* памета. Вазьмі да наме́тку зрабі (Сямінаўка, Раг.).

НАМЕ'ТКА II (намётка) *ж.* 1. намітка. Ну і красівая ж у яе была наме́тка! (Асінаўка, Чач.); Раней я насіла наме́тку (Баравікі, Светл.); Дзеўкі наме́так не насілі, як надзе́нуць, дак парубкі смяяліся (Кірава, Браг.); У старыну хустаў ніякіх не было, а былі намёткі (Палессе, Чач.). *Парайн.* но́метка. 2. *абрад.* кусок палатна, тканіны. Дарагія наме́ткі падарыла нявестка (Нісімкавічы, Чач.).

НАМЁ'Т *м., абрад.* ручнік *(даматканы)*. Даўней намётамі сватоў абвязвалі (В. Нямкі, Ветк.).

НАМІНА'ЦЬ *незак.* есці *(апетытна)*. Яшчэ не паспелі сесці за стол, а ён ужэ наміна́е (Хвойнае, Хойн.).

НАМО'ЧКА *ж., толькі адз.* засолка. Намо́чка памідораў зацягне много ўрэмя (Забалацце, Раг.).

НАМЯ'КАЦЬ *зак., тое, што* накаўха́ць. Дай я табе намя́каю, каб ты болей не мачылася (Быч, Карм.+ Ст. Сяло, Гом.). *Парайн.* намя́кшыць, наўздава́ць, наўсклада́ць.

НАМЯ'КШЫЦЬ *зак., тое, што* накаўха́ць. Намя́кшыла, намя́кшыла яго добранька, цяпер ня будзя з другімі біцца (Ст. Сяло, Гом.). *Парайн.* намя́каць, наўздава́ць, наўсклада́ць.

НАМЯЧА'ЦЬ *незак.* прыкмячаць. Тады я стала намяча́ць яго (Быч, Карм.).

НАНАРУ'ГУ *прысл.* назло, наперакор. Яна ўсё дзелае нанару́гу (Пракопаўка, Добр.).

НА'НАЧКІ *прысл.* на вячоркі. Мы часта хадзілі на́начкі к маёй куме (Баравое, Лельч.); Часта, бувала, з кудзеляй да мяне шмат дзявок прыходзілі на́начкі (Буйнавічы, Лельч.); Каліські мы хадзілі на́начкі, ды яшчэ кудзелі пралі (Дубраўка, Добр.). *Парайн.* начле́жкі.

НАНІПРА'ЎДЗІЦЬ *зак., тое, што* намата́ць. То нанipра́ўдзіў бог вед чаго, а тады лашчыцца прышоў (Сямінаўка, Раг.).

НАПАДБУХТО'РЫЦЬ *зак., тое, што* набукро́іць. Нападбухто́рылі тых паліцаяў, дык тые валацугі й давай спаганяць, чаго й не було (Пясчанікі, Жытк.).

НАПАДО'РВАЦЬ *зак., тое, што* наганяць. Барознаў з дваццаць нападо́рвалі (Задуб'е, Раг.).

НАПА'Р *м., толькі адз.* папар. Напа́р мы астаўляем не кожны год, а праз год (Холмеч, Рэч.).

НАПА'СЦІЦЬ *зак.* напасвіць. Малака стала больш, бо кожны хоча напа́сціць жывёлу (Шырокі, Б.-Каш.).

НАПА'СЦЬ *ж., толькі адз.* бяда, гора. У цібе Хвідора нейкая напа́сць (Амельна, Раг.); Бальшая напа́сць на маю галаву (Салтанаўка, Б.-Каш.).

НАПА'ШКІ *прысл.* накінуўшы *(на плечы)*. Фарсун той напа́шкі носіць пінжак (Прудок, Калінк.); Хоць напа́шкі ўскінь што (Стараград, Раг.).

НАПЕ'РНІК *м.* насыпка. Пер'е насыпаюць у напе́рнік (Піркі, Браг.); Напе́рнік шыюць з цвёрдай мацерыі, тады пер'е не тырчыць (Раманавічы, Гом.); Нада хоць трохі зашыць напе́рнік, ужэ ўвесь на дзірках, а ці даўно шыла (Чырвоная Буда, Добр.). *Параўн.* напе́рніч.

НАПЕ'РНІЧ *м., тое, што* напе́рнік. З такой мацерыі плахой пашыла напе́рніч, што толькі пух і пер'я і лезя (Янова, Ветк.); Трэба змяніць напе́рнічы ўжо, а то пер'е лезе з падушак (Рудня Каменева, Лоеўск.).

НАПЕ'РСНЫК *м.* 1. пярсцёнак. І дэ вона толькі бярэ тые напе́рсныкі, на каждом пальці каждый раз новіе (Грушаўка, Нар.); 2. напа́рстак. На, возьмі напе́рсныка, коб голка ў пальці нэ колола (Грушаўка, Нар.).

НАПЛА'Ў *м., толькі адз.* смецце *(ад прыбою, разліву)*. Каля берага бальшы напла́ў (Бабовічы, Гом.).

НАПЛАШЧА'К *прысл.* плоска. Ты еты камень палож луччэй наплашча́к, крапчэй будзя (Быч, Карм.).

НАПО'РАМ *прысл., перан.* націскам. Ён напо́рам хацеў жаніцца (Палессе, Чач.).

НАПО'СВЕТ *прысл.* досвіткам. Сёгодні ноч будэ хмарна, добрэ істы напо́свет, якраз богата рыбы (Грушаўка, Нар.).

НАППЯНУ'ЦЬ *зак.* накінуць *(хустку)*. Наппяні́ новую хустку (Чырвоная Буда, Добр.).

НАПРАМКІ' *прысл.* напраскі, нацянькі. Ішоў напрамкі́, ледзь не заблудзіў. Да прыстані пойдзем напрамкі́ (Бабовічы, Гом.); Калі напрамкі́ ісці, дык кіламетры два будзе (Марозавічы, Б.-Каш.). *Параўн.* напраму́ю, напрасцікі́, наўпрамкі́.

НАПРАМУ'Ю *прысл., тое, што* напрамкі́. Цяпер ца-

хі падзелалі, а раней хадзілі напрамую (Баравікі, Светл.). *Параўн.* напрасцікі, наўпрамкі.

НАПРАНУ́ЦЦА *зак.* апрануцца. Сённі трэба напранўцца цяплей (Неглюбка, Ветк.).

НАПРАНУ́ЦЬ *зак.* апрануць. Напрані кажух, сённі сільны мароз (Рудня Каменева, Лоеўск.+Чырвоная Буда, Добр.). *Параўн.* нацупроніць.

НАПРАСЦІКІ́ *прысл., тое, што* напрамкі. Пайду я дадому напрасцікі (Белы Пераезд, Петр.). *Параўн.* напрамую, наўпрамкі.

НАПРА́ТКА *ж.* вопратка. Накінь напрáтку (Неглюбка, Ветк.).

НАПРО́ЦІ *прысл.* 1. насупраць. Стаў напрóці й стаіць (Гарадзец, Раг.). *Параўн.* наўпраці *ў 1 знач.* 2. насустрач. Ганка пайшла па ягады, а Васілёк пабег ёй напрóці (Пераpoў, Жытк.).

НАПРЫПІРА́ЦЬ *зак., груб.* напрыносіць. Знайця што, бабы, ён ёй напрыпірáў усіго (Вітлін, Раг.).

НАПУ́ГАЦЦА *зак., тое, што* набракавáцца. Так напўгаўся, аж пуза трашчыць (Хальч, Гом.). *Параўн.* налузáцца, напузы́рыцца, нарэ́зацца, насёрбацца.

НАПУ́ДЗІЦЬ *зак.* напалохаць. Мішка наш маладым любіў напўдзіць дзяўчат (Чарняцін, Б.-Каш.).

НАПУЗЫ́РЫЦЦА *зак., тое, што* набракавáцца. Манечка, хадзі вячэраць, я ўжо напузы́рылась (Шэрахаў, Б.-Каш.). *Параўн.* налузáцца, напўгацца, нарэ́зацца, насёрбацца.

НА́ПУСАК *м., тое, што* надбіўка. Унізе ў кашулі дзелаўся нáпусак (Раманавічы, Гом.). *Параўн.* надты́чка, наклáд.

НАПУ́ХШЫ *прым.* набрынялы. Гарбузы напўхшые, але ешчэ не прарастаюць (М. Аўцюкі, Калінк.).

НАПЫ́ЦЦА *ж.* торба *(для корму каню).* Торбу конскую ў нас яшчэ напы́ццай называюць (Баравікі, Светл.).

НА́ПЯТА *прысл.* насцеж. Што ж ты кінула квортку нáпята (Пабеда, Ветк.).

НАРАБРА́К *прысл.* рабром. І ня знаю, што здзелаць, нарабрáк палажыць — тонка будзе (Быч, Карм.).

НАРА́Д *м.* кросны. Наш нарáд ужо вельмі стары, але працаваць за ім зручна (Багуцічы, Ельск.); Жанкі, хадзем да пабяром нарáд (Ліпляны, Лельч.+Грушаўка, Нар.; Піркі, Браг.).

НАРА'НКІ *прысл., тое, што* назóрку. Трэба перастаць наранкі тавар ганіць (Асінаўка, Светл.); Усё лета нашых кароў ганяюць наранкі (Чарняцін, Б.-Каш.+Дзвіжкі, Ельск.; Новая Гута, Гом.).

НА'РАСЛЯ *ж.* нарасць *(на дрэве)*. Сёння хадзіла я ў лес па ягады, дык бачыла вялікую нáраслю на бярозе (М. Аўцюкі, Калінк.). *Параўн.* нáраснь, нáрасцень.

НА'РАСНЬ *ж., тое што* нáрасля. Старое дрэва ўсё пакрыта нáраснямі і мохам (Халочча, Чач.). *Параўн.* нáрасцень.

НА РАСТАНЯ'Х *прысл.* далёка *(вельмі)*. Дзе тыя Свяцілавічы, аж на растанях — ехаць нада на кані цэлы дзень (Палессе, Чач.).

НА'РАСЦЕНЬ *м., тое, што* нáрасля. Калісь нацёрла, дык нáрасцень цепер (Холмеч, Рэч.+Пярэдзелка, Лоеўск.; Халочча, Чач.). *Параўн.* нáраснь.

НАРАСЦЯ'НКА *ж., толькі адз.* бульба *(з расткамі)*. Заўтра выцягнем нарасцянку з падмосця (Ст. Буда, Б.-Каш.).

НАРВА'ЦЦА *зак.* спаткацца, сустрэцца *(нечакана)*. І нарваўся я лесніку. Нарваўся ёй з Кабыліч другей (Быч, Карм.).

НА'РВІНА *ж., тое, што* нáберажня. Дзед зрабіў новую нáрвіну (Углы, Ельск.). *Параўн.* нáмаражня, нáмаразня, нáмерзня.

НАРО'ДАК *м.* баўтун. Кура вывела пыляняты і адзін астаўся нарóдак (Лядцы, Светл.).

НАРО'СКІД *прысл.* уроскідку. Высокій загон, то я зараў нарóскід (Верасніца, Жытк.).

НАРЫВА'НЬШЧЫК *м.* чалавек *(які нарывае гной)*. Весною нарывáньшчыкі харашо зарабляюць (Неглюбка, Ветк.).

НАРЫ'НУЦЦА *зак.* накінуцца. Я і цяпер ніяк не ўцямлю, чаго на мяне жонка Змітракова так нарынулася (Буйнавічы, Маз.+Вертавічы, Нар.+Запясочнае, Зладзін. Маз.).

НАРЫ'ТНІКІ *толькі мн., тое, што* набéдрыкі. Нагружаны з гары ехаў, дык аж нарытнікі лопнулі (Аравічы, Хойн.); Нарытнікамі конь павозку прыдзержвае, штоб не набягала на ногі, калі конь з гары ідзець (Баравікі, Светл.). *Параўн.* нарэтнікі.

НАРЫ'ЎНІК *м.* жук-гнаявік. У навозі капаюцца нарыўнікі (Неглюбка, Ветк.).

НАРЫЎНІ'К *м., толькі адз.* трава *(гаючая).* Я прыклала нарыўнікý, то трошкі палегчало (Падворак, Лельч.).

НАРЫ'ЦІЦЦА *зак.* намерыцца. Бач, як нары́ціўся да бойкі! (Горвань, Рэч.).

НАРЭ'ЗАЦЦА *зак., тое, што* набракавáцца. Табе коб добрэ нарэ́зацца, а больш нічого ты не хочэш робіць (Бобрыкі, Петр.). *Парайн.* налузáцца, напýгацца, напузы́рыцца, насёрбацца.

НАРЭ'ТНІКІ *толькі мн., тое, што* набéдрыкі. Сільна не сціскай нарэ́тнікі (Бабовічы, Гом.). *Парайн.* нары́тнікі.

НАРЭ'ЧАНЬКА *ж., толькі адз.* назва танца. Нарэ́чаньку так красіва танцавалі (Баравікі, Светл.); Нарэ́чаньку ўсё Міхалка на скрыпачцы іграў (Халочча, Чач.).

НАСАВЕ'Ц *м.* хусцінка *(насавая).* Дастань і вазьмі з сабою насавéц (Дзям'янкі, Добр.). *Парайн.* насавíк, насóўчык.

НАСАВІ'К *м., тое, што* насавéц. Як табе ні стыдна такім замазаным насавікóм выціраццa (Палессе, Чач.+ +В. Нямкі, Ветк.; Лукі, Жлоб.; Неглюбка, Ветк.). *Парайн.* насóўчык.

НАСАВІЧО'К *м., памянш. да* насавíк. Вазьмі насавічóк у карман (Бабовічы, Гом.).

НАСА'ТКА *ж.* пасудзіна *(для алею).* Носік у насáткі рабілі наўскасок, каб вылівалася масла (Марозавічы, Б.-Каш.); Некалі білі масла з канапель, дак паўпуда нальюць у насáтку і стаіць доўга. А цяпер купленае ў бутылках і банках стаіць (Багданавічы, Карм.); Яшчэ багато ёсць алею ў насáтцы (В. Нямкі, Ветк.). *Парайн.* насóк *у 4 знач.,*

НАСА'ТЫ *прым.* з вялікім носам. У, які насáты! (Неглюбка, Ветк.); Хлопец насáты ды даўгаліцы (Холмеч, Рэч.+Асінаўка, Залессе, Чач.; Марозавічы, Б.-Каш.).

НАСЕ'НКА *ж., толькі адз.* бульба *(насенная).* Во, кажа, не сагніла, крэпкая насéнка, як камень, а каторая мокрая становіцца (Баравікі, Светл.); На мой план мяшкоў пяць трэба насéнкі (Ст. Буда, Б.-Каш.); Насéнку адкідаймаця аддзельна ў мяшок (Астрагляды, Браг.+ +Капараўка, Рэч.; Ліцвінавічы, Чач.; М. Аўцюкі, Калінк.).

НАСЁ'РБАЦЦА *зак., тое, што* набракавáцца. Насёр-

балася крупніку, аж жывот баліць (Крыўск, Б.-Каш.). *Парайн.* налузáцца, напýгацца, напузы́рыцца, нарэ́зацца.

НАСІ'ЛЫ *толькі мн.* 1. каромысел. Цётка Дар'я ўпусціла насíлы і яны пераламаліся (Белы Пераезд, Пётр.); 2. насілкі. Узялі насíлы і пайшлі копы насіць (Прудок, Калінк.); 3. *тое, што* набíлкі. Насíлы ў мене нейкіе высакаватые (Вялікае Поле, Петр.).

НАСКІПА'ЦЬ *зак.* нашчапаць. Пойдзя ў лес, наскіпáя цэлы пук лучын дай сядзіць вечар (Быч, Карм.).

НАСКРО'БАК *м.* хлеб *(з рэшткаў цеста)*. Бабуля спякла маленькі наскрóбак (Цераховка, Добр.).

НАСЛАСНІ'ЦЬ *зак.* намазаць *(тлуста)*. Ета Тома хлеба насласнíла і ні ела (Грушаўка, Добр.).

НАСМЕ'ШНІК *м.* чалавек *(насмешлівы)*. Які ён насмéшнік, сам сябе хваліць, а з другіх насміхаецца (Холмеч, Рэч.+Неглюбка, Ветк.).

НАСО'К *м.* 1. насок *(абутку або панчохі)*. Усё было б добра, калі б не спусціўся насóк (Багданавічы, Карм.); Насóк не вельмі ёмкі, бо там астаўся вузялок (Вялікае Поле, Петр.); Хаця б я сёння за вечар насóк спляла (Каравацічы, Гом.); Наскí зялёнымі давязала (Марозавічы, Б.-Каш.); 2. шкарпэтка. Насóк наверх надзень, каб цяплей было (Насовічы, Добр.); Йдзе етыя наскí прапалі, толькі што ж разулась (Рудня, Чач.); Плетуць наскí мяккіе, з воўны, добрые (М. Аўцюкі, Калінк.); 3. завостраная частка *(чаго-небудзь)*. Насóк у яйца меньш, чым пуха (Піркі, Браг.); Паглядзі-тка, які войстранькі насóк, такім толькі й гуляць у біткі (Халочча, Чач.); Хібе ты не знаеш, што пярэдняя частка сакеры называецца насóк (Храпавічы, Браг.); Акучнік з трох частак састаіць: стралы, крылля і наскá (Піркі, Браг.); 4. *тое, што* насáтка. Насóк — ета як гаршчок з вузенькім горлышкам і носікам (Рудня Бурыцкая, Лоеўск.).

НАСО'ЎЧЫК *м., тое, што* насавéц. Раней дзеўкі насóўчыкі абвязвалі мулінэ (Дзям'янкі, Добр.). *Парайн.* насавíк.

НАСПІ'ННЕ *н., толькі адз.* сала *(са спіны)*. Наспíнне аж у пяць пальцаў (Неглюбка, Ветк.).

НАССЕ'КАЦЬ *зак.* нассякаць. Мы з хлапцамі суседкі нассéкалі сухіх бярозак на чатыры печкі (Зацішша, Б.-Каш.).

НАСТАЛІ'ЦЬ *зак.* набіць *(гуз)*. Упаў з даху і добра насталíў лоб (Ліпа, Б.-Каш.).

НА'СТАЎКА *ж.* прылада *(рыбалоўная).* Ужэ цяпер мало дзе ловяць настаўкамі, а то колісь без настаўкі нікуды, бо лавілі ўсё ў канаві, дзе менш вады (Замошша, Лельч).

НАСТА'ЎКА *ж.* рамка *(для вашчыны).* Есць часць ніжняя, а ета, втарая, настаўка для нясенія мёда (Хізы, Ветк.); Нада ўжо выцянуць настаўкі (Пабеда, Ветк.). *Парайн.* науза.

НАСТО'ЛЬЕ *н.* гара *(жылога памяшкання).* У нас была красівая кошка, але зусім старая, дык на настольі зімой замэрзла (Грушаўка, Нар.). *Парайн.* нахацце.

НАСТРО'МАК *м.* воз *(сена).* У мяне на балоці астаўся настромак сена (Пучын, Браг.); Настромкаў тры падкінулі вам (Турок, Петр.).

НАСТРА'МАЧАК *м., памянш. да* настрамак. А ў мяне ўсяго настрамачак (Баравікі, Светл.).

НА'СТРУГ *м.* рубанак. Схадзі-ка к Косціку, папрасі наструга (Руднае, Хойн.).

НАСТУ'ЛЬКА *ж., бат.* настурка. Нада ў палісадніку настулькі пасеяць (Улукаўе, Гом.).

НАСТЫРА'ЦЦА *незак.* спрачацца. Саша настыраецца ды хоча, каб нехта маўчаў (Белы Пераезд, Петр.).

НАСТЫРНІ'ЦЦА *зак.* паспрачацца. Настырніўся з людзьмі, вось і не слухаюцца яго (Пухічын, Акц.).

НАСТЫ'РНЫ *прым.* настойлівы. Ну, які ж ты настырны чалавек, гавару німа гарэлкі, а ты ні верыш (Іскра, Чач.); Такі ўжо настырны, суе нос не ў свае дзела (Халочча, Чач.); Вельмі настырны быў чалавек, што не задумае, то зробіць (Холмеч, Рэч.).

НАСУ'НУЦЬ *зак.* напасці, з'явіцца *(нечакана).* Як насунула ў вёску немцаў, аж зямля гудзела (Быч, Карм.).

НАСУ'СЕ *прысл.* сухама. Піліп у дровы паехаў насусе (Запясочча, Жытк.).

НАСЦАКО'М *прысл.* выспяткам. Ён яго яшчэ і насцаком... (Тульгавічы, Хойн.). *Парайн.* носцам.

НА'СЦЕЛЬ *ж.* насціл. Трэба насцель у санях памяняць (Забалацце, Раг.). *Парайн.* насціл.

НАСЦЁЛКА *ж.* настольнік. Ну й насцёлкі красівые ляжаць у лаўцы. Аж гараць (Навасёлкі, Хойн.).

НА'СЦІЛ *м., тое, што* насцель. Нешта страшна па етаму насцілу ехаць. Як бы ён не абваліўся (Норкаўшчына, Карм.).

НАСЯКА'НКА *ж.* хустка *(бавоўняная).* Мне вельмі да ліца мая новая насяка́нка (К. Балсуны, Ветк.).

НАСЯКА'Ч *м.* жарнасек. Насяка́ч навострыць жорны, і работа далей працягуваецца (Стаўбун, Ветк.).

НА'Т *часц.* нават. На́т не ведаю, дзе нажа дзела (Бярэзнікі, Жытк.).

НАТА'СКВАННЕ *н., толькі адз., паляўн.* дрэсіроўка. Ната́скванне трэба для кожнага паляўнічага сабакі (Марозавічы, Б.-Каш.); Ната́скванне ён прайшоў, ціпер з яго будзя добры гончы (Стаўбун, Ветк.+М. Аўцюкі, Калінк.; Баравікі, Светл.).

НАТАХМА'ЧЫЦЬ *зак.* нашкодзіць. Адна б хахліха што-небудзь натахма́чыла (Быч, Карм.).

НАТРЭНАВА'ЦЬ *зак., паляўн.* надрэсіраваць. Натрэнава́ць харашо нада сабаку, штоб звера лавіць умеў (Халочча, Чач.).

НАТУ'КАЦЬ *зак.* насварыцца. Нату́кай на яго, каб трохі баяўся (Рабкор, Акц.).

НАТЫ'РЫЦЬ *зак.,* накрасці. У калхозе наты́рыў, а ціпер шчэ хочыш, каб маўчалі пра саломку, а? (Амельна, Раг.).

НА'УЗА *ж., тое, што* наста́ўка. На́узу прылеплівалі калісь смалой (Карма, Добр.).

НАЎБІ'ТКІ *прысл.* гульня на моцнае велікоднае яйка. Згуляем наўбіткі (Зенькавіна, Карм.).

НАЎЗДАВА'ЦЬ *зак., тое, што* накаўха́ць. Што б здагнаў, то ні дараваў бы, ото наўздава́ў бы (Прудок, Калінк.); Наўздава́ў бы яму (Сямінаўка, Раг.). *Парайн.* намя́каць, намя́кшыць, наўсклада́ць.

НАЎКО'ЛЕНКАХ *прысл.* на каленях. Усю ноч наўко́ленках прастаяла (Апанасаўка, Гом.).

НА'ЎЛАЧКА *ж., тое, што* на́валка. На́ўлачкі здзень на падушкі (Грабава, Гом.).

НАЎЛЮ'БКІ *прысл., тое, што* налюбкі́. Вы давайце карціны наўлю́бкі (Дуброва, Рэч.).

НАЎПРАМКІ' *прысл., тое, што* напрамкі́. Да капераццы наўпрамкі́ трэба йці (Холмеч, Рэч.).

НАЎПРАЦІ' *прысл.* 1. *тое, што* напро́ці. Мы жывём наўпраці́ праўлення калхознага (Палессе, Чач); 2. наадварот. Ён усегда дзелая наўпраці (Палессе, Чач.).

НАЎПРЫ'СКАЧКІ *прысл.* надскокваючы. Во толькі бачыла, як наўпры́скачкі бег, а шчас прытварыўся (Быч, Карм.).

НАЎРО'ДЗІ *прыназ.* накшталт, як бы. Дак ось яксека (яна мая наўро́дзі родзічка) прыбягае і гаворыць: «Твайго хазяіна хочуць забраць» (Прыстанская, Браг.).

НА'ЎСКІ *прым.* чацвер *(велікоднага тыдня).* Будзе на́ўскі вялікдзень, к маме на магілку схажу (Дуброва, Петр.); На на́ўскі вялікдзень ходзюць на могліцы (Баравое, Лельч.).

НАЎСКІ'ДКУ *прысл.* з ходу. Наўскі́дку страляе толькі добры паляўнічы (Марозавічы, Б.-Каш.+Баравікі, Светл.; Піркі, Браг.).

НАЎСКЛАДА'ЦЬ *зак., тое, што* накаўха́ць. Добра злодзея наўсклада́лі (Вышалаў, Петр.). *Парайн.* намя́каць, намя́кшыць, наўздава́ць.

НАХА'БА *аг.* клопат. Ну і наха́ба на маю галаву еты парасёнак (Шылавічы, Б.-Каш.); Вось ужо наха́ба на маю галовачку (Хальч, Гом.).

НАХАПА'СЦЬ *прысл.* спехам. Свадзьбу нахапа́сць гулялі (Быч, Карм.).

НАХА'ЦЦЕ *н., толькі адз., тое, што* насто́лье. Злазь на наха́цце ды знімі адтуль яблык (Янова, Ветк.).

НАХЛЕ'СНІК *м.* зрушэнне, скрананне. Калі будзе не шчыльна прылягаць дошка, тады дасі нахле́снік, бо багата цесаць (Бывалькі, Рэч.).

НАХЛЯБА'ЦЦА *зак., тое, што* набры́мкацца. Нахля́баўся і гарлапаніць нейкую песню, ходзячы поначы (Хвойнае, Хойн.). *Парайн.* назбіра́цца *ў 1 знач.,* накулды́кацца, накумі́цца, налізáцца, налуза́цца.

НАХО'ДНЫ *прым., перан.* нагуляны. Жаніўся б на ёй, ды дзіця ў яе нахо́днае (Неглюбка, Ветк.).

НА'ХРАПАМ *прысл.* напралом. Чаго ты лезеш праз галаву на́храпам (Насовічы, Добр.).

НАХРАПУ'ДЗІЦЦА *зак.* насцеражыцца. Конь пачуў ваўка і нахрапу́дзіўся (Шылавічы, Б.-Каш.).

НАХУРКАВА'ЦЬ *зак.* пратаргавацца. Жонка на тысячу нахуркава́ла (Улукаўе, Гом.).

НАЦЁР *м., толькі адз.* наезд *(санны).* Бывае, снег растане, а нацёр усё ляжыць (Аравічы, Хойн.).

НА'ЦІКАМ *прысл.* назіркам. Ідзі за ім на́цікам, каб далёка на сыйшоў (Холмеч, Рэч.).

НАЦІ'НА *ж., толькі адз.* бацвінне. Наці́на вунь якая, а картошкі няма (Гармавічы, Жлоб.); Ці будуць гуркі, а нацíна вельмі добрая (Капараўка, Рэч.); У мяне на градзе чагосьці вельмі пасохла нацíна (Хвойнае, Хойн.);

Глядзі там ні пацяры націну (Барталамееўка, Ветк.); Націну вугнало на рост чалавека, а картошкі — арахі! (Задуб'е, Рэч.+Аравічы, Хойн.; Забалацце, Раг.; Залессе, Чач.; Казялужжа, Хойн.; Майскае, Жлоб.; Марозавічы, Б.-Каш.; Піркі, Браг.; Сямёнаўка, Рэч; Холмеч, Рэч.).

НАЦУПРО'НІЦЬ *зак., тое, што* напрануць. Ты сёдні нацупроніў на сібе дзесяць світак (Барталамееўка, Ветк.).

НАЦЫ'РКАЦЬ *зак.* надаіць. Трэба нацыркаць малака (Нова-Мазолаў, Жлоб.).

НАЦЭ'ЎНІК *м.* манжэта. Нацэўнік зрабіла з шарсцяных нітак (Нісімкавічы, Чач.).

НАЦЯ'ГАВІЧ (нацягвіч) *м.* клін *(у кальцы навоя)*. Нацягавіч вельмі добра выструганы (В. Стралкі, Раг.); Нацягвічам прыцісквалі палатно (Кароткавічы, Жлоб.). *Парайн.* нацягіч, нацяжыч.

НАЦЯ'ГІЧ *м.* 1. *тое, што* нацягавіч (нацягвіч). Даўно я ўжэ не бачыла нацягіча, мабыць, згубіўся (Каравацічы, Рэч.); Нацягічам нацягвалі, каб бёрда аб навой не білася (Дзям'янкі, Добр.); 2. збруя *(запрэгчы другога каня да воза)*. Нада ж нацягіч крапчэйшы прывязаць (Тульгавічы, Хойн.). *Парайн.* нацяжыч.

НАЦЯ'ЖКА *ж.* накідка *(паверх вопраткі)*. Я сёдні ў нацяжцы (Нісімкавічы, Чач.).

НАЦЯ'ЖЫЧ *м., тое, што* нацягавіч (нацягвіч). Нацяжыч — важная частка кросен (Піркі, Браг.). *Парайн.* нацягіч *у 1 знач.*

НА'ЧА *злуч.* 1. нібы. А пагана непраматнаму буць, нача слепу (Прыстанскае, Карм.); 2. хіба. Ты нача не чытала гэту кніжку (Сяўкі, Лоеўск.).

НА'ЧАЙ *прысл.* інакш. Там яксьці начай гавораць, Алена, ты прыпомні (Глыбаў, Рэч.).

НАЧЛЕ'ЖКІ *толькі мн., тое, што* нáначкі. Раней дзеўкі і хлопцы хадзілі на начлежкі ў адну хату. Помніш, як мы хадзілі на начлежкі? (Стаўбун, Ветк.).

НАЧЛЕ'ЖНІК *м.* пастух *(начны)*. Во, ужэ начлежнік павёў каней на начлег (Піркі, Браг.); Васіль быў у нас начлежнікам заўсёды (Марозавічы, Б.-Каш.+Завайць, Нар.; Хізы, Ветк.).

НА'ЧНІ *толькі мн.* начоўкі. Начні вазьмі ў сенцах, іны нада мне (Н. Востраў, Раг.).

НАЧНІ'ЦА *ж., заал.* казадой. Зноў чуваць крыкі начніцы (Ямпаль, Рэч.).

НАЧО'ВАЧКІ *толькі мн., памянш. да* начо́ўкі. Падай начо́вачкі, трэба прапалаць зярно (Дземяхі, Рэч.); Хадзем, я вам начо́вачкі пакажу (Піркі Браг.+Гармавічы, Жлоб.; Марозавічы, Б.-Каш.).

НАЧО'ЧЧЫК *м.* учотчык. Прыслалі новага начоччыка, дык і грошы кажон месяц даюць воврэмя (Башыца, Б.-Каш.).

НАЧЫ'НІК *м.* варэнік. Будзем начы́нікі з ягад пякці (Запясочнае, Лельч.).

НАЧЫ'НКА *ж.* пірог. Учора ў Еўхіміхі буў вечар хлопца. Там мне панаравілась начы́нка з грыбамі. От ена ўмее готовіць добрэ (Заходы, Лельч.).

НАШАРМА'К *прысл.* абы-як. Ты ўсё дзелаеш нашарма́к, абы аччапіцца (Зялёныя Лукі, Гом.).

НАШЛО'ПКА *ж.* крышка *(драўляная)*. Накрый гладышку нашло́пкаю (Углы, Нар.).

НАШУКА'ЦЬ *зак.* навыкопваць *(бульбы, не вырываючы націння)*. Нашука́ла картопляў, не вырывала каранёў (Верасніца, Жытк.).

НАШЫВА'НЫ *прым.* вышываны. А ета ў нас рушнікі нашыва́ныя (Баравікі, Светл.).

НАШЫВА'ЦЬ *незак.* вышываць. Во нашыва́ю скацірку і самой не нравіцца (Асінаўка, Чач.); Мая мамка крастом вельмі красіво набожнікі нашыва́ла (М. Аўцюкі, Калінк.+Багуцічы, Ельск.; Баравікі, Светл.; Быч, Карм.; Дзяржынск, Лельч.).

НАШЫ'ЙНІК *м.* 1. шалік. Нада хлопцу нашы́йнік звізаць, а то ўжо халады на дварэ (Рудня, Чач.); 2. ашыйнік. Нашы́йнік быў добры, з медалямі (Багданавічы, Карм.).

НЕ'БА *н., толькі адз.* 1. небасхіл. Зноў жарка будзе, вунь якое не́ба яснае (Багданавічы, Карм.); 2. паднябенне. Хваціла гарачага чаю і ўсё не́ба абпікла (Малынічы, Чач.); Ела рыбу і костка застрала ў не́бе (Марозавічы, Б.-Каш.); 3. скляпенне *(у печы)*. Не́ба высыпалась усе, трэба печніка пазваць, каб хаця трохі падладзіў (Іванаўка, Хойн); Вот ужэ трэба і печ бурадь, а то не́ба выпадае (Навінкі, Калінк.); Не́ба спракувеку выкладалі з крэпкага кірпіча (Р. Бурыцкая, Лоеўск.); Не́ба так натрэлась, што чарон будзе гарачы (Холмеч, Рэч.).

НЕБАРА'КА *аг., толькі адз.* бядак. Еты небара́ка і хворы, і дома абіжаюць (Пясчанікі, Жытк.).

НЕВЕ'ДАЛО *аг.* мужчына *(няўмелы)*. Куды пайшоў, неве́дало? (Антонаў, Ельск.). *Парайн.* недалу́га, недарэ́ка, недацёпа, не́ўра, няўме́ка.

НЕВЕСЯ'К *прысл.* няёмка. А нам будзе невося́к, што ў нас паўдня праседзелі і не паабедалі (Быч, Карм.).

НЕ'ГАДЗЬ *ж., толькі адз.* непагадзь. Нада бульбу дакапваць, а то як пачнецца не́гадзь (Лукі, Жлоб.); Гэтым летам укінулася не́гадзь (Шырокі, Б.-Каш.). *Парайн.* непаго́дзь.

НЕГАДЗЯ'ШЧЫ *прым.* Такі буў ён касалапы, негадзя́шчы (Аравічы, Хойн.). *Парайн.* недалу́жны, нікудышны, нічо́гі *ў 3 знач.*

НЕГАДО'ЎНЫ *прым.* мізэрны. Вельмі хлопчык негадо́ўны (Вышалаў, Петр.).

НЕГО'ДНЫ *прым.* 1. неўрадлівы. Такое него́днае поле (Бывалькі, Рэч.); 2. непаслухмяны. А твой малы дык зусім него́дны (Холмеч, Рэч.).

НЕГО'ЖЫ *прым.* хворы. Як него́жы чалавек, то нічого не міло (Бярэзнікі, Жытк.);— Наша маці ў бальніцы.— А што з ею такее? — Него́жая (Пясчанікі, Хлупін, Жытк.).

НЕДАБІ'РКІ *толькі мн.* рэштк. Яны паехалі па сена, а там адні недабіркі (Запясочча, Жытк.); Асталосе недабі́ркаў коп са дзве ці са тры (Зарэчча, Жлоб.). *Парайн.* недабо́ркі.

НЕДАБО'Й *м.* брак, дэфект *(у палатне, калі ўток слаба прыбіты бердам)*. Адзін недабо́й, а спорціў усё дзела (Вялікае Поле, Петр.); Ох, і недабо́ю ў цебе ў палатне! (Холмеч, Рэч.); Плахое палатно з недабо́ямі (Бабовічы, Гом.). *Парайн.* недасе́к, недасе́ка.

НЕДАБО'РКІ *толькі мн., тое, што* недабі́ркі. Падбяры недабо́ркі бульбы (Дубраўка, Добр.).

НЕДАБУ'РНЫ *прым.* баязлівы. Марына ваша така недабу́рна, баіцца ў лес адна хадзіць (Піркі, Браг.).

НЕДАЕ'ДУК *аг.* непераборлівы *(у ядзе)*. У нас Васіль недае́дук, есць усё, што даюць (Бабовічы, Гом.).

НЕДАЖЫ'НАК *м.* недажын. У мяня шчэ недажы́нак астаўся (Неглюбка, Ветк.).

НЕДАЛУ'ГА *аг., груб., тое, што* неве́дало. От гэта недалу́га, што ні зробіць, дык трэба перарабіць (Хальч, Гом.). *Парайн.* недарэ́ка, недацёпа, не́ўра, няўме́ка.

НЕДАЛУ'ЖНЫ *прым., груб., тое, што* негадзяшчы. А ета скрозь як не ўдасца, так і памрэ недалужным. (Багданавічы, Карм.). *Парайн.* нікудышны, нічогі *ў 3 знач.*

НЕДАПІ'ТКІ *толькі мн.* рэшткі. Усе недапіткі злілі яму (Задуб'е, Раг.).

НЕДАРЭ'КА *аг., груб., тое, што* невёдало. Вялікая вырасла, а такая недарэка (Паганцы, Светл.). *Парайн.* недалуга, недацёпа, нёўра, няўмека.

НЕ'ДАСАЛЬ *ж., толькі адз.* страва *(недасоленая)*. Не боршч, а недасаль нейкая (Быч, Карм.). *Парайн.* недасолка.

НЕДАСЕ'К *м., тое, што* недабой. Слабыя ў мяне рукі, таму і недасек палучаецца (Піркі, Браг.); Як добра не прыб'еш, то палучыцца недасек (Кароткавічы, Жлоб.); Палатно, недабітае бердам, у нас недасек называюць (Марозавічы, Б.-Каш.). *Парайн.* недасека.

НЕДАСЕ'КА *ж., тое, што* недабой. Я так скасіла кросны, што нарабіла недасек (Кірава, Жлоб.+Будкі, Нар.; Старажоўцы, Жытк.; Халочча, Чач.). *Парайн.* недасек.

НЕДАСО'ЛКА *ж., тое, што* недасаль. Недасолка на стале, парасолка ў галаве (Дзям'янкі, Добр.).

НЕДАСТО'Й *аг.* чалавек *(назойлівы)*. Ну і недастой. Вот дапячэ ды дапячэ, без нажа зарэжа (Аравічы, Хойн.).

НЕДАСТО'ЙНЫ *прым.* непаседлівы. Як вецер носішся. Сядзь паседзі, недастойны (Аравічы, Хойн.).

НЕДАТО'ПАК *м.* абутак *(зношаны)*. Недатопкі якіясь надзела ды ходзіць (Нісімкавічы, Чач.).

НЕДАХО'Д *м.* брак, дэфект *(пры снаванні кроснаў)*. На гэты раз пры снаванні нямашака недахода (Івакі, Добр.).

НЕДАЦЁПА *аг., тое, што* невёдало. Большага недацёпы свет не бачыў (Церахоўка, Добр.). *Парайн.* недалуга, недарэка, нявёдало, нёўра, няўмека.

НЕДЫХО'Д *м., тое, што* недаход. Недыход — гэта памылка, якую можа зрабіць ткачыха (Піркі, Браг.).

НЕ'ЕДЗЬ *ж., толькі адз.* голад. У вайну людзі тут мерлі ад нёедзі, як мухі (Салаўёў, Б.-Каш.).

НЕ'ЖЫК *м.* апёк. Калі запарыш дзіця, адражаецца такі нёжык, красны, вельмі балючы, дзіця плача (Дуброва, Петр.).

НЕЗАДА'ШНА *прысл.* няўдала. Незада́шна з'ездзілі на кірмаш, нічагусінькі ні купілі (Гадзілавічы, Раг.).

НЕЗАЎГА'Д *прысл.* незнарок. Цётка Тэкля незаўга́д рассыпала рэшата жыта (Б. Сафіеўка, Маз.).

НЕЗДАЛЕ'ТНЫ *прым.* слабы, кволы. Вельмі нездале́тны стаў (Вышалаў, Петр.).

НЕЗЛА'ГАДА *ж., толькі адз.* нязгода. Менша там за Хойнікамі жыве. Ой, то плохо, у незла́гадзе (Аравічы, Хойн.).

НЕ'ЙДЗЕ *прысл.* дзесьці. Не́йдзе лес гарыць (Задуб'е, Раг.).

НЕКАСА'ТЫ *прым.* падстрыжаны. Зараз дэўкі ўсі некаса́тыя (Грушаўка, Нар.).

НЕ'КАСЬ *ж., толькі адз.* трава *(някошаная).* Кароў гналі туды, дзе не́кась старая асталася (Палессе, Чач.).

НЕКАЧА'НЫ *прым.* неадпрасаваны. Некача́нае бяллё развешую на дварэ (Хізы, Ветк.).

НЕ'КРУТ *м., гіст.* дапрызыўнік. Ён ужо не́крут (Дубраўка, Добр.).

НЕКУДА'ШНЫ *прым.* няспелы *(пра садавіну).* Яблыкі некуда́шные (Бабовічы, Гом.).

НЕКУЦА'ВЫ *прым.* нестандартны. Ды лес наш быў нейкі некуца́вэй, крывэй, тонкей (Быч, Карм.).

НЕ'ЛЕНЬ (не́лінь) *м.* дуб *(з неасыпаным лісцем).* Усю зіму стаіць не́лень з пажоўклым лісцем (Пярэдзелка, Лоеўск.); Дуб е не́лінь, лісце на ём не асыпаецца (Аравічы, Хойн.).

НЕ'ЛУПКА *ж., толькі адз., тое, што* надзява́нікі. На вечэру наварылі не́лупкі, елі з салам. Паедзем нанач ды не́лупку варым (Заспа, Рэч.).

НЕЛЬГА' *прысл.* нельга. Загараць сегодня нельга́ (Піркі, Браг.).

НЕ'ЛЮДЗЬ *аг.* 1. чалавек *(нелюдзімы).* Жыве не́людзем, нікуды не ходзіць (Палессе, Чач.). *Параўн.* нялю́днік. 2. чалавек *(бязлітасны, жорсткі).* Не́людзь ён, а не чалавек, руку падняў на дзіця (Нароўля).

НЕ'МАЧ *ж., толькі адз.* бездапаможнасць. Ня то помач, ня то не́мач. Ня разбярэш. Напала такая не́мач (Быч, Карм.).

НЕМА'ШЫКА (нема́шэка) *прысл.* няма. Прыслалі бумажку, што нема́шыка іх (Баравікі, Светл.); Што гэто пісьма доўго нема́шыка (Курычыцы, Петр.). *Параўн.* няма́шака.

НЕ́МЕЦ *м.* нямы. Мы як хто гаварыць не можа, дак не́мец завём (Баравікі, Светл.); Вось бедны, з самага дзяцінства не́мец (Піркі, Браг.); Маўчыць, як не́мец. Ніякага разгавору (Аравічы, Хойн.). *Параўн.* не́мы.

НЕМЧУ́Р *м.* чалавек (*маўклівы*). Не поймеш, што думае еты немчу́р (Холмеч, Рэч.).

НЕ́МЫ *прым., тое, што* не́мец. Сам не́мы і жаніўся на не́май (Бабовічы, Гом.); Ты к яму звяртаешся, а ён цябе не разумее, бо ён не́мы (Буйнавічы, Лельч.).

НЕНА́ВІДНЫ *прым.* ненавісны. Такіх нена́відных, скажы ты, і дохля ні пабрала (Пясчанікі, Жытк.).

НЕНАЕ́ДНІК *м., груб.* чалавек (*ненаедны*). Зноў гэты ненае́днік прыйшоў (Н. Гута, Гом.).

НЕНАЖЭ́РНЫ *прым.* ненасытны. Кыш з гароду ненажэ́рныя, і кудой яны пералётуюць (Старое Сяло, Гом.).

НЕПАВА́ДНА *прысл.* нядобра. Мне так непава́дна тут з вамі (Крыўск, Раг.).

НЕПАГО́ДЗЬ *ж., толькі адз., тое, што* не́гадзь. Доўга стаіць непаго́дзь (Піркі, Браг.).

НЕПАСЕ́ДА *аг.* чалавек (*непаседлівы*). Малы ў Нінкі непасе́да, так і верціцца, як уюн (Іскра, Чач); Замучыў мяне гэта непасе́да (Марозавічы, Б.-Каш.).

НЕПАСПЕ́ШНЫ *прым.* няспешны. Ой, Грышачка, непаспе́шны ты, як мядзведзь за вераб'ём (Холмеч, Рэч.).

НЕПАСЯДЗЯ́ШЧЫ *дзеепрым.* непаседлівы. А гэта ў мяне самы меньшы. Ой, і непасядзя́шчы ён у нас такі (Кароткавічы, Жлоб.).

НЕПЕРАБО́РЛІВЫ *прым.* непатрабавальны. Неперабо́рлівы, дак апецітны чэлавек, усе есць (Холмеч, Рэч.); Ён неперабо́рлівы, што папала, тое й есць (Неглюбка, Ветк.).

НЕПЕ́ЎНЫ *прым.* хворы. Ой, у мене невестка зусім непе́ўна (Макарычы, Петр.). *Параўн.* ніпе́ўны.

НЕ́ПРАС *м.* нягоднік. Скажыце таму не́прасу, каб ён мне на вочы не пападаўся (Багуцічы, Ельск.).

НЕПРЫГАЖКАВА́ТЫ *прым.* непрыгожы. Дзеўкі нашы прывозяць парнеў з горада. Той красівы, той непрыгажкава́ты. Але нічога, жывуць сабе (Хізы, Ветк.).

НЕПРЫКА́ЯНЫ *прым.* бестурботны, разгублены, узрушаны. Ходзя ён увесь дзень як непрыка́яны (Палессе, Чач.).

НЕПЯРЭ́ЛІЎКІ *толькі мн.* наперакор. Бачыць, што непярэ́ліўкі, ды ходу адтуль (Пясчанікі, Жытк.).

НЕ'РАБАЦЕНЬ *аг.* гультай. Ета ж такі нерабацень, ні дома, ні ў калхозі не робіць — адно спіць (Лучыцы, Маз.).

НЕ'РАЗНЬ *м.* качка *(дзікая).* Нéразнь — лапы брудныя з ранжовым. Нéразнь інагда трапляецца (Карынёўка, Гом.). *Параўн.* нéразня.

НЕ'РАЗНЯ *ж., тое, што* нéразнь. Нéразня інагда трапляецца (Карынёўка, Гом.).

НЕРАТО'К *м.* рэзгіны. Штоб сена ні раструшавалася, то яго клалі ў нератóк (Стаўбун, Ветк.).

НЕ'РВЕНЫ *прым.* нервовы. Такі ён ужо нéрвены, што нельга слова сказаць (Піркі, Браг.); Ён як з вайны прыйшоў, дык і увесь час такі нéрвены (Буйнавічы, Лельч.); Кажды дзень у хаце лайка, за то і дзевачка расце нéрвеная (Бабовічы, Гом.+Баравікі, Светл.; Дуброва, Петр.; Забалацце, Раг.; Клясаў, Петр.; Цярэшкавічы, Гом.).

НЕСАМАВІ'ТЫ *прым.* несамастойны. Вось жэ несамавíты, трэба так напіцца (Макарычы, Петр.).

НЕ'СЛУШ *аг.* свавольнік. Во гора. Нéслуш у мяне расце (Неглюбка, Ветк.); От нéслуш ты! Усё бегаеш (Холмеч, Рэч.).

НЕСЛЫ'ХАНЫ *прым.* нечуваны. А ён неслы́ханы, з'явіўся (Салтанаўка, Б.-Каш.).

НЕ'СТЫЧ *аг.* чалавек *(непаседлівы).* І чаго ты такая нéстыч? (Баравікі, Светл.).

НЕСУЗА'РНЫ *прым.* непрыгожы. Хто цебе радзіў, такую несузáрную. (Махнавічы, Маз.).

НЕЎВАРО'ТЛІВЫ *прым.* непаваротлівы. Ён такі ўжо неўварóтлівы, ажно страх (Марозавічы, Б.-Каш.).

НЕ'ЎРА *аг., тое, што* невéдало. Эх ты, нéўра. Датолку нічога не зробіш (Углы, Ельск.). *Параўн.* недалýга, недарэ́ка, недацёпа, няўмéка.

НЕЎРО'ДЛІВЫ *прым.* неўрадлівы. Бывае неўрóдліва поле тады, калі не родзіць нічога (Аравічы, Хойн.).

НЕХАЦЯ' *прысл.* нехаця. Яна ж нехацá, нечаяна цябе вдарыла (Піркі, Браг.).

НЕ'ХРЫСЦЕНЬ *аг.* дзіця *(нехрышчонае).* Нéхрысцень ты, паслухай хоць, што матка табе кажа (Пярэдзелка, Лоеўск.). *Параўн.* нéхрысць.

НЕ'ХРЫСЦЬ *аг., тое, што* нéхрысцень. Вось нéхрысці, увесь сад абабралі (Вуглы, Ельск.).

НЕХУПА'ВЫ *прым.* нясмелы, сарамяжлівы. Такі

нехупа́вы хлапец, нат абняць яе не здагадаўся (Дзербін, Акц.).

НЕ'ЦЕГ *м., заал.* кулік. Аднойчы ішла я па лесу, ды на пеньку ўбачыла мёртвага не́цега. Пэўна, гэта маленечкі не́цег зваліўся з дзерава. А не́цегі яечкі нясуць, невялікія, рабыя. А жывуць на балоце (Піркі, Браг.).

НЕЦІКА'ВЫ *прым.* 1. не вельмі добры. Нецікáвую карову купіла, але хай зіму перабудзе (Узнаж, Светл.); 2. непрацаздольны. Хто ж старога любіць, калі ён ужэ нецікáвы (Аравічы, Хойн.).

НЕЦЯРПЯ'ЧКА *ж.* нецярплівасць. От нецярпя́чка цябе бярэ, дачакаешся і ты сваёй чаргі (Улукаўе, Гом.).

НЕ'ЧЫСЦЬ *ж.* погань. Усю не́чысць пазбіралі (Гары-Вада, Рэч.).

НІВЯ'НКА *ж.* кветка *(лясная, лугавая)*. Нівя́нка мае кветкі, як у рамонкі, толькі крыху большыя, расце на лугах і ў лясах (Саўгаснае, Б.-Каш.).

НІГА'ДКІ *прысл.* добра. Во купіла цяпер, зімой будзе нігáдкі (Мормаль, Жлоб.).

НІГО'ДНЕНЬКІ *прым.* 1. *памянш. да* ніводзін. Нігóдненькае німа (Сямінаўка, Раг.); 2. *памянш. да* нягодны. С такога нігóдненькага парасяці нічога не будзе (Гарадзец, Раг.).

НІЖАПЕ'РНІЦА *ж., бат.* агатка. Ніжапе́рніца е ў нас, да я ее ніколі не рвала (Ручаёўка, Лоеўск.).

НІ'З *м.* 1. падол. Увесь ні́з адрубіўся (Чырвоная Буда, Добр.); Трэба ні́з падшыць (Рафалаў, Браг.); 2. падшапка *(грыба)*. У сыраежкі ні́з красны і верх красны. У лісічкі ні́з складкамі, начэ графіроўка (Ручаёўка, Лоеўск.).

НІЗА'ШТА *прысл.* нізашто. Нізáшта не хачу за яго ісці замуж (Забалацце, Раг.).

НІЗІ'НА *ж.* лагчына. У мяне на нізі́ні вумаклі ўсе картоплі (Пучын, Браг.); Спарылася ўсё ў нізі́ні, заліло дажджом (Хізы, Ветк.).

НІКАГЕ'НЬКА *займ.* нікога. Каля майго двара няма нікаге́нька (В. Нямкі, Ветк.).

НІКАЛІ' *прысл.* ніколі. Нікалі́ так не было трудна (Неглюбка, Ветк.+Бабовічы, Гом.).

НІ'КАЦЬ *незак.* 1. выглядваць. Прыдзеш і ні́каеш пад акно́м, баісся ў хату ісці (Капань, Рэч.); Ні ні́кай там із-за дзвярэй, а ідзі ў хату (Леніна, Хойн.); 2. хадзіць

(*сюды-туды*). Як дзень, так і пачалі сабакі нікаць, няма адбою ад іх (Хальч, Гом.).

НІ'КПАЧЫН *прысл., тое, што* нагдавісь. Яна нікпачын ад мяне пайшла (Перароў, Жытк.). *Параўн.* нагдóвісь, нагдóвясь, нáгдысь, надóечы, надóячы.

НІКУДЫ'ШНЫ *прым., тое, што* негадзяшчы. А Міша зусім нікуды́шны хлопец (Макарычы, Петр.). *Параўн.* недалу́жны, нічóгі *ў 3 знач.*

НІМАМА'ТА *прысл.* громка (*вельмі*). Ад болі ён німамáта крычаў (Зялёныя Лукі, Гом.).

НІМА'ШАКА *прысл., тое, што* немáшыка, немáшэка. Німáшака шчасця, дык і ета ні шчасця (Цагельня, Раг.+ +Грушаўка, Добр.; Леніна, Хойн.; Холмеч, Рэч.).

НІПЕ'ЎНЫ *прым., тое, што* непéўны. Вот у мяне ніпéўна нявестка, наказаў бог (Гардуны, Добр.).

НІССЯЛЮ'БА *прысл.* неахвотна. Ніссялю́ба рабіць, дык лепей не рабіць (Нова-Мазолаў, Жлоб.).

НІ'ТАЧНЫ *прым.* вузкі, доўгі. Лісця часнаку такія нітачныя (Даманавічы, Калінк.).

НІ'ТКА *ж.* нізка. З тых грыбоў, што ву нобралі, одна нітка белых (Грычынавічы, Жытк.).

НІХУПА'ЎКА *ж.* жанчына (*неахайная*). Я цебе шчас атлуплю, ніхупáўка ты (Баравікі, Светл.).

НІ'ЦА *прысл.* пахмурна. Зранку было сонца, а цяпер зрабілася холадна, ніца (Дзям'янкі, Добр.).

НІ'ЦІЦЬ *незак.* расці. У садзе картошка пачала ніціць (Пагоннае, Хойн.).

НІЦЫ'РКАНЫ *прым.* нядоены. Дык жа карова будзя сённі ніцы́рканая. Нада будзя ў тры часы пацы́ркаць (Хізы, Ветк.).

НІЧАГЕ'НЕЧКІ (нічагéнькі, нічагу́сенькі) *займ.* нічога. Стала і засланіла ўвесь свет, нічагéнечкі ні бачу (Хальч, Гом.); Нічагéнькі ні купіла (Сямінаўка, Раг.); Я сёння нічагу́сенькі не ела (Дубраўка, Добр.).

НІЧО'ГІ *прым.* 1. прыгожы. Нічóгі ў цябе жэмпер (Загор'е, Б.-Каш.); 2. слабы (*здароўем*). Які ты ў нас нічóгі, Іванка (Перароў, Жытк.); 3. *тое, што* негадзяшчы. І як она з ім жыве, ён жэ нічóгі, нічóгі (Бярэзнікі, Жытк.); Ну і нічóгі еты Іван, так і любіць, каб што-небудзь нагаварыць няпраўду (Пясчанікі, Жытк.). *Параўн.* недалу́жны, нікуды́шны.

НІ'ШКАМ *прысл.* ціха, моўчкі. Чаго ву сядзіце ніш-

кам, говорэце про што-небудзь (Бярэзнікі, Жытк.). *Парайн.* нішкі.

НІ'ШКІ *прысл., тое, што* нішкам. Зайшла ў хату, нікаго ня чую, ажно дзеці нішкі сядзяць сабе на печы (Буйнавічы, Маз.); І хто цебе за езык цягне, седзела б нішкі (Макарычы, Петр.).

НІШЧО' *займ.* ніштo, нічога. Ён ужо два гады нішчо не робіць (Перароў, Жытк.).

НІШЧЫ'МНІЦА *ж.* 1. ежа *(посная)*. Няма цяпер у нас нішчымніцы (Церахоўка, Добр.); Етая нішчымніца скора саўсім замучае (Тульгавічы, Хойн.); Перад пасхай трэба есці нішчымніцу (Кароткавічы, Жлоб.); 2. дні *(посныя)*. Надаела, дзеўка мая, усім нам нішчымніца, будзім біць парасёнка (Іскра, Чач.); У мяне цяпер нішчымніца (Узнаж, Рэч.+Крыўск, Б.-Каш.; Прудок, Калінк.; Пясчанікі, Жытк.).

НІШЧЫ'МНЫ *прым.* 1. посны. Нішчымны суп у цябе, без нічога (Баравікі, Светл.); Нішчымны суп як трава — без смаку (Халочча, Чач.); Дзеці цяпер такія сталі, нішчымнага нічога есці не хочуць (Хізы, Ветк.+Бабовічы, Гом.; Дубраўка, Добр.; Зарэчча, Жлоб.; Піркі, Браг.); 2. парожні. Нішчымнае вядро стаіць на лаве (Неглюбка, Ветк.); 3. пусты. У нас ніщчымных хат многа (Бабовічы, Гом.).

НІЯКАВА'ТЫ *прым.* малярослы. І з выгляду быў ніякаваты (Асінаўка, Чач.).

НІЯ'КІ *прым.* худы, хваравіты. Ніякі такі дзіцёнак, які ні есць нічога, уродзі замучаны. У Даўдзюка ўнук паўтара года, ніякі дзіцёнак (Хізы, Ветк.); Мая Маруся такая зрабілась ніякая, што я не знаю, што рабіць мне. Я ёй даю лучччэ есці, а яна ніякая (Антонаў, Ельск.).

НО'ГЕЛЬ *м.* цвік. Убі ногеля ў сцену (Аголічы, Петр.).

НО'ЖАНЬЦЫ *толькі мн., памянш. да* ножніцы. Прынясі мне ножаньцы (Неглюбка, Ветк.).

НО'ЖНІ I *толькі мн.* танец. Калісь танцавалі ножні, зараз нямашака такіх (Піркі, Браг.).

НО'ЖНІ II *толькі мн.* ножніцы *(вялікія)*. Ножні багато большые за ножычкі (Аравічы, Хойн.); Папрасі ножні ў Ягора, дык я цібе падстрыгу хоць (Палессе, Чач.); Етымі ножнямі будзе добрэ авечкі стрыгці (Вуглы, Нар.+Бабовічы, Гом.; Неглюбка, Ветк.; Піркі, Браг.).

НО'ЗДРАВЫ *прым.* хлеб *(добра выпечаны)*. Як харошы хлеб, дык ён тады і нóздравы, ну ноздрамі (Хізы, Ветк.).

НО'МЕТКА *ж., тое, што* намётка II *у 1 знач.* Нóметку насіла, шчэ ў людзей була (Грабава, Жытк.).

НО'САЛЬ *м., зневаж.* чалавек *(насаты)*. Раз вялікі нос, то мы і гаворым нóсаль (Турбінка, Маз.).

НО'СІК *м.* 1. канец яйца *(востры)*. Пабіўся нóсік яйца (Неглюбка, Ветк.); У яйцы нóсік крэпкі (Багданавічы, Карм.); 2. частка бульбіны *(з вочкамі)*. Лепш за ўсё садзіць нóсікі (Грамавічы, Жлоб.).

НО'СЦАМ *прысл., тое, што* насцакóм. Ён і невінаваты быў, але яго сільна пабілі нóсцам (Пясчанікі, Жытк.).

НО'ТНЫ *прым.* капрызны. Нóтная дзеўка (Мормаль, Жлоб.).

НО'ЧКА *ж., толькі адз.* танец. Інцерэсны, паважный танец «нóчка». «Нóчка цёмна, юбка чорна, кохта бела, гуляй смела» (Баравікі, Светл.).

НО'ШКА *ж.* 1. вязка. Падай нóшку на плечы (Неглюбка, Ветк.); Адарка етай ноччу нóшку сена прынесла (Стаўбун, Ветк.); Яна навязала нóшку сена ў посцілку і нясе (Хізы, Ветк.+Бабовічы, Гом.; Бывалькі, Лоеўск.; Марозавічы, Б.-Каш.; Харомцы, Акц.); 2. мяшок *(невялікі)*. Я паклала гарбузы табе ў нóшку, нясі сабе (Буйнавічы, Лельч.+Запясочнае, Маз.).

НУ'ДЗЬГА *ж., толькі адз.* стан пчалы *(без узятку)*. Ета калі ўзятку німа, то пчолы і сядзяць усё ўрэмя, ета значыць у іх нýдзьга (Хізы, Ветк.); Сяголета нýдзьга ў пчол (Холмеч, Рэч.).

НУ'ЖА *ж., зборн.* насякомыя. Як нýжа дапякла мой товар, дык ён як здрочыцца (Аравічы, Хойн.).

НУ'ЖАЦЬ *незак.* есці. Навару Сцяпану чаго, а сама сала нýжаю (Палессе, Чач.).

НУ'ТРАШЧЫ *толькі мн.* вантробы. Ек розберэм кобана, так еты ўсе нýтрашчы вуцегном (Аравічы, Хойн.).

НЫРКНУ'ЦЬ *незак.* нырнуць. Глядзі-цька, Мішка як ыркнýў, дык у вадзе і сычас дзержыцца (Палессе, Чач.).

НЮ'НЬКІ *толькі мн.* асака. Нюнькі каровам у нас сабіраюць (Неглюбка, Ветк.); Пойдзём на балота нюнькі рваць (Нямкі, Ветк.).

НЯБЁСЫ *толькі мн.* неба. Нябёсы сёння чмурыя (Дзякавічы, Жытк.+Баравікі, Светл.; Насовічы, Добр.).

НЯБО'ГА *ж.* 1. пляменніца. Адна нябóга йшла за-

муж — была на свадзьбе (Аравічы, Хойн.); Прыехала нябо́га з мужыком, нада ў госці к сабе пазваць (Астрагляды, Браг.); Як там жыве мая нябо́га? (Узнаж, Рэч.); 2. сваячка. Мо', прыдзе нябо́га сёня, то дай ёй мукі (Запясочнае, Маз.); Прышла нябо́га ўчорась і паклікала нас са старым на вяселле (Крупка, Маз.); 3. нявестка. Э, Лукер'я, мая нябо́га ні дужа кіняцца на работу (Святое, Рэч.).

НЯБО'Ж *м.* пляменнік А нябо́ж жа мой ў інсцітуці вучыцца (Кавака, Браг.). Гэта мой нябо́ж мне гаварыў (Сяўкі, Лоеўск.). *Параўн.* нябо́жа, нябо́жка.

НЯБО'ЖА *м., тое, што* нябо́ж. Нябо́жа ж ты мой, хадзі ў хату. Нябо́жа мой доўга не прыходзіў да мяне (Хізы, Ветк.). *Параўн.* нябо́жка.

НЯБО'ЖКА *м., тое, што* нябо́ж. Мой нябо́жка, ідзі да мяне (Піркі, Браг.).

НЯВЕ'ГЛАС *м.* гарэза. То няве́глас такі Мікалай (Піркі, Браг.).

НЯВО'Ж *прысл.* няўжо. О, Макар хітры, нявó́ж ён будзя табе работаць (Палессе, Чач.).

НЯДА'ЎНЕНЬКА *прысл. памянш. да* нядаўна. Нядаўненька Дзяніс прывёз сабе дроў (Запясочча, Жытк.).

НЯДБА'ЙНІК *м.* мужчына *(нядбайны)*. Мой мужык такі ўжэ нядба́йнік, нічога не хоча ў двор прыабрыць (Неглюбка, Ветк.).

НЯДБА'ЙНІЦА *ж.* жанчына *(нядбайная)*. Мая нядба́йніца толькі гуляць хоча, а за работу і не бярэцца (Неглюбка, Ветк.). *Параўн.* нядба́ліца.

НЯДБА'ЛІЦА *ж., тое, што* нядба́йніца. Нядба́ліца ты, жонка мая, у хаце ў цябе не прыбрана, не зварана (Неглюбка, Ветк.).

НЯДО'БРАЕ *н.* не́чысць. Не свісці ў хаце, бо рознае нядо́брае завядзецца, будзе па хаце хадзіць. Ну, покась розная (Баравікі, Светл.).

НЯДУ'ШЛЫ *прым.* нядошлы. Пасля хваробы Раман нейкі няду́шлы ходзя (Буйнавічы, Лельч.).

НЯЗНА'ЧАЧКА *ж.* дзяўчынка *(неразвітая)*. Дзевачка васьмі лет жыла нязна́чачкай (Палессе, Чач.).

НЯЛЮ'ДНІК *м., тое, што* не́людзь *у 1 знач.* Жыве нялю́днікам, ён ні да каго, да яго ніхто не ходзіць (Забалацце, Раг.).

НЯМА'ШАКА *прысл., тое, што* нема́шыка. Няма́шака ў нас ў хаце масла (Заходы, Рэч.); Няма́шака нічагу-

сенькі з жыроў (Насовічы, Добр.+Аравічы, Хойн.; Быч, Карм.; Камаровічы, Петр.; Славань, Светл.; Стаўбун, Ветк.; Сяўкі, Лоеўск.).

НЯПЕ'ЎНЫ *прым.* 1. няякасны *(пра расліны і насенне).* Няпе́ўна пшаніца (Гарадзец, Раг.); Купіла семена, а яно няпе́ўнае (Новая Дуброва, Акц.); 2. слабасільны *(пра дзіця).* Ужо восем месяцаў маёй Надзі, а яшчэ такая яна няпе́ўная (Узнаж, Рэч.).

НЯРО'Т *м.* нерат. Наставім няро́таў, а самі ідом далей (Піркі, Браг.).

НЯСТО'МЧЫВАСЦЬ *ж.* нястомнасць. У гэтай сабакі нясто́мчывасць (Піркі, Браг.).

НЯЎДО'БА *ж.* 1. поле *(непрыгоднае для апрацоўкі).* Там, дзе я касіла сена, ета няўдо́ба (Грамавічы, Жлоб.); Няўдо́ба вакруг (Неглюбка, Ветк.+Астрагляды, Браг.; Ліцвінавічы, Карм.; Марозавічы, Б.-Каш.; Насовічы, Добр.). *Параўн.* няўдо́бства; 2. жанчына *(неахайная).* Ох і няўдо́ба ж ты (Быч, Карм.). *Параўн.* няўхлю́я.

НЯЎДО'БСТВА *н., тое, што* няўдо́ба *ў 1 знач.* Такое няўдо́бства ўдзелалі мне ў гэтым годзе: ні пасеяць, ні пажаць (Насовічы, Добр.).

НЯЎМЕ'КА *аг., тое, што* неве́дало. Дачка ў яе такая няўме́ка (Вышалаў, Петр.). *Параўн.* недалу́га, недарэ́ка, недацёпа, не́ўра.

НЯЎХЛЮ'Я *ж., тое, што* няўдо́ба *ў 2 знач.* Э, няўхлю́я! Ні ўмела павярнуцца, ужэ вымазалась (Старая Рудня, Жлоб.).

НЯХО'ТА *ж., толькі адз.* лянота. Напала на цябе няхо́та, дый годзе (Селішчы, Светл.).

НЯЦЮ'КАННЕ *н., толькі адз.* нацкоўванне *(сабакі на звера).* Сабака павінен пасля няцю́кання добра гнаць (Аравічы, Хойн.).

НЯЧЫ'СЦІК *м.* д'ябал. Прычапіўся, як той нячы́сцік, няма рады (Баравое, Лельч.); Глядзі ж, не лазь глыбока, нячы́сцік зацягне з сабой у ваду (Буйнавічы, Лельч.); Ні чалавек, а нячы́сцік нейкі быў. Сядзі ціха, нячы́сцікі цябе носяць (Халочча, Чач.).

## СКАРАЧЭННІ І ЎМОЎНЫЯ АБАЗНАЧЭННІ

### 1. Назвы раёнаў Гомельшчыны

Акц.— Акцябрскі; Б.-Каш.— Буда-Кашалёўскі; Браг.— Брагінскі; Ветк.— Веткаўскі; Гом.— Гомельскі;

Добр.— Добрушскі; Ельск.— Ельскі; Жлоб.— Жлобінскі; Жытк.— Жыткавіцкі; Калінк.— Калінкавіцкі; Карм.— Кармянскі; Лельч.— Лельчынскі, Лоеўск.— Лоеўскі; Маз.— Мазырскі; Нар.— Нараўлянскі; Петр.— Петрыкаўскі; Раг.— Рагачоўскі; Рэч.— Рэчыцкі; Светл.— Светлагорскі; Хойн.— Хойніцкі; Чач.— Чачэрскі.

## 2. Граматычныя і стылістычныя паметы

абрад.— абрадавае; абразл.— абразлівае; аг.— агульны род; анат.— анатамічнае; арх.— архітэктурнае; астр.— астранамічнае; бат.— батанічнае; буд.— будаўнічае; вет.— ветэрынарнае; ветл.— ветлівае; выкл.— выклічнік; геагр.— геаграфічнае; гіст.— гістарычнае; груб.— грубае; дап. дз.— дапаможны дзеяслоў; дзіц.— дзіцячае; дзеепрым.— дзеепрыметнік; ж.— жаночы род; заал.— заалагічнае; займ.— займеннік; зак.— закончанае трыванне; зборн.— зборнае; зневаж.— зневажальнае; злуч.— злучнік; іран.— іранічнае; крав.— кравецкае; кулін.— кулінарнае; ласк.— ласкальнае; лаянк.— лаянкавае; м.— мужчынскі род; мад.— мадальнае; мед.— медыцынскае, міф.— міфалагічнае; н.— ніякі род; незак.— незакончанае трыванне; павел.— павелічальнае; памянш.— памяншальнае; пар. ст.— параўнальная ступень; параўн.— параўнайце; перан.— пераноснае; праст.— прастамоўнае; прым.— прыметнік; прыназ.— прыназоўнік; прысл.— прыслоўе; пчал.— пчалярскае; рыб.— рыбалоўнае; сад — садовае; спец.— спецыяльнае; с/г — сельскагаспадарчае; стал.— сталярскае; субст.— субстантываванае; толькі адз.— толькі адзіночны; толькі мн.— толькі множны; ткац.— ткацкае; тэкст.— тэкстыльнае; устар.— устарэлае; цясл.— цяслярскае; шавецк.— шавецкае; экспр.— экспрэсіўнае.

## ЗМЕСТ

### I. ЛЕКСІКАЛОГІЯ І СЛОВАЎТВАРЭННЕ



### II. МАРФАЛОГІЯ І СІНТАКСІС



### III. ЛЕКСІКАГРАФІЯ

БЕЛОРУССКИЙ ЯЗЫК

*Выпуск 5*

На белорусском языке

Издательство Белорусского государственного университета им. В. И. Ленина. Минск, ул. Московская, 15

Рэдактар А. І. Гутарава
Мастак С. В. Кузмічоў
Мастацкі рэдактар І. Х. Беленькая
Тэхнічны рэдактар В. П. Безбародава
Карэктары В. А. Ждановіч, А. М. Гуль

ІБ № 188

АТ 10740. Здадзена ў набор 6/IV 1977 г. Падпісана да друку 24/VIII 1977 г. Фармат 84×108 1/32. Папера друкарская № 3. Ум. друк. арк. 9,66. Ул.-выд. арк. 10,02. Заказ 168. Тыраж 1000 экз. Цана 1 руб. 50 кап.

Выдавецтва Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна. Мінск, вул. Маскоўская, 15.

Надрукавана з набора ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарні выдавецтва ЦК КП Беларусі, Мінск, Ленінскі праспект, 79 у друкарні імя Францыска (Георгія) Скарыны выдавецтва «Навука і тэхніка» АН БССР і Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Ленінскі праспект, 68. Зак. 1827.

**У ВЫДАВЕЦТВЕ БДУ імя У. І. ЛЕНІНА**
**У 1977 ГОДЗЕ**
**ВЫЙШЛА У СВЕТ КНІГА:**

*С. М. Грабчыкаў.* **Цяжкія выпадкі ўжывання блізкіх па гучанню слоў** (слоўнік-даведнік).

Кніга з'яўляецца першай спробай стварэння слоўніка паронімаў беларускай мовы. У яе ўключаны словы, блізкія па гучанню, але розныя па значэнню. Кожнаму слову даецца тлумачэнне і прыводзіцца ілюстрацыйны прыклад.

Слоўнік прызначаецца журналістам, пісьменнікам, выдавецкім работнікам, студэнтам філалагічных факультэтаў, настаўнікам беларускай мовы, вучням старэйшых класаў.